...ТЭКА БРЫГАДЗІРА



Л. М. КРАПІЎНЕР
В. І. РАЖДАЕЎ

# ДАВЕДНІК ВЕТСАНІТАРА



ДВБ • МЕНСК • 1936



БІБЛІЯТЭКА БРЫГАДЗІРА

Л. М. КРАПІЎНЕР, В. І. РАЖДАЕЎ




# ДАВЕДНІК ВЕТСАНІТАРА



З 25 РЫСУНКАМІ






ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУС
МЕНСК • СЕЛЬГАССЕКТАР • 1936

## ДА ЧЫТАЧА

Гэты даведнік змяшчае рад звестак, неабходных ветсанітару ў яго практычнай рабоце. У даведніку ізложаны гігіенічныя правілы ўтрымання і догляду за жывёлай і найбольш сустракаемыя незаразныя і заразныя хваробы. Для лепшага разумення апісаных хвароб даны звесткі аб узбуджальніках і важнейшых прызнаках хвароб, а таксама звесткі па дэзінфекцыі.

Матэрыял „Даведніка ветсанітара“ абгаварваўся і прапрацоўваўся на нарадзе калгасных ветсанітараў пры Белакалітвенскай райветлячэбніцы Азова-Чорнаморскага края (25—26 снежня 1934 г.). У абгаварэнні ўдзельнічалі ветработнікі тт. Дзеравянкін і Захараў і ветсанітары Піскуноў Я. П. (калгас імя Сталіна), Назараў П. Ф. (калгас „Грем. Ключ“), Каменцэў А. М. (калгас „Красная Заря“), Двухбратаў К. Т. (калгас „Новая Жизнь“), Калінін П. Ф. (калгас „1 августа“), Сяколкін А. І. (калгас „Северный Кавказ“), Папоў Т. Г. (Белакалітвенскі калгас) і Свінароў А. (калгас „Форштадт“).

Раздзелы: „Абавязкі ветсанітара“, „Значэнне ветпрафілактычнай прапаганды“ з 1 аддзела, V, VI VII і VIII аддзелы напісаны ветурачом Л. М. Крапіўнер. II, III і IV аддзелы напісаны ветурачом В. І. Раждаевым.

Л. М. Крапивнер, В. И. Раждаев
СПРАВОЧНИК ВЕТСАНИТАРА
ОГИЗ. Сельхозгиз. 1935.
Перевод с русского языка

## I. АБАВЯЗКІ ВЕТСАНІТАРА

У кожным калгасе, буйнай калгаснай таварнай ферме, або соўгаснай ферме павінен быць вылучан работнік, які ведае ветэрынарна-санітарныя правілы і ўмее своечасова праводзіць элементарныя супроць эпізоатычныя мерапрыемствы. Гэты работнік называецца ветэрынарным санітарам.

Ветсанітар працуе пад кіраўніцтвам ветурача (або ветфельчара) і

а) выконвае даручэнні ветурача або зоатэхніка па назіранню за своечасовым кармленнем, вадапоем і чысткай жывёл, уборкай памяшкання і размяшчэннем с.-г. жывёл;

б) назірае за правільным скарыстаннем рабочай і прадуктыўнай жывёлы (асвабаджэнне ад работы хворых, цяжарных і т. д.);

в) прымае першыя неабходныя меры пры паяўленні ў брыгадзе (ферме, участку) захворванняў жывёл (адзяленне хворых ад здаровых, дэзінфекцыя) і выклікае ветурача;

г) аказвае першую дапамогу жывёлам у няшчасных выпадках да прыбыцця ветурача або ветфельчара;

д) сочыць за правільным доглядам і ўтрыманнем цяжарных жывёл і за правільным выхаваннем маладняка;

е) прымае ўдзел у ветэрынарна-санітарнай падрыхтоўцы жывога цягла да палявых работ;

ж) назірае за ўтрыманнем жывёламагільнікаў і ачысткай пашаў ад трупаў жывёл.

Выконваючы сваю работу, ветсанітар павінен памятаць, што ён абавязан уважліва адносіцца да аказання першай дапамогі жывёлам і да арганізацыі ветэрынарных мерапрыемстваў. Ветсанітар з'яўляецца нібы бліжэйшым памочнікам участковага ветурача, працуючым непасрэдна ў калгасе. Як больш вопытны ў жывёлагадоўчай брыгадзе, ветсанітар павінен быць старанным, прыкладным калгаснікам і такім чынам ён будзе карыстацца аўтарытэтам сярод таварышоў па рабоце. Патрабуючы ад кожнага калгасніка выканання даручаных яму заданняў па догляду за рабочай і прадуктыўнай жывёлай, ветсанітар адначасова сам прымае ўдзел у правадзімых мерапрыемствах, даючы ўзорныя паказчыкі сваёй работы.

Асноўнай работой ветсанітара з'яўляецца правядзенне ў жыццё патрабаванняў вет-зоаправіл. Ветсанітар прымае актыўны ўдзел у рабоце с.-г. вытворчай нарады (жывёлагадоўчай брыгады, калгаса ў цэлым), раз'ясняе асноўныя правілы ветэрынарнай прафілактыкі і мэтазгоднасць правядзення іх у жыццё. Вялікую актыўнасць павінен праявіць ветсанітар пры назначэнні калгасам пастуха. Пастух павінен быць адным з перадавых калгаснікаў, якому ўвесь калектыў можа даверыць сваё стада. У сваёй рабоце ветсанітар трымае самую цесную сувязь з пастухамі калгаснага стада, з конюхамі, валавікамі, скотнікамі, чабанамі і свінаводамі.

Пры выкананні сваіх абавязкаў, ветсанітар калгаса або калгаснай таварнай фермы кіруецца ўказаннямі загадчыка ветэрынарнага ўчастка або раённага ветурача.

Дакладваючы аб ветэрынарна-санітарным стане конскага пагалоўя або жывёлы таварнай фермы, ветсанітар адзначае існуючыя недахопы і атрымлівае ўказанні ветурача (або ветфельчара), што рабіць у далейшым.

Аб усіх выпадках невыканання ветэрынарна-санітарных правіл ветсанітар даводзіць да ведама праўлення калгаса, а ў неабходных выпадках таксама загадчыка ветучастка.

Перыядычна (не радзей аднаго разу ў месяц) ветсанітар дакладвае аб сваёй рабоце с.-г. вытворчай нарадзе. У гэтым дакладзе ён асвятляе стан укормленасці конскага пагалоўя, рабочай і прадуктыўнай жывёлы, якой якасці і ў якім выглядзе даюцца кармы, як праводзяцца ветэрынарныя мерапрыемствы і іх уплыў на прадуктыўнасць стада і ступень працаздольнасці жывога цягла. Пералік гэтых мерапрыемстваў ён папярэдне прапрацоўвае сумесна з загадчыкам ветэрынарнага ўчастка.

Ветсанітар прымае актыўны ўдзел у рабоце жывёлагадоўчай секцыі сельсовета.

## ЗНАЧЭННЕ ВЕТЭРЫНАРНА-ПРАФІЛАКТЫЧНАЙ ПРАПАГАНДЫ І ЯЕ АРГАНІЗАЦЫЯ

Поспех правядзення ў жыццё таго ці іншага ветэрынарна-санітарнага мерапрыемства залежыць ад своечасовага раз'яснення грамадскасці яго важнасці. Гэтую работу павінны выконваць ветурач, ветфельчар і ветсанітар.

Востры недахоп ветэрынарных спецыялістаў у раёнах не дае ім магчымасці заўсёды асабіста ва ўсіх калгасах праводзіць ветэрынарна-прафілактычную прапаганду. Таму неабходна шырока прыцягнуць да гэтай работы ветсанітараў. Ветсанітар павінен умець раз'ясніць значэнне ветэрынарных мерапрыемстваў. Для прыкладу возьмем работу ветсанітара ў перыяд пагалоўнага абследвання на сап конскага саставу па калгасу.

Атрымаўшы інструктаж ад ветурача, ветсанітар раз'ясняе калгаснай грамадскасці, як лепш і хутчэй правесці намечаную работу. Для гэтага ён даводзіць перш за ўсё да ведама праўленне калгаса аб прадстаячым абследванні конскага пагалоўя. Праўленне калгаса распрацоўвае план для конных брыгад, у якім прадугледжвае асвабаджэнне коней ад работы ў дзень абследвання.

Далей ветсанітар удзельнічае на сходзе калгаснікаў у кожнай коннай брыгадзе і раз'ясняе значэнне прадстаячага ветэрынарна-санітарнага агляду і даследвання коней на сап. Сумесна з перадавымі брыгадзірамі ветсанітар удзельнічае ў заключэнні дагавароў соцыялістычнага спаборніцтва паміж асобнымі коннымі брыгадамі на лепшае правядзенне абследвання (своечасовы прывод коней, састаўленне правільных вопісаў, стан коней, ачыстка і дэзінфекцыя канюшань і т. д.). Для больш паспяховага раз'яснення праводзімых мерапрыемстваў ветсанітар скарыстоўвае таксама калгасную насценную газету.

У кожным асобным выпадку прыходзіцца выбіраць найбольш правільны метад вядзення масавай ветэрынарна-асветнай работы. Агульная палітыка-асветная работа праводзіцца ў хатах-чытальнях або ў калгасных клубах. Зараз у многіх калгасах ёсць хаты-лабараторыі, вакол якіх канцэнтруецца работа па ўнядрэнню розных с.-г. ведаў.

Ветсанітар павінен знаходзіцца ў радах культактыва калгаса. У хатах-чытальнях і хатах-лабараторыях перыядычна арганізуюцца кансультацыі па жывёлагадоўчых пытаннях. Можна таксама ў хаце-чытальні або хаце-лабараторыі завесці спецыяльны сшытак пытанняў і адказаў па ветэрынарыі. Калгаснікі запісваюць у сшытак цікавячыя іх пытанні. Калі ветсанітар можа правільна даць адказ, то ён сам раз'ясняе калгасніку цікавячае яго пытанне. У адваротным выпадку адказы дае на ўсе пытанні ветурач.

У хатах-чытальнях і хатах-лабараторыях арганізуюцца куткі жывёлагадоўлі. Ветсанітар дагаварваецца аб закупцы для гэтага кутка плакатаў і кніжак па ветэрынарыі. Ён таксама сумесна з ізбачом арганізуе громкія чыткі найбольш цікавых раздзелаў ветэрынарных брашур. Чытку можа праводзіць ізбач, або сам ветсанітар.

Як правіла, райветурач абавязан прапрацоўваць план і тэматыку ветпрапаганды і інструктаваць ветсанітара.

---

## II. ЗНАЧЭННЕ ПРАВІЛЬНАГА ДОГЛЯДУ І ЎТРЫМАННЯ ЖЫВЁЛ

Для развіцця соцыялістычнай жывёлагадоўлі вялікае значэнне мае правільнае ўтрыманне жывёл і беражны догляд за імі.

Таму задачай кожнага ветсанітара з'яўляецца самому навучыцца і навучыць другіх правільна даглядаць за жывёлай, рацыянальна карміць яе і ў меру эксплаатаваць; толькі тады жывёла будзе не толькі здаровай, але і вельмі прадуктыўнай.

Навука аб прычынах і ўмовах, уплываючых на здароўе жывёл, і аб спосабах правільнага іх утрымання і скарыстання называецца зоагігіенай. Гэтая навука ўказвае, як можна зберагчы здароўе і папярэдзіць хваробы жывёл і як зрабіць іх больш прадуктыўнымі.

І практыка паказвае, што там, дзе выконваюцца патрабаванні зоагігіены, жывёлагадоўчыя гаспадаркі мацнеюць, пагалоўе жывёлы павялічваецца, якасць жывёлагадоўчай прадукцыі паляпшаецца.

Так, напрыклад, устаноўлена, што добрая вентыляцыя памяшканняў для кароў значна павышае ўдой малака, добрая чыстка папераджае жывёлу ад хвароб і добрая якасць вады ўплывае на ўкормленасць жывёл і на іх малочную і мясную прадуктыўнасць.

Яшчэ большае значэнне мае выкананне патрабаванняў зоагігіены пры выхаванні маладняка. Меўшыя месца ў некаторых гаспадарках у мінулыя гады страты маладняка ў пераважнай большасці выпадкаў з'яўляліся вынікам антысанітарнага ўтрымання і няправіль-

нага кармлення маладняка. Падвядзенне пад нашу сацыялістычную жывёлагадоўлю магутнай тэхнічнай базы (правільная арганізацыя скотнага двара, механізацыя вытворчых працэсаў і інш.) дае яшчэ большую магчымасць унядрыць зоагігіену ва ўсе вытворчыя працэсы жывёлагадоўчага соўгаса і калгаса.

## УПЛЫЎ НА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЁЛ АТМАСФЕРЫ І КЛІМАТУ

### Акліматызацыя

Адной з асноўных умоў правільнага развіцця арганізма жывёл з'яўляецца збыткоўная дастаўка гэтаму арганізму чыстага, багатага кіслародам паветра. Спыненне доступу паветра выклікае ўдушэнне жывёлы, а ўдыханне на працягу доўгага часу нячыстага паветра цягне за сабой паніжаную працаздольнасць і іншы раз нават смерць яе.

Ветсанітар павінен сачыць за тым, каб жывёла мела заўсёды дастатковую колькасць чыстага паветра.

Для гэтага неабходна, каб жывёлы штодзённа выпускаліся на прагулку, а ў памяшканнях трэба зрабіць правільную вентыляцыю. На кожную жывёлу трэба мець дастатковую кубатуру паветра, а ў памяшканнях павінна захоўвацца чыстата.

Прагулкі на свежым паветры абавязковы кожны дзень для ўсіх жывёл і асабліва для малочнай жывёлы і маладняка. Конь атрымлівае дастаткова паветра ў часе работы, а малочная жывёла павінна мець прагулкі штодзённа, за выключэннем дажджлівых дзён. У часе прагулкі жывёлы павінны знаходзіцца ў руху. Час прагулкі жывёл павінен падаўжацца паступова. Пры добрым надвор'і жывёлам неабходна гуляць як мага больш.

З прычыны важнасці прагулак для здароўя жывёл паблізу скотнага двара адводзіцца ўчастак для гэтых прагулак, які пажадана абсадзіць дрэвамі і абнесці плотам (ахова ад вятроў і снегу). У памяшканнях па-

ветра ачышчаецца ад выпарэнняў і аміяка (газ, які змяшчаецца ў мачы) пры дапамозе вентыляцыі, прызначэнне якой прапускаць свежае і ўдаляць сапсаванае паветра і сырасць. Гэтая ачыстка паветра дасягаецца пабудовай у памяшканнях вентыляцыйных (выцяжных) труб (сістэмы Кінга, Мюіра) або фортак у вокнах, якія



Рыс. 1 і 2. Вентыляцыя Мюіра.

трэба так прыстасаваць, каб халоднае паветра не падала прама на жывёл (рыс. 1, 2 і 3).

У дрэнна вентылюемых памяшканнях скапленне аміяка выклікае раздражэнне дыхальных шляхоў (чыханне, кашаль) і вачэй (слёзацячэнне); асабліва хутка вызначаецца наяўнасць аміяка пры ўваходзе ў памяшканне з чыстага паветра („б'е ў нос").

Добра праветрываць памяшканне трэба ў часе прагулкі жывёл. Для гэтага павінны быць адкрыты ўсе дзверы і вокны, зразумела пры ўмове, калі ў ім не знаходзіцца ніводнай жывёлы.

Апрача добрай вентыляцыі памяшканні павінны мець дастатковую вышыню, якая вызначаецца ветурачом або зоатэхнікам. Так, канюшня павінна мець размеры з разліку на кожнае стойла 3 м даўжыні, 2 м шырыні (не лічачы праходаў і перагародак) і каля 4 м вышыні.

Памяшканне для жывёл павінна быць сухім, бо сырасць выклікае ў жывёл захворванне (рэўматызм). Маладняк у сырых памяшканнях расце дрэнна і часта гіне. У коней ад сырасці падлогі паяўляецца „макрэц“.




Рыс. 3. Вентыляцыя Кінга.

У сухім паветры хутчэй гінуць многія мікробы; апрача таго цяпло і холад у сухім паветры значна лягчэй пераносяцца жывёламі, чым у вільготным.

Істотны ўплыў на стан здароўя і на прадуктыўнасць жывёл аказвае клімат, пад якім разумеюць стан надвор'я ў пэўнай мясцовасці на працягу доўгага перыяда часу.

Уплыў клімату на жывёл асабліва выяўляецца пры перасяленні іх з адной мясцовасці ў другую з рознымі кліматамі. Жывёлы ў такіх выпадках павінны прыстасоўвацца да ўмоў новага клімату, новых відаў корму, новых умоў размяшчэння, якія часта значна адрозні-

ваюцца ад умоў ранейшай мясцовасці. Гэтае прыстасаванне жывёл да ўмоў новага клімату называецца акліматызацыяй. Перыяд акліматызацыі вельмі небяспечны для жывёл, бо ў гэты час яны лягчэй захворваюць рознымі хваробамі і трудней іх пераносяць.

Для папярэджання жывёл ад захворванняў у гэты перыяд трэба паставіць іх у лепшыя ўмовы ўтрымання, кармлення і догляду, прычым пераход да пастаянных умоў утрымання ў гаспадарцы трэба праводзіць паступова.

Вопыт паказвае, што жывёлы з мясцовасцей з цёплым кліматам хутчэй акліматызуюцца ў больш халодным клімаце, чым наадварот.

## ГЛЕБА, ВАДА, ІХ УПЛЫЎ НА ЗДАРОЎЕ ЖЫВЁЛ

Істотнае значэнне ў зоагігіене маюць уласцівасці глебы, якія аказваюць вялікі ўплыў на здароўе жывёл. З уласцівасцямі глебы прыходзіцца лічыцца пры выбары ўчастка пры пабудове памяшканняў для жывёлы, пашы, абсталявання вадапою, тэрыторыі для жывёламагільніка і інш.

Ад уласцівасцей глебы залежаць якасць расліннасці, якасць вадапою і многія санітарныя ўмовы. Па вільготнасці адрозніваюць сырую і сухую глебу. У сырой глебе грунтовая вада займае паверхневы слой і, змешваючыся з надглебавай вадой, утварае балота, топкае месца, нізіну, мачажыну. У сухой глебе грунтавая вада знаходзіцца значна глыбей, і верхнія слаі яе непранікальны для надглебавай вады.

У санітарных адносінах найбольшую небяспеку прадстаўляе сырая глеба, бо яна з'яўляецца спрыяльным асяроддзем для развіцця мікробаў, заразных хвароб і зародкаў рознага роду глістоў (пячоначных, лёгачных і інш.). Па тых-жа прычынах небяспечны і вадапоі ў сырых мясцовасцях. Сырая глеба мае паверхневыя застойлівыя вадаёмы, вада якіх шкодна і небяспечна для

жывёл. Сырая балоцістая глеба дае нізкарослую непажыўную расліннасць і, апрача таго, з'яўляецца рассаднікам шкодных і атрутных для жывёл траў. Нярэдкі таксама выпадкі, калі ў жывёл, выганяемых на сырыя, забалочаныя пашы, часта паяўляюцца захворванні канцавін.

Памяшканні для жывёл павінны будавацца на сухой глебе, каб унікнуць паяўлення ў іх сырасці.

Лепшымі месцамі для пасвіння таксама будуць сухія ўчасткі, калі, зразумела, сухасць глебы не перашкаджае добрай расліннасці. Сырыя-ж тэрыторыі пры скарыстанні іх пад пасвінне павінны папярэдне асушацца шляхам правядзення меліяратыўных работ.

Жывёлы павінны быць забяспечаны дастатковай колькасцю добраякаснай вады. Конь пры кармленні сухім кормам выпівае 2—3 вядры ў суткі, карова—25—30 л, авечка—1,5—3 л, свіння—ад 4 л і больш у залежнасці ад вагі. Паіць жывёл трэба вадой з натуральных вадаёмаў, калі яны праточныя, або з артэзіянскіх калодзежаў. Лепш за ўсё вада артэзіянскіх калодзежаў.

Нельга паіць з вадаёмаў са стаячай вадой (балоты, лужы, пруды, канавы), бо яны ва многіх выпадках з'яўляюцца прычынай заразных і асабліва глісных захворванняў.

Вада для паення павінна быць бясколерная, празрыстая і без паху. Пры карыстанні вадой з натуральных вадаёмаў трэба паклапаціцца, каб у іх не сцякалі рознага роду нечыстоты, не звальваўся гной, не вылівалася гнаёвая жыжка, і не выкідваліся трупы жывёл і птушак.

Месца вадапою трэба агарадзіць жэрдкамі, каб жывёлы не маглі заходзіць у ваду, муціць яе і забруджваць.

Лепшым месцам для вадапою з натуральных вадаёмаў будзе ўчастак берагу ракі з пясчаным дном, да якога падыходзіць адхонны падступ. Участак берагу, на якім адбываецца вадапой, павінен быць утрамбован

або высцелен шчэбнем ці гравіем, каб унікнуць утварэння мелкіх лужын.

Неабходна пільна сачыць за тым, каб ля калодзежа не было выбоін, з якіх жывёлы могуць піць ваду і заражацца.

Найбольш падыходзячай тэмпературай вады для паення трэба лічыць ваду ад 10 да 12°. Вельмі халодная вада можа выклікаць цяжкія захворванні (успаленне лёгкіх, рэўматызм, успаленне капыт, колікі, выкідышы і інш.), вельмі-ж цёплая вада робіць арганізм жывёл надзвычай нежным і пагаршае апетыт. Жывёл пояць 2—3 разы ў суткі. Зімой подступы да вадапою павінны быць зроблены так, каб жывёлы без асаблівых усілляў і рыску паваліцца маглі падыходзіць да іх. Для гэтага трэба ўнікаць крутых спускаў да месц вадапою і своечасова ўдаляць лёд каля калодзежаў.

Коней неабходна паіць з асобных замацаваных за кожным канём вёдзер і асабліва трэба асцярожна карыстацца вадапоем пры выездах за межы сваёй гаспадаркі. Праз агульныя вадапойныя карыты і вёдры перадаецца самая небяспечная для коней заразная хвароба—сап. Для таго, каб не пераблытаць вёдзер, на кожным вядры павінен быць надпіс з клічкай каня.

Вадапой павінен праводзіцца перад дачай зерневага корму. Нельга паіць разгарачаных жывёл, бо гэта выклікае ў іх прастудныя захворванні.

Каня можна напаіць у часе руху пры ўмове, калі ён пасля паення неадкладна будзе рухацца далей.

Нельга паіць жывёл хутка пасля дачы ім сакавітых кармоў або пасля паядання зерня.

## ГІГІЕНА ПАМЯШКАННЯЎ І ЎНУТРАНАГА АБСТАЛЯВАННЯ

Большасць жывёл многа часу праводзяць у памяшканнях, а таму захаванне здароўя і прадуктыўнасць іх значна залежаць ад стана і ўтрымання канюшань, кароўнікаў, свінарнікаў, кашараў і т. д.

Пры размяшчэнні жывёл у памяшканнях не павінна быць цеснаты, бо пры скучаным утрыманні лёгка перадаюцца заразныя хваробы і, апрача таго, затрудняецца догляд за імі.

Памяшканне павінна быць светлым, сухім, цёплым зімой і прахладным летам, чыстым і дастаткова прасторным.

Дзённае (сонечнае) святло добра дзейнічае на жывёл, робіць іх больш бадзёрымі, прадуктыўнымі і працаздольнымі; сонца забівае многіх мікробаў, якія выклікаюць заразныя хваробы жывёл. Наадварот, у цёмным памяшканні жывёлы робяцца вялымі, худзеюць, часта хварэюць; недастатковасць святла затрымлівае рост маладняка. Пры забеспячэнні памяшкання дзённым святлом прыкладна вылічваецца, што каб агульная плошча (светлавая) акон была не менш $^1/_{10}$ плошчы падлогі памяшканняў. Афарбоўка сценак у белы колер робіць памяшканні яшчэ больш светлымі. Вокны ў памяшканнях павінны рабіцца вышэй галавы жывёлы па прадоўжнай лініі сцяны, каб падаконнік быў прыкладна на 2—2,5 м ад падлогі, а верхні касяк—на 0,5 м ад столі. Ноччу неабходна памяшканне асвятляць і лепш за ўсё электрычнасцю. Пры неабходнасці карыстання карасінавым асвятленнем, трэба ўнікаць копаці і дыму і захоўваць меры перасцярогі супроць пажару. У памяшканні зімой павінна быць цёпла. У халодных памяшканнях жывёле патрабуецца больш корму, частка якога, замест таго, каб ісці на ўтварэнне малака, мяса, тлушчу, расходуецца на саграванне празмерна ахалоджанага цела жывёлы. Зрабіць памяшканне цёплым—справа не складаная. Жывёлы праз выдыхаемае паветра выдзяляюць вялікую колькасць цяпла; частка гэтага цяпла ўходзіць праз столь, сцены, падлогу і вентыляцыю, але не гледзячы на гэта пры добрым уцяпленні ўсё-ж можна стварыць патрэбную для жывёл колькасць цяпла. Само сабой зразумела, што ўцяпленне памяшканняў не павінна праводзіцца ва ўшчэрб

доступу чыстага паветра, а таму „закупорванне“ вентыляцыі, баязнь праветрываць памяшканне апрача шкоды нічога не прынясуць.

Тэмпература памяшканняў павінна трымацца зімой на ўзроўні: для коней і рабочых валоў—7—8° цяпла; маладняк, каровы ў часе ацёлу, племянныя коні патрабуюць больш павышанай тэмпературы—10—12°. Больш высокая тэмпература памяшканняў робіць жывёл вельмі нежнымі, менш устойлівымі супроць розных захворванняў.

Для ўцяплення памяшканняў патрабуецца шчыльная столь і добрая яе засыпка, а таксама і ўцяпленне сцен (праканапачванне і замазванне пазоў), у асаблівасці паўночнага і ўсходняга бакоў. Знадворку гэтыя сцены карысна ахоўваць ад халодных вятроў пасадкай хваёвых дрэў. Сухасць у памяшканнях дасягаецца добрай вентыляцыяй і праветрываннем іх, а таксама штодзённай уборкай і зменай падсцілкі.

Скапленне ў памяшканнях гною і бруду выклікае смурод і спёртае паветра; якое шкодна ўплывае на здароўе жывёл, атручвае іх арганізм і робіць схільным да markdown рознага роду захворванняў.

Ачыстку памяшканняў трэба праводзіць раніцой і ўвечары, прычым на час ачысткі жывёл лепш удаляць з памяшкання. Неабходна таксама старанна ачышчаць кармушкі для вадкага або поўвадкага корму, прымяняючы для гэтага пасля ўдалення прыстаўшых і засохшых частачак корму абмыванне іх кіпятком. Гной з памяшкання разам з падсцілкай штодзённа павінен вывозіцца на спецыяльны, агароджаны гноехавальнік, удалёны ад скотных двароў на адлегласць 100 м. Ён прадстаўляе сабой шырокую і доўгую яму глыбінёй 1—2 м. Пад гноехавальнік трэба выбіраць такое месца, якое-б не затаплялася сточнымі і дажджавымі водамі і лепш на глiністым грунце. Калі гэтага грунту няма, то дно гноехавальніка трэба цэментаваць. У адным з куткоў гноехавальніка робяць жыжкапрыёмнік, у які

павінны праходзіць стокі са скотнага двара і жыжка з гноехавальніка. Гноехавальнік і жыжкапрыёмнік павінны перыядычна і магчыма часцей ачышчацца.

Але штодзённай уборкі для падтрымання ў памяшканні чыстаты недастаткова. Апрача яе, не менш 2 разоў у год—восенню перад пастаноўкай жывёлы на стойлавае ўтрыманне і вясной перад выганам на пашу—трэба правесці поўную ачыстку ўсяго памяшкання, г. зн. не толькі падлогі, але сцен, столі і акон ад бруду, пылу, павуціны і інш. Пасля такой ачысткі праводзіцца дэзінфекцыя 10—20-процантным растворам свежагашанай вапны, прыгатоўленай у дзень дэзінфекцыі.

Пры ўзнікненні заразных хвароб, памяшканне больш часта і спецыяльна дэзінфіцыруецца па ўказанню ветурача або ветфельчара.

Чыстата павінна падтрымлівацца і ў дварах вакол памяшканняў. Сырасць, бруд, кучы гною ствараюць спрыяльныя ўмовы для развіцця мікробаў заразных хвароб і, апрача таго, збіраюць мух, якія непакояць жывёл.

**Падсцілка.** Акуратнае ўтрыманне жывёлы патрабуе чыстай, сухой, мяккай і дастатковай падсцілкі. Апрача чыстаты падсцілкай дасягаецца і захаванне здароўя жывёл. Утрыманне жывёл на голай падлозе з'яўляецца прычынай раду захворванняў лёгкіх, вымені, канцавін, мышц і інш.

Жывёлам у другой палове цяжарнасці і маладняку неабходна даваць больш падсцілкі.

У якасці падсцілачнага матэрыялу звычайна ўжываецца азімая салома, радзей мох, торф, чарот, трысцё, папараць, дрэвавыя лісці, дрэвавыя апілкі і дрэвавыя стружкі. Апошнія матэрыялы (апрача саломы і верхняга мохавага слою торфу) ужываюцца толькі ў выключных выпадках, калі няма саломы.

Штодзённа падсцілкі трэба даваць на галаву: коням і буйнай рагатай жывёле—2—3 кг, свінням—1—2 кг, авечкам—200—400 г. Падсцілка павінна быць сухой

і ў той-жа час няпыльнай. Падсцілка штодзённа павінна ўдаляцца пры ўборцы памяшкання і замяняцца новай; нанач падсцілкі даваць трэба больш, чым раніцой.

У кашарах падсцілка (матрац) мяняецца па меры патрэбнасці.

У кожнай жывёлагадоўчай гаспадарцы апрача памяшканняў для ўтрымання жывёлы павінны быць радзільнае памяшканне, ізалятар і карантыннае памяшканне.

**Радзільнае аддзяленне.** У агульным памяшканні жывёл спрыяльных умоў для родаў няма, бо тут нельга забяспечыць неабходнай чыстаты і спакою радзільніцам. Ад абстаноўкі і ўмоў родаў залежыць здароўе маткі і маладняка. Апрача таго, роды ў гэтых памяшканнях небяспечны ў адносінах распаўсюджання адной з самых небяспечных хвароб—бруцэлёза (інфекцыйнага аборта), а таксама і хвароб маладняка.

Радзільныя аддзяленні павінны быць ізаляваны ад скотнага двара або канюшні суцэльнай шчыльнай сцяной. У радзільным памяшканні павінен быць дастатковы прастор, тэмпература не ніжэй 12°, добрая вентыляцыя і асвятленне пры родах ноччу. Яно павінна ўтрымлівацца асабліва чыста і снабжацца дастатковай колькасцю лепшай падсцілкі.

Калі не з'яўляецца магчымым адвесці спецыяльнае радзільнае памяшканне, павінны быць выдзелены: для свіней—пастаянныя прасторныя стойлы, для авечак—агароджаныя загоны ў аўчарні, у якіх неабходна мець добрую падсцілку ў такой колькасці, каб ад халоднай падлогі нованароджаныя не маглі прастудзіцца.

**Ізалятар.** Пры паяўленні ў гаспадарцы заразнай хваробы, кожная захварэўшая і падазроная па захворванню жывёла павінна быць выдзелена з агульнага памяшкання і пастаўлена ў ізалятар. Ізалятар—гэта асобае памяшканне, удалёнае ад скотнага двара для ўтрымання заразна-хворых жывёл. Каб унікнуць раз-

носу заразы, ізалятар павінен мець свой абслугоўваючы персанал, інвентар і інш.

**Карантыннае памяшканне.** Ахова гаспадарак ад заносу заразы сазне з новапаступаючымі жывёламі ажыццяўляецца шляхам папярэдняй, да пуску ў агульнае памяшканне, пeратрымкі іх у карантыне. Тэрмін гэтай пeратрымкі для коней і свіней устаноўлен у 21 дзень, а для буйнай рагатай жывёлы і авечак—14 дзён. Для карантынавання павінны быць адведзены памяшканні за тэрыторыяй сядзібы гаспадаркі.

У часе карантыну жывёлы даследуюцца ветурачом або ветфельчарам на заразныя хваробы і толькі пасля ўказанага вышэй тэрміну і дазволу ветспецыяліста выпускаюцца ў гаспадарку.

Карантынуемыя жывёлы летам павінны мець асобую ізаляваную пашу для пасвіння без судакранання з жывёламі гаспадаркі.

## ГІГІЕНА ЖЫВЁЛ

**Чыстка.** Жывёла апрача лёгкіх дыхае скурай; праз скуру з арганізма выдзяляецца вада ў выглядзе поту і, апрача таго, скура рэгулюе тэмпературу цела. Таму для захавання здароўя жывёлы трэба ўстараніць усё тое, што перашкаджае скуры нармальна працаваць.

На паверхні скуры скапляецца пот, асядае пыл, ад ляжання на бруднай падсцілцы прыстаюць кал і бруд. Усё гэта перашкаджае нармальна працаваць скуры і непакоіць жывёлу. Неахайнае ўтрыманне скуры спрыяе захворванню лішаём, зачосамі, паяўленню вошай, валасеадаў, свербняў і іншых паразітаў. Таму чыстка неабходна для коней, буйнай рагатай жывёлы і свіней.

Чыстка праводзіцца так: сільна забруджаныя часткі цела праціраюць пучком саломы, затым конь чысціцца шчоткай супроць шэрсці і па шэрсці.

Нельга чысціць каня скрабніцай, бо зуб'і скрабніцы сільна раздражаюць і могуць нават параніць скуру

жывёлы. Скрабніца служыць для ачысткі шчоткі ад валасоў і пылу.

Вочы жывёлы абціраюцца асобай трапачкай, а знадворныя часткі палавых органаў—суконкай. Пры чыстцы тулава трэба старанна прачышчаць усе складкі і паглыбленні на скуры, дзе больш скапляецца бруду. Валасы на хвасце і грыве разбіраюцца рукамі і ачышчаюцца шчоткай; ужываць для іх расчосвання грэбень не трэба.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на чыстку ў перыяд ліняння жывёлы і пасля работы[1]).

Чыстка павінна праводзіцца на адкрытым паветры, за выключэннем дрэннага надвор'я і сільных маразоў, у часе якіх можна чысціць жывёл і ў памяшканні, папярэдне адкрыўшы дзверы і вокны, але з аднаго боку, каб унікнуць скразнякоў.

Чыстку лепш за ўсё праводзіць раніцой пасля вадапою. Не трэба чысціць каня ў той час, калі ён есць, бо гэта будзе непакоіць яго і адаб'ецца на пераважоўванні корму і яго ўсваенні.

Кожны конь павінен мець сваю асобную шчотку, скрабніцу, трапку і суконку, каб унікнуць разносу заразы. Усе гэтыя прадметы павінны захоўвацца ў асобай скрынцы з надпісам на ёй клічкі або нумара жывёлы.

**Купанне.** У летні час для ачысткі скуры можна купаць жывёл. Ахвотна купаюцца коні і свінні, менш ахвотна—каровы і авечкі.

Пры купанні трэба выконваць наступныя правілы: нельга купаць успацеўшых і разгарачаных жывёл; тэмпература вады павінна быць не ніжэй 18° С. Нельга купаць у застойных ілістых прудах, балотах і брудных ямах.

---

[1]) Пры вялікім скапленні бруду на скуры гэтыя месцы абмываюць мыльнай вадой. Абмытыя месцы павінны быць пасля гэтага расцёрты саломенным жгутам або трапкай досуха.



У вадзе жывёла павінна знаходзіцца не больш 10—15 мінут; пасля купання неабходна прымушаць жывёлу рухацца, пакуль не абсохне шэрсць.

**Догляд за нагамі і капытамі.** Догляд за нагамі і капытамі мае вялікае значэнне ў каня, паколькі апошнім мы карыстаемся як цяглавай сілай, у большасці выпадкаў прымушаючы яго бегчы або вазіць грузы па цвёрдых штучных дарогах.

Для папярэджання ад засечак пута робяць павязкі з тоўстай скуры або гумы з фланелевай падкладкай, умацоўваючы рэмнем з пражкай вышэй путавага сустава.

Калі конь дастае заднімі капытамі пярэднія, або, як гавораць, „куе", то робяць асобыя падковы са скошанымі пад сябе шыпамі.

Пры падкоўванні трэба памятаць асноўнае правіла: прыганяць трэба падкову да капыта, а не капыта да падковы. Перад падкоўваннем лішнія часткі капыта ўдаляюцца абрэзваннем і спільваннем. Падошвены край неабходна выраўніваць рашпілем, а не прыпальваннем гарачай падковай, бо ад гэтага прыпальвання капытны рог робіцца крохкім і крышыцца. Перакоўку коней трэба праводзіць перыядычна, лічачыся са станам падкоў, часам года і ўмовамі грунту і работ.

Жарабят і маладых коней не трэба падкоўваць да моманту скарыстання іх у рабоце па цвёрдых дарогах.

Карысна рабіць перапынак у падкоўванні вясной, калі работа па мяккаму грунту не выклікае неабходнасці падкоўваць капыты.

Непадкаваныя капыты неабходна расчышчаць і абразаць па меры патрэбнасці, але не радзей аднаго разу ў месяц.

У рагатай жывёлы іншы раз капыты, асабліва заднія, так сільна адрастаюць, што зачэпы загінаюцца кверху і жывёла стаіць на пятках. Каб унікнуць заломy—гэтага сільна адросшага рога—лішні капытны рог трэба абразаць, або абсякаць садовай пілой, садо-

вымі або спецыяльнымі нажніцамі і інструментамі (рыс. 4)

Канцавіны і капыты патрабуюць штодзённага догляду. Таму пры штодзённай чыстцы жывёлы трэба драўляным нажом ачышчаць падашву капыт ад прыстаўшага гною і бруду, а сценкі капыта абмываць вадой і абціраць насуха. Адначасова трэба аглядаць у жывёл стан скуры пад шчоткай. Ад бруднага і сырога ўтрымання яна трэскаецца і часта ў гэтым месцы паяўляюцца макрацы.



Рыс. 4. Абрубанне капыт у жывёлы.

**Эксплаатацыя рабочай жывёлы.** Партыя і ўрад неаднокраць указвалі на неабходнасць дакладнага выканання правіл эксплаатацыі коней.

Працаваць на жывёле трэба ўмела. Важна захаваць яе працаздольнасць магчыма дольш.

Поўную рабочую нагрузку жывёле можна даваць толькі пасля таго, як яе арганізм закончыць свой рост і развіццё, што бывае ў коней прыблізна к 4 гадам.

Ператамленне работай маладых коней прыпыняе іх рост і выклікае захворванне ног і інш.

Выбар работы і вызначэнне нагрузкі залежаць ад узросту, сілы і ўкормленасці жывёлы. Калі земляробчую прыладу або павозку павінны, напрыклад, цягнуць 2 або 3 жывёлы, то іх трэба падбіраць роўнымі па

сіле і жвавасці, інакш атрымаецца, што адна жывёла будзе цягнуць, а другая шагаць.

**Вупраж.** Добра прыгнаная вупраж забяспечвае больш прадукцыйную работу жывёлы і ў той-жа час захоўвае яе сілы і здароўе (рыс. 5).

Наадварот, дрэнная і дрэнна прыгнаная збруя спрыяе хуткаму зношванню арганізма, змяншае працаздольнасць і выклікае паяўленне рознага роду захворванняў



Рыс. 5. Правільнае палажэнне хамута.



Рыс. 6. Няправільнае палажэнне хамута.

(намулаў, ран і інш.), якія іншы раз надоўга выводзяць жывёлу са строю (рыс. 6).

Пры лёгкай запражцы конь павінен быць умацован бліжэй да павозкі (лінейкі, тачанкі). Землеробчыя прылады патрабуюць больш доўгай запражкі, інакш будуць збівацца плечы. У рабочых валоў пры запражцы звычайна ўжываюць шыйнае ярмо, але лепш і прадукцыйней работа на хамуце, пры якім атрымліваецца большае зберажэнне сіл і здароўя.

Пры запражцы некалькіх коней у адну павозку або с.-г. прыладу лепшае скарыстанне сіл атрымліваецца, калі коні запрагаюцца ў рад: бок а бок. Такая за-

пражка дазваляе жывёлам з аднолькавым напружаннем выконваць работу, чаго нельга дасягнуць пры запражцы „гусем“ (адзін конь уперадзе другога).

У кожнай гаспадарцы вупраж павінна захоўвацца ў крытым памяшканні, ахаваным ад дажджу і снегу; кожны камплект неабходна вешаць на гвозд, пад якім павінен вісець нумар, адпавядаючы нумару каня.

Для таго, каб збруя не была жорсткай, яе час ад часу трэба прамазваць дзёгцем.

У штодзённай сваёй рабоце ветсанітар павінен кантраляваць правільнасць хавання, карыстання і прыгонкі збруі. Трэба часцей правяраць спраўнасць збруі, бо ад гэтага адбываюцца пацёртасці і намулы, і асабліва трэба сачыць за спраўнасцю потнікаў пад сядлом і хамутом.

Пасля работы каня трэба асвабадзіць ад вупражы, расцерці спіну жгутом саломы і ў халодны час накрыць папонай.

Разгарачанага каня, перш чым паставіць у канюшню, трэба нямнога павадзіць, каб ён астыў і абсох.

З прычыны таго, што ў часе работы конь пацее і на яго скуры асядае многа пылу і бруду, якія закупорваюць поры скуры, неабходна пасля высыхання старанна яго вычысціць.

Потнікі хамутоў і сёдлаў, а таксама папоны трэба ў добрае надвор'е прасушваць на паветры ў ценю, а ў дрэннае—у памяшканні. Пасля прасушкі яны павінны быць старанна вычышчаны і выраўнены (выступы, складкі).

Жывёла павінна працаваць не больш 10 гадзін у суткі і мець апрача таго неабходны перапынак для прыёму корму і адпачынку. Адзін раз у сем дзён каню прадастаўляецца сутачны адпачынак.

Пры захворванні жывёла неадкладна асвабаджаецца ад работы.

## ГІГІЕНА КАРМЛЕННЯ ПРЫ СТОЙЛАВЫМ УТРЫМАННІ

Для таго каб жывёла нармальна развівалася, а дасягнуўшы дарослага ўзросту, была працаздольнай і прадуктыўнай, яе трэба правільна карміць. Затраты арганізма пры рабоце і ўтварэнні прадукцыі (малако, шэрсць, мяса) можа кампенсаваць толькі добраякасны і правільна задаваемы корм.

Ад дрэннага корму і няправільнага кармлення ў жывёл паяўляюцца рознага роду захворванні. Статыстыка паказвае, што (па дарослай жывёле) многа выпадкаў падзяжу прыходзіцца на хваробы, выклікаемыя няправільным кармленнем. Падзеж маладняка ў пераважнай большасці таксама адбываецца ад няправільнага кармлення.

Некаторыя лічаць, што чым больш даць корму жывёле, тым больш ад яе атрымаеш. Такое палажэнне нявернае. Перакорм жывёлы таксама шкодны, як недакорм. У выніку перакорму жывёла захворвае, робіцца часова непрацаздольнай, а іншы раз і гіне.

**Папсаваныя і нядобраякасныя кармы.** Загніўшыя і заплеснявеўшыя сена, салома, сапрэўшае зерне, забрадзіўшая брага, загніўшы жом, смярдзючыя памыі— з'яўляюцца шкоднымі кармамі для жывёл.

**Падрыхтоўка кармоў.** Для лепшага пераджоўвання і ўсваення кармоў некаторыя з іх трэба адпаведным чынам падрыхтаваць; у падрыхтаваным выглядзе гэтыя кармы і ахвотней паядаюцца жывёламі. Так салома задаецца ў выглядзе саломенай рэзкі, або прапарваецца. Бульбу і кораньплоды (буракі, бручка, турнепс) спачатку ачышчаюць або абмываюць, а потым скармліваюць у нарэзаным выглядзе. Свінням даюць бульбу, буракі і бручку ў вараным або параным выглядзе (астуджаным). Ячмень, кукурузу і макуху скармліваюць у дробленым або плюшчаным выглядзе. Перад скармліваннем пыльныя зерні трэба правеяць.

Некаторыя зерневыя злакі нельга скармліваць у

свежым выглядзе; асабліва небяспечны ў гэтых адносінах свежаабмалочаныя авёс і жыта, якія выклікаюць паносы і колікі.

**Кармленне па нормах.** Па свайму саставу і пажыўнасці кармы падзяляюцца на грубыя або аб'ёмістыя (сена, салома, мякіна, трава, кораньплоды) і сільныя або канцэнтраваныя (авёс, ячмень, жыта, кукуруза, вотрубі, макуха).

Кармленне павінна адпавядаць патрэбнасцям арганізма і яго прадуктыўнасці. Частка корму, паядаемая жывёламі, ідзе на падтрыманне іх жыцця і называецца падтрымліваючым кормам, а астатні корм, звыш падтрымліваючага, расходуецца на выкананне работы, на ўтварэнне малака, мяса, шэрсці і гэты корм называецца прадуктыўным. Нормы кармлення састаўляюцца ў залежнасці ад выконваемай жывёламі работы або атрымліваемай ад іх прадукцыі і ад наяўнасці ў гаспадарцы тых ці іншых кармоў, бо кармы маюць розную пажыўнасць.

Нормы кармлення для кожнай гаспадаркі павінны быць састаўлены зоатэхнікам. Існуюць розныя спосабы састаўлення кармавых норм. Для састаўлення кармавых норм карыстаюцца параўнаннем кармоў па іх пажыўнасці і вядуць разлік на кармавыя адзінкі. Кармавой адзінкай прынята лічыць 1 кг аўса, які па сваёй пажыўнасці ровен 2,5 кг сярэдняй якасці лугавога сена, 3 кг аўсянай саломы, 4—5 кг бульбы, 9 кг буракоў, 800—900 г макухі, 700 г кукурузы, 800 г ячменю, 1200 г вотрубяў.

Пры састаўленні кармавых норм улічваецца патрэбнасць арганізма ў падтрымліваючым і прадуктыўным кармах. У кармавыя дачы павінны абавязкова ўваходзіць розныя кармы, бо аднастайнае кармленне вядзе да няпоўнага ўсваення пажыўных вяшчэстваў, а іншы раз і да захворвання.

**Парадак кармлення.** Ва ўсіх жывёл стрававальны апарат (страўнік і кішкі) прывыкаюць да прыёму

корму ў пэўны час. Таму строга вытрымліваемыя правільныя тэрміны кармлення з'яўляюцца адной з умоў правільнага стрававання.

Дарослым жывёлам корм звычайна задаецца раніцой, у поўдзень і вечарам. Сена даецца коням невялікімі порцыямі (5—6 разоў у суткі).

Часта дапускаюць много хібаў у кармленні ў рабочую пару (парушаюць тэрміны кармлення, таропяць коней і інш.), у выніку чаго іншы раз, нават пры добрым корме, коні худзеюць і слабеюць; калі праверыць кал такіх жывёл, то можна ў ім выявіць много неперастраўленых зерняў.

Для таго, каб унікнуць гэтага, неабходна пасля работы даць спачатку сена (або травы, калі конь не разгарачаны), а потым ужо даваць зерне, прычым прагавітым і старым коням зерні трэба даваць у расплюшчаным выглядзе. Паіцца жывёла павінна да дачы зерня. Кармушкі пасля кожнага кармлення павінны вычышчацца, а пры дачы вадкага або поўвадкага корму вымывацца кіпятком.

**Захоўванне кармоў.** Вялікае значэнне мае правільнае захоўванне кармоў. Сена і іншыя аб'ёмістыя кармы трэба захоўваць у добра праветрываемых сараях, ахоўваючых іх зверху і з бакоў ад дажджу і снегу.

Авёс і іншыя сільныя кармы трэба захоўваць у сухіх добра праветрываемых свірнах, складах.

Асабліва асцярожна і ўважліва трэба захоўваць бульбу і караньплоды як хуткапсуючыяся кармы.

Для захоўвання бульбы і караньплодаў робяць асобныя хавальнікі—падвалы і падтрымліваюць тэмпературу, пры якой яны не замярзаюць і не прарастаюць. Захоўванне такіх кармоў павінна часта правярацца, а пры частковым псаванні—перабірацца з удаленнем сапсаванага.

**Дача солі.** Кожная жывёла мае патрэбнасць у солі; гэтая патрэбнасць бывае больш, калі скармліваюцца

кармы, бедныя солямі (сена з вялікай колькасцю асаковых траў), і пры ўсіленай рабоце.

Коням соль прыбаўляюць да корму ў залежнасці ад работы і якасці кармоў ад 10 да 15 г у суткі.

Іншым відам жывёл і асабліва буйнай рагатай жывёле і авечкам соль даюць у выглядзе лізунцоў (каменная соль).

## ПЕРАВОД ЖЫВЁЛЫ НА ПАШАВАЕ ЎТРЫМАННЕ

Рэзкі пераход з сухога зімовага корму на зялёны выклікае ў жывёл страўнічна-кішочныя захворванні (паносы, уздуцці жывата), якія нярэдка канчаюцца гібеллю жывёл. Таму перавод жывёл на пашавае кармленне трэба рабіць паступова. У першыя дні выпасу перад выганам на пашу трэба жывёл падкарміць дома і на пашы трымаць нядоўга—3—4 гадзіны. Пасля звароту з пашы зноў даваць сухі корм. Паступова час выпасу падаўжаецца, а дача сухога корму скарачаецца, і такім чынам на працягу 10—12 дзён жывёлы пераводзяцца на пашавае ўтрыманне.

Такая-ж паступовасць патрэбна і пры пераводзе жывёлы з пашавага на стойлавае ўтрыманне. Не трэба выганяць на пашу жывёлу раніцай да расы, каб унікнуць страўнічных захворванняў.

У гарачы час дня (у поўдзень) жывёла павінна заганяцца ў цень або пад навес. Не трэба падганяць стада блізка да пасек. Буйную рагатую жывёлу трэба пасвіць асобна ад дробнай, а цяжарных кароў з другой паловы цяжарнасці выдзяляць у асобую групу.

## ГІГІЕНА ПАШАВАГА ЎТРЫМАННЯ

Пашавае ўтрыманне жывёлы мае вялікае гаспадарча-эканамічнае і зоагігіенічнае значэнне.

Свабода руху на свежым паветры, сонечнае святло ўмацоўваюць арганізм жывёлы, спрыяюць яго росту, развіццю і загартоўванню. Зялёны корм, паядаемы

жывёламі, спрыяльна дзейнічае на жыўленне, узмацняе апетыт і ўстараняе вяласць стрававання.

Племянныя вытворнікі, карыстаючыся пашай, ахвотней і лепш пакрываюць, а ў матак бывае менш выпадкаў яла васці.

Мясная жывёла на падножным карму добра нагульваецца, а малочная—значна павялічвае ўдой малака.

Вырошчванне здаровага прыплода без пашавага ўтрымання немагчыма, бо адсутнасць свежага паветра і сонца вядзе да цэлага раду захворванняў і вялікай смяротнасці маладняка.

Само сабой зразумела, што пашавае ўтрыманне будзе карысна ў тым выпадку, калі гаспадарка выбера для пасвіння добры, благапалучны па заразных хваробах участак і падрыхтуе як яго, так і жывёлу для выпасу на ім.

На сырой глебе, як ужо было сказана, растуць шкодныя, атрутныя травы, мікробы маюць добрыя ўмовы для свайго развіцця, таму паша павінна быць сухой.

Нельга адводзіць пад пасвінне ўчастак, распалажаны недалёка ад жывёламагільнікаў, утылізацыйнай устаноўкі, скурзавода, шэрстамыйкі, бойні і інш.

Абавязковай умовай добрай пашы з'яўляецца забяспечанасць яе ў дастатковай колькасці добраякаснай вадой.

Выбраны пад пашу ўчастак неабходна старанна агледзець і падрыхтаваць у ветэрынарна-санітарных адносінах. Пры выяўленні на ім трупаў жывёл, а таксама астаткаў або адкідаў ад падалі (капыты, рогі, косці і інш.)—усё гэта павінна быць убрана і зарыта на жывёламагільніку. У мясцовасцях, благапалучных па заразных хваробах, косці, якія ляжаць адкрыта на паверхні і не маюць сухажылляў і мяса, могуць ісці на пераапрацоўку.

Месцы, дзе ляжалі трупы, неабходна абпаліць

агнём, калі гэта не прадстаўляе пажарнай небяспекі, або заліць вапнай ці моцным шчолакам з чорнай карболкай.

Каб унікнуць механічных пашкоджанняў і раненняў жывёл, пашы павінны быць таксама ачышчаны ад каменняў, бітых бутэлек, карчаг, кустарнікаў і інш.

Трэба ўнікаць пасвіння жывёлы паблізу месц, дзе ў мінулыя гады быў падзеж жывёл ад сібірскай язвы або ад шумячага карбункула. Месцы, дзе ляжалі трупы паўшых ад гэтых хвароб жывёл, павінны быць выпалены, абкопаны і агароджаны.

Перад выганам на пашу жывёла пагалоўна павінна быць агледжана ветурачом або ветфельчарам. Мэтай гэтага агляду з'яўляецца выдзяленне хворых і падазроных на заразныя хваробы жывёл.

## ДОГЛЯД ЗА ЦЕЛЬНАЙ КАРОВАЙ

Для таго каб атрымаць моцны, здаровы і жыццездольны маладняк, неабходна пачаць клопаты аб ім яшчэ ў той перыяд, калі ён знаходзіцца ва ўтробе маткі. Цельныя каровы, пачынаючы з другой паловы цяжарнасці, павінны быць выдзелены з агульнага стада і пастаўлены ў лепшыя ўмовы ўтрымання і кармлення.

Памяшканні для гэтых кароў выбіраюцца сухія, прасторныя, з роўнай падлогай і без скразнякоў. Цельным каровам павялічваюць норму падсцілкі. Апошнія тры месяцы ім звыш устаноўленай нормы павялічваюць дачу сільнага корму на 0,8—1,2 кг; маладым каровам гэтая дача падвойваецца.

За 40—50 дзён да ацёлу цельныя каровы павінны быць запушчаны, для маладых і дрэнна ўкормленых працягласць сухастойнага перыяда павінна быць не менш 2 месяцаў. Для гэтага пры вялікай колькасці малака неабходна скараціць лік даенняў у суткі, зменшыць дачу сакавітых кармоў і паступова перайсці

да запуску. Пасля запуску дачу сакавітых кармоў трэба скарацiць удвая, а за 20—14 дзён да ацёлу зусім павінна быць спынена дача сілосу, а таксама кіслых кармоў (жому, брагі і інш.), і зменшана норма кораньплодаў да 10 кг у суткі.

Крайне неабходна штодзённа даваць цельнай карове ў сумесі з іншымі добраякаснымі кармамі і 100 г мінеральных солей, састаячых з сумесі роўных частак адмучанага мелу, спажыўнай солі і фосфарнакіслай вапны або касцяной мукі.

За цельнымі каровамі неабходна ўстанавіць асобае назіранне, не дапускаючы, каб яны падвяргаліся ўдарам, ушыбам і штуршкам, асабліва, калі яны ў масе праходзяць праз вузкія вароты або дзверы.

Нельга дапускаць прагону цельных кароў зімой да вадапою, бо каровы могуць паслізнуцца і ўпасці на зямлю; у гэты перыяд паіць трэба іх у стойле вадой, тэмпература якой павінна быць не ніжэй 10° Ц.

За 5—10 дзён да ацёлу каровы пераводзяцца ў спецыяльнае радзільнае памяшканне, снабжонае свежай падсцілкай. У радзільным памяшканні ўстанаўліваюцца начныя і дзённыя дзяжурствы.

Перад родамі неабходна вымыць карове зад каля палавых органаў і хвост цёплай вадой і прадэзінфіцыраваць 2—3-процантным растворам лізола. Пасля гэтага хвост падвязваецца і палавыя органы знадворку дэзінфіцыруюцца растворам марганцавакіслага калія 1:1000. Стойла перад ацёлам старанна вычышчаюць, дэзінфіцыруюць і пад карову падкладаюць дастатковую чыстую падсцілку.

Большая частка родаў у каровы адбываецца або ноччу, або раніцой. Прызнакамі наступаючых родаў з'яўляюцца так называемыя „патугі“: жывёлы непакояцца, часта кладуцца, часта мочацца і выпаражняюцца. Нармальныя роды працякаюць ад $^1/_2$ да 6 гадзін (у сярэднім 3 гадзіны). Пры нармальных родах ніякага ўмяшання з боку ветперсанала не патрабуецца.

## ВЫХАВАННЕ ЦЯЛЯТ У ПЕРШЫЯ 10—15 ДЗЕН

Непасрэдныя клопаты аб цяляці пачынаюцца зараз-жа пасля ацёлу каровы. Ветсанітар чыста вымытымі рукамі ачышчае марляй нованароджанаму нос і рот ад слізі, пасля чаго перавязвае пракіпячонай або змочанай у абеззаражваючым растворы пупавіну на адлегласці 5—8 см ад жывата суровай ніткай і абразае чыстымі нажніцамі ніжэй перавязкі. Абрэзаны канец прыпальваецца апусканнем у шклянку з чыстым неразведзеным крэалінам або настойкай іёда. Усё цялё старанна абціраюць пучком мяккай саломы або сена і пераносяць у спецыяльнае памяшканне (прафілакторый-прыёмнік), якое павінна быць пад адным дахам з радзільным памяшканнем. Пры неабходнасці пераносу, звязанага з праходжаннем праз двор або адкрытае месца, каб унікнуць прастуды цялё пераносяць ва ўцепленых насілках. У прыёмніку цяляты павінны трымацца ў клетках (па аднаму ў клетцы).

У прыёмніку павінна быць добрая вентыляцыя, роўная тэмпература не ніжэй 12° Ц ля падлогі. Светлавая плошча ў цялятніку павінна раўняцца $^1/_{10}$ плошчы падлогі. Цяляці трэба прадаставіць сухую падсцілку з добраякаснай саломы, якой у сярэднім павінна быць не менш 1,5—2 кг у суткі.

Цялятнік неабходна трымаць у чыстаце. Гной і падсцілка ўбіраюцца не менш 2-х разоў у суткі. Цяляты штодзённа чысцяцца шчоткай, і брудныя месцы замываюцца цёплай вадой з абавязковым выціраннем насуха мокрых месц. Клеткі прамываюцца штодзённа і не менш аднаго разу ў дэкаду беляцца.

У мэтах папярэджання паядання цялятамі падсцілкі і лізання забруджаных прадметаў пажадана надзяваць цялятам наморднікі, якія яны павінны насіць прыкладна 10—15 дзён.

Каб унікнуць заносу заразных хвароб, абслугоўваючы цялят персанал павінен мець чыстую спецвопратку.

Перад уваходам у цялятнік неабходна мець мату ў жалезным праціўне, змочаную дэзінфіцыруючай вадкасцю (3-працантным растворам крэаліна), аб якую ўваходзячыя, абціраючы ногі, абеззаражваюць свой абутак. Перад паеннем цялят рукі скотніцы павінны быць старанна вымыты, таксама як і рукі даяркі перад даеннем. Першыя 2—3 струменьчыкі малака здойваюцца ў асобую пасуду і цялятам не даюцца.

Нельга выпайваць цялят сырым малаком ад заразна-хворых (туберкулёз, яшчур, інфекцыйны аборт і т. д.) кароў.

**Кармленне цяляці.** Як правіла, цялё выпайваецца малаком сваёй маткі не менш 10 дзён. Нованароджанае цялё трэба праз $1^1/_2$—2 гадзіны пасля нараджэння напаіць свежым малодзівам з тэмпературай 36—38°. Малодзіва даецца 4—5 разоў у суткі, а к 10-дзённаму ўзросту цялё паступова пераводзіцца на трохразовае паенне.

Пры паенні неабходна мець для кожнага цяляці асобнае вядро з белай бляхі або ацынкаванага жалеза. У крайнім выпадку можа быць дапушчана паенне некалькіх здаровых цялят з аднаго вядра пры ўмове стараннага абмывання вядра гарачай вадой з содай (2—3-працантны раствор) пасля паення кожнага цяляці. Незалежна ад чыстаты вёдзер яны павінны перад ужываннем ашпарвацца кіпятком.

Кармленне цялят праводзіцца па ўстаноўленых нормах, якія трэба строга выконваць.

## ВЫХАВАННЕ ЦЯЛЯТ АД 10—15 ДЗЁН І ДА КАНЦА ЛАКТАЦЫЙНАГА ПЕРЫЯДА

З цялятніка пры радзільным памяшканні цяляты пасля 10—15-дзённага ўзросту пераводзяцца ў другі цялятнік, у якім яны трымаюцца да 5—6-месячнага ўзросту. Утрыманне цялят у гэтым цялятніку да месячнага ўзросту павінна быць у асобных, а потым у агуль-

ных групавых клетках па 4—5 галоў у кожнай. Тэмпература цялятніка павінна быць ля падлогі не ніжэй 10° Ц.

Не раней 10—15 дзён можна пераходзіць ад мацярынскага малака к малаку з агульнага ўдою. Дача малака ў гэты час праводзіцца тры разы ў суткі; тэмпература малака ад 35 да 38° Ц, а затым па меры росту цяляці тэмпература зніжаецца. Цялятам 2-месячнага ўзросту можна даваць малако з тэмпературай 30°, а з 3-месячнага ўзросту і ў далейшым цяляты могуць паіцца малаком з тэмпературай, роўнай тэмпературы памяшкання.

Пераход ад цэльнага малака да знятага павінен быць паступовым і адбывацца не менш, чым на працягу 2-х дэкад. Канцэнтраваныя кармы неабходна ўводзіць у корм цяляці паступова, пачынаючы з моманту спынення павышэння дачы цэльнага малака.

Сена даецца не раней 20-дзённага ўзросту. Для цялят павінна быць загатоўлена сена лепшай якасці, нежнае, убранае да цвіцення. З таго-ж тэрміну можна даваць цялятам кіпячоную, чыстую і астуджаную да вышэйуказанай тэмпературы малака ваду. Вада павінна давацца асобна ад малака і канцэнтратаў праз час пасля дачы сільных кармоў.

Пасля спынення дачы цэльнага малака неабходна штодзённа даваць мінеральныя солі. Даюць звычайна сумесь спажыўнай солі, мелу і касцяной мукі ў роўных частках. Гэтую сумесь даюць, пачынаючы з 10 г, а к 8—10-месячнаму ўзросту даводзяць да 35 г.

У летні час цялят неабходна трымаць магчыма больш на паветры, для чаго каля цялятніка павінен быць загон з павеццю для аховы цялят ад спякоты і дажджу. Утрыманне на паветры ўмацоўвае арганізм цяляці і ўсільвае яго рост.

У зімовы час цяляты, пачынаючы з 10-дзённага ўзросту, павінны карыстацца прагулкамі. Прывучаць іх да прагулак трэба паступова; пачынаючы з 10—15 мінут

і даводзячы працягласць прагулкі да 2 гадзін. Пры марозах звыш 10° Ц і ў дрэннае надвор'е выпускаць цялят на прагулкі не трэба. У часе прагулкі яны павінны быць у руху.

## ДОГЛЯД ЗА НОВАНАРОДЖАНЫМІ ЯГНЯТАМІ

Пры нежаданні маткі аблізаць толькі што народжанае ягнё, прымушаць яе да гэтага і выклікаць штучна жаданне, накшталт пасыпання ягняці соллю, не трэба. Нованароджанаму неабходна неадкладна ачысціць рот і нос ад слізі, а цела абцерці пучком мяккай саломы або сена. Неабходна сачыць, каб усе нованароджаныя ягняты зараз-жа атрымалі сваю порцыю малака—малодзіва, для чаго слабым ягнятам трэба дапамагчы адшукаць сасок.

Матку з ягнятамі трэба выдзеліць з агульнага стада і злучыць іх у асобыя гурты (сакманы). Адстаючых у развіцці ягнят трэба выдзяляць з маткамі ў асобныя групы, дзе матак неабходна падкармліваць канцэнтраванымі кармамі, дача якіх у суткі павінна быць 0,15—0,2 кг. Падкормка матак спыняецца з пераходам на пашу.

Кастрацыя ягнят і абрэзка хвастоў праводзіцца ў 2—3-тыднёвым узросце асобай, маючай на гэта права (ветурач, ветфельчар).

**Ягняты на пашы**. Ягнят трэба берагчы ад сырасці і холаду, а таму на пашу іх трэба выпусціць толькі з надыходам сухога і цёплага надвор'я. Ягнятам з маткамі трэба адвесці лепшыя сакавітыя выпасы. Пашы павінны быць забяспечаны вадой, прычым вадапой павінен быць удалён не больш як на 1—1,5 км. Да 2—3-тыднёвага ўзросту ягнят к вадапою ганяць не трэба, а трэба падвозіць ваду ў бочках.

**Адбіўка ягнят.** Адбіўку ягнят, нарадзіўшыхся ад мерыносавых авечак, трэба праводзіць ва ўзросце 3 1/2—4 месяцаў, а ў карыстальных стадах—у 2 1/2—3 ме-

сяцы. Штодзённа ягнятам трэба даваць солі 8—10 г на галаву. Неабходна забараніць вадапой са стаячых вадаёмаў (пруды, лужыны), каб унікнуць заражэння іх глістамі.

## ДОГЛЯД, ВЫХАВАННЕ І КАРМЛЕННЕ ПАРАСЯТ

Корм супаросных матак павінен састаяць з рознастайных кармоў (сена бабовых раслін, кораньплоды і бульба, мучны пыл, вотрубі, макуха і інш.). Сілос можа пры добрай яго якасці скармлівацца ў колькасці 4—5 кг на матку; за 10—15 дзён да апаросу гэтая колькасць змяншаецца напалову, а за 3—4 дні да апаросу сілос зусім выключаецца з кармавога рацыёна.

Перад апаросам агульную колькасць корму змяншаюць. Супаросных матак можна карміць 2 разы ў дзень; за 10—15 дзён да апаросу трэба перайсці на кармленне іх 3 разы.

**Апарос.** За 10—15 дзён да апаросу матка памяшчаецца ў асобны старанна вымыты кіпятком са шчолаччу і выбелены свежагашанай вапнай станок. Перад пераводам матка чысціцца і абціраецца трапкай, змочанай у 1-процантным растворы крэаліна.

Перад апаросам неабходна назіраць, каб у маткі не было запору, а калі ў гэты час у яе кал цвёрды, то трэба даць слабіцельнага. За 5—6 гадзін да апаросу матку карміць не трэба, а дазваляюць даваць толькі чыстую ваду.

У гэты час матка павінна ляжаць на чыстай сухой падсцілцы, якая пасля апаросу павінна быць заменена свежай. Нарадзіўшыхся парасят звычайна адбіраюць у маткі і абціраюць іх чыстай і сухой трапкай, затым перахватваюць пупавіну паміж пальцамі левай рукі на адлегласці 4—5 см ад брушка і адразаюць чыстымі нажніцамі ніжэй перахвату, а канец пупавіны змазваюць 1-процантным растворам крэаліна. Паслед і мёртвых парасят убіраюць і знішчаюць. Жывых-жа пара-

сят памяшчаюць у скрынку на сухую падсцілку і закрываюць зверху мяшком, каб асталася толькі шчыліна для праходу паветра.

Праз 2 гадзіны, а калі парасяты слабыя, то і раней (праз 1 гадзіну), яны падпускаюцца для сасання да маткі. Перад першым сасаннем вымя і саскі ў маткі падмываюцца цеплаватым 2-процантным растворам борнай кіслаты. І калі пры гэтым парасяты добра прыняліся сасаць, то іх пакідаюць на ўвесь час пад маткай. Калі-ж парасяты слабыя, то іх зноў убіраюць у скрынку і падпускаюць да маткі праз кожныя 2 гадзіны, і так робяць, пакуль парасяты не памацнеюць (2—3 дні).

Пад маткай трэба пакідаць столькі парасят, колькі ў яе дзеючых саскоў. Лішніх парасят трэба размяшчаць пад іншымі маткамі, апарасіўшыміся прыблізна ў той-жа перыяд. Неабходна назіраць, каб усе парасяты добра сасалі матку; слабым парасятам неабходна дапамагчы падабрацца да саска.

Іншы раз у парасят бываюць доўгія зубы, якімі яны пры сасанні непакояць матку; у такіх выпадках неабходна правесці скусванне зубоў шчыпцамі, але рабіць гэта трэба асцярожна і ўмела, не ранячы дзясен і толькі выключна ў тых выпадках, калі маткі церпяць ад укусаў парасят.

У падсосны перыяд матка павінна атрымліваць розны корм (бабовае сена, канцэнтраты, карань-клубеньплоды і мінеральную сумесь). Падсосныя маткі павінны быць забяспечаны чыстай вадой пакаёвай тэмпературы.

З 10-дзённага ўзросту парасяты, нават у халодны час года, у добрае ціхае надвор'е павінны выганяцца на прагулку ў двор. У першыя дні парасят выпускаюць на 5—10 мінут, а потым прагулкі паступова падаўжаюць. Як толькі парасяты пачнуць мерзнуць, іх зараз-жа трэба загнаць у свінарнік. Неабходна сачыць, каб парасяты ў часе прагулкі ўвесь час знаходзіліся ў руху.

Летам парасяты вельмі церпяць ад спякоты і сонечных апёкаў, таму ў гарачыя дні парасят не трэба доўга пакідаць на сонцапёку, а трымаць у цяню і прахладным месцы.

Парасят неабходна чысціць і час ад часу праціраць жорсткай трапкай, прапітанай раслінным маслам (салам) і 1-працантным растворам крэаліна.

Кныркоў, прызначаных да адкорму, трэба кастрыраваць у 4-дэкадным узросце.

## МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПА ПАПЯРЭДЖАННЮ ЗАХВОРВАННЯЎ МАЛАДНЯКА

Каб унікнуць распаўсюджання паявіўшагася захворвання неабходна своечасова ўдаліць хворага нованароджанага і чым раней, тым лепш. Для выдзялення і ўтрымання хворага маладняка неабходна спецыяльнае памяшканне (ізалятар). Пры ўсякім падазрэнні на захворванне вымяраюць тэмпературу, і, калі яна вышэй нармальнай, хворая жывёла ізалюецца. Аб захворванні трэба паведаміць ветурачу або ветфельчару.

Пасля ўдалення хворага памяшканне, якое ім займалася, трэба старанна ачысціць і прадэзінфіцыраваць. Ачышчаюцца і дэзінфіцыруюцца таксама і ўсе прадметы, якія былі з ім у судакрананні.

Дэзінфекцыя звычайна праводзіцца наступным чынам: клетка абліваецца 20-працантным растворам свежагашанай вапны; вёдры, пасуда, халат, ручнік і трапкі старанна кіпяцяцца. Для папярэджання разносу заразы не дапускаецца пераход даглядаючага персаналу ў благапалучныя памяшканні маладняка, таксама як і перанос прадметаў догляду і кармлення (лапаты, вёдры, халаты і інш.). Да заканчэння хваробы ў заражонае памяшканне маладняка нованарадзіўшыхся памяшчаць не трэба; для гэтага трэба прыстасаваць іншае памяшканне.

Пасля заканчэння хваробы заражанае памяшканне маладняка старанна ачышчаецца, сцены, столь і пад-

лога беляцца нягашанай вапнай, пасуда кіпяцііцца, а інвентар мыецца 3-працантным растворам крэаліна.

Каб захаваць парасят ад захворванняў неабходна:

а) свінарнікі штодзённа чысціць раніцой і вечарам;

б) штомесячна праводзіць пабелку свінарніка вапнай;

в) чысціць і мыць кармушкі для парасят пасля заканчэння падкормкі;

г) не даваць нядобраякасных кармоў і закісшага малака;

д) гняздо, у якім паявіўся панос, ізаляваць ад іншых гнёзд;

е) станок, у якім паявіўся панос, неадкладна прадэзінфіцыраваць;

ж) не дапускаць на падлозе станка скаплення жыжкі, бо парасяты могуць яе піць і захварэць паносам;

з) не дапускаць у свінарнікі староннніх асоб;

і) ветсаннагляду штодзённа аглядаць парасят;

к) у выпадку падзяжу або цяжкога захворвання некалькіх парасят неадкладна выклікаць ветурача або ветфельчара.

---

## III. ПАРАДАК ДАСЛЕДВАННЯ ХВОРЫХ ЖЫВЕЛ

Калі арганізм жывёлы працуе нармальна, жывёлу лічаць здаровай. Калі-ж які-небудзь орган перастае працаваць правільна, то гавораць, што жывёла захварэла.

У залежнасці ад таго, ці ўвесь арганізм захворвае, ці толькі частка яго, адрозніваюць хваробы агульныя і мясцовыя, а таксама знадворныя і ўнутраныя. Першыя—калі захворваюць знадворныя органы і другія—калі ўнутраныя.

Хваробай, такім чынам, завецца ненармальны стан арганізма жывёлы.

Для таго, каб дапамагчы хворай жывёле, трэба перш за ўсё ведаць, чым хварэе жывёла, іншымі словамі, вызначыць хваробу. Вызначэнне хваробы называецца дыягназам. Удакладніўшы хваробу, можна прыступіць да лячэння і прадказаць вынік яе; прадказанне пры лячэнні жывёл мае вялікае значэнне. Пры некаторых хваробах лячэнне не дасягае мэты, або яно такое працяглае, што не апраўдвае затрачаных на яго сродкаў (пералом нагі ў каня); пры некаторых-жа хваробах жывёла павінна быць неадкладна знішчана (гл. сап, павальнае ўспаленне лёгкіх), каб унікнуць распаўсюджання хваробы.

Хвароба вызначаецца на падставе даследванняў, якія складаюцца: а) са збірання звестак аб хворай жывёле (анамнез), б) агляду хворай жывёлы з ашчупваннем розных органаў, выстукваннем і выслухваннем і в) даследванне мачы, калу, слізі і т. д. у лабараторыях.

**Прызнакі хворай жывёлы.** Жывёла мае вялы і сумны выгляд, погляд цмяны, шэрсць устапыраная. Апетыт зменшан, а іншы раз жывёла і зусім адмаўляецца ад корму; у кароў і авечак прападае „жвачка“. У жывёлы паяўляецца жар, а дыханне робіцца перарывістым і ўчашчаным,—хада затруднёная, іншы раз заўважаецца кульгавасць.

Пры некаторых хваробах каровы змяншаюць удой малака.

Само сабой зразумела, што мы пералічылі тут не ўсе прызнакі хворай жывёлы, якія пры розных хваробах бываюць самыя разнастайныя. З другога боку, пры некаторых хваробах прызнакі бываюць ледзь прыкметны і выяўляюцца толькі пры старанным даследванні; дастаткова хоць-бы і аднаго з указаных прызнакаў для таго, каб западозрыць жывёлу ў захворванні.

**Збіранне анамнеза.** Збіранне звестак аб хворай жывёле праводзіцца шляхам апытання даглядаючага персанала, які пры пастаянным назіранні за жывёлай раней усіх заўважае якія-небудзь ненармальнасці або адхіленні ў паводзінах яе.

Шляхам апытання выясняюць, калі захварэла жывёла, з чаго пачалася хвароба, які апетыт і смага ў жывёлы, які характар выпаражненняў (панос, запор, слізь або кроў у выпаражненнях), ці не валяецца жывёла, ці няма кашлю, выцячэння з ноздраў, свісту або хрыпу, як мочыцца жывёла (свабодна ці хваравіта) і які колер мачы, ці не назіралася ўзбуджэння і непакою ў жывёлы і т. д.

**Агляд хворай жывёлы.** Для таго, каб паставіць дыягназ, трэба пасля збірання звестак аб хворай старанна агледзець яе. Пры аглядзе звяртаюць увагу на агульны стан і ўкормленасць. Агляд у каня звычайна пачынаюць з праверкі стану падчэлюсных лімфатычных залоз, павелічэнне якіх дае падставу падазраваць сап—хвароба небяспечная і для чалавека.

Даследуюцца слізістыя абалонкі вачэй, носа, рота, улагалішча і вызначаецца іх стан (прыпуханне, кровецячэнне або залішняе ўвільгатненне) і колер (пачырваненне, паблядненне, жаўцізна, пасіненне). У каня слізістую абалонку носа трэба даследваць асцярожна, становячыся для гэтага збоку, каб слізь пры фырканні не папала ў вочы і рот чалавека (сап) (рыс. 7).

Для вымярэння тэмпературы карыстаюцца тэрмометрам. Вымярэнне праводзіцца ў прамой кішцы. Тэрмометр да ўжывання неабходна страхнуць, змазаць ніжнюю трэць вазелінам або маслам і затым асцярожна, каб не параніць прамой кішкі, уводзіць у задні праход. Для таго, каб тэрмометр не выпаў, яго прывязваюць да хваста шпагатам або асобым гумавым трымальнікам. Тэрмометр трэба трымаць у прамой кішцы 10 мінут.



Рыс. 7. Агляд **носавай поласці.**

Пры неабходнасці вымярэння тэмпературы адным і тым-жа тэрмометрам у некалькіх жывёл яго пасля кожнай жывёлы праціраюць ватай, змочанай у дэзінфіцыруючай вадкасці (3-працантны раствор крэаліна, борнай кіслаты або лізола, а таксама ў спірце). Каб захаваць сябе ад удараў каня пры вымярэнні тэмпературы трэба прасіць памочніка падняць у каня пярэднюю нагу з таго боку, з якога прыходзіцца стаяць пры ўвядзенні тэрмометра.

Пры вымярэнні тэмпературы трэба ўлічваць, што пасля ўзмоцненага руху тэмпература нават у здаровай

жывёлы некалькі падымаецца, а пасля паення халоднай вадой паніжаецца.

Для вызначэння нармальнай работы сэрца трэба ведаць колькасць яго ўдараў у мінуту ў хворай жывёлы; параўноўваючы гэтую колькасць з лікам удараў сэрца ў нармальнай (здаровай) жывёлы, можна сказаць, што сэрца працуе ўчашчана або запаволена.

Вызначыць колькасць удараў сэрца можна прыклаўшы руку з левага боку грудной клеткі ў каня і рагатай жывёлы ў вобласці 4-га і 5-га рабра або шляхам даследвання пульса. Пульсам называюць штуршкі, атрымліваемыя сценкамі кровеносных сасудаў пры скарачэнні сэрца.

У каня і буйнай рагатай жывёлы пульс даследуецца на месцы сасудзістай выразкі ніжняй чэлюсці, у дробных жывёл—на бедраной артэрыі з унутранага боку бядра.

Пульс даследуюць шляхам накладання мякішаў пальцаў на вобласць артэрыі і лічаць штуршкі на працягу адной мінуты або поўмінуты (у апошнім выпадку атрыманую колькасць падвайваюць).

Нармальны пульс у нашых с-г. жывёл наступны: у коней—26—40 удараў у мінуту, у буйнай рагатай жывёлы—40—60, у дробнай рагатай жывёлы—50—60, у свіней—60—80, у сабакі буйнага—70—80, у сабакі маленькага—80—120. У маладых жывёл лік пульсавых удараў большы; так у жарабяці—50—70, у цяляці—70—100, у ягняці—90—100, у парасяці—90—100, у шчанят—110—120.

Па ступені напаўнення адрозніваюць пульс поўны або цвёрды (чоткі) і пульс ніцевідны, дрэнна ашчупваемы.

Частата дыхання вызначаецца па ліку дыхальных рухаў у мінуту і на падставе гэтага вызначэння гавораць аб паскораным або запаволеным дыханні.

Вызначаюць колькасць дыханняў шляхамназірання за рухам у грудной клетцы, або шляхам прыкладання

да насавых адтулін рукі, аб якую ўдараецца выдыхаемае паветра; зімой праверыць дыханне можна па руху выходзячага з носа жывёлы паветра ў выглядзе пару. Нармальная колькасць дыханняў у здаровага каня—8—16, буйнай рагатай жывёлы—12—26, дробнай—12—30, свіней—15—20.

Паскоранае дыханне назіраецца пры хваробах, суправаджаемых ліхарадкай. Адрозніваюць рэберна-брушное дыханне (у здаровых жывёл), брушное—калі пры дыханні грудная клетка амаль нерухомая, а сільна працуюць брушныя мышцы (у хворых жывёл).

Пры даследванні дыхальных органаў трэба звярнуць увагу: а) на пах выдыхаемага паветра, для чаго трэба стаць з боку галавы каня бліжэй да ноздраў, б) на выцячэнне з носа: ці ідзе яно з адной ноздры або з абодвух, колькасць яго, колер і прымесі (кроў, пена, корм) і в) на кашаль, пры вызначэнні якасці якога звяртаюць увагу на частату, хваравітасць, сілу і працягласць.

Даследванне грудной клеткі заключаецца ў аглядзе, ашчупванні, выслухванні і выстукванні.

Пры аглядзе можна знайсці пераломы рэбраў, раны, выпячванні міжрэберных прамежкаў, а ашчупваннем міжрэберных прамежкаў вызначаецца балючасць.

Выслухванне і выстукванне патрабуюць вялікага навыку і вялікіх ведаў для таго, каб разабрацца ва ўсіх тонкасцях указаных метадаў. Гэтымі метадамі можа карыстацца ветурач або ветфельчар, а таму мы іх у „даведніку“ не прыводзім.

Агляд стрававальных органаў складаецца з даследвання поласці рота, глоткі, стрававода і жывата.

У поласці рота звяртаецца ўвага на стан слізістай абалонкі (пачырваненне, жаўцізна), цэласць языка, стан зубоў (няправільнае сціранне, гніенне), пах і колькасць сліны.

Глотка ашчупваецца знадворку, і гэтым ашчупваннем устанаўліваюць балючасць і наяўнасць змяненняў.

Для агляду ротавай поласці і глоткі рот раскрываецца асобым інструментам—зеўнікам або проста чыстымі рукамі, прычым язык выводзіцца вонкі і ў бок і трымаецца рукой на працягу ўсяго агляду.

Стрававод даследуецца аглядам знадворку; мэтай агляду з'яўляецца ўстанавіць або выключыць наяўнасць пухлін, пашкоджанняў і раненняў.

Пры аглядзе жывата звяртаецца ўвага на яго аб'ём; павелічэнне жывата бывае пры скапленні вялікіх мас корму і газаў. Пры пастукванні жывата ў здаровых жывёл чуваць тупы гук, а пры скапленні газаў—тымпанічны (звонкі). Пры выслухванні жывата чуюцца кішочныя шумы—перыстальтыка (як гук пераліваючайся вадкасці або бурчэнні), якія пры захворванні бываюць ўзмоцнены або аслаблены.

Тоўстыя кішкі ў каня даследуюцца справа, а тонкія—з левага боку. Лепш даследваць кішочнік у буйных жывёл праз задні праход, для чаго левай рукой адводзяць хвост убок, а вымытую правую кісць рукі з коратка абрэзанымі ногцямі і змазаную маслам або тлушчам уводзяць асцярожна і паступова ў прамую кішку. Пальцы ўвадзімай рукі павінны быць складзены клінам; кал у прамой кішцы, каб ён не перашкодзіў даследванню, удаляюць.

Даследваннем праз прамую кішку можна выявіць уздуцце і камні ў кішках, змяненне ў мачавым пузыры і інш.

Мачавы пузыр даследуецца праз прамую кішку. Калі мачавы пузыр пусты, то рука, уведзеная да запясця, адчувае пад сабой грушавіднае шчыльнае цела; а калі ён напоўнен мачой, то ў залежнасці ад яе колькасці—той ці іншай велічыні шарападобная мяккая або напружаная пухліна.

Пры даследванні мачавых органаў звяртаецца ўвага на мочаспусканне, якое можа быць частым, балючым або затрудненым, а таксама на колькасць мачы і яе колер. Колер мачы ў каня жаўтаваты, а ў рагатай жывёлы—светлажоўты.

---

## IV. АСОБНЫЯ НЕЗАРАЗНЫЯ ХВАРОБЫ ЖЫВЁЛ

Незаразнымі хваробамі называюцца такія хваробы, якія не перадаюцца ад жывёлы жывёле.

Хвароба сама па сабе не ўзнікае, і абавязковай умовай захворвання з'яўляецца якая-небудзь акалічнасць, якая ўплывае на арганізм так, што ён захворвае. Гэтая акалічнасць і называецца прычынай хваробы.

Прычыны, якія выклікаюць незаразныя хваробы, могуць быць механічныя (удары, раненні і інш.), фізічныя (холад, жар), хімічныя (яды, кіслоты і шчолачы і т. д.).

Галоўнымі прычынамі ўзнікнення незаразных хвароб з'яўляюцца хібы ў доглядзе, утрыманні, кармленні і эксплаатацыі жывёл. У выніку гэтага паяўляюцца ўсякага роду ўшыбы, раненні, захворванні дыхальных і стрававальных органаў, хваробы скуры і інш.

Спынімся на некаторых, найбольш сустракаючыхся незаразных хваробах.

### ЗНАДВОРНЫЯ ЗАХВОРВАННІ

#### Раны

Раненні адбываюцца ад розных прычын: удараў, парэзаў, уколаў і інш. З прычыны чаго-б не адбылося раненне, амаль заўсёды пры гэтым бывае кровецячэнне то нязначнае, то вялікае, прычым ад вялікай страты крыві жывёла можа нават загінуць. Таму першая дапамога павінна быць накіравана на спыненне кровецячэння.

Невялікае кровецячэнне можа спыніцца само сабой, але лепш і хутчэй яго спыніць, для чаго прыкладаюць да раны тугі камочак чыстай ваты, або чыстага халста і трымаюць, пакуль спыніцца кровецячэнне.

Можна спыніць кровецячэнне, наклаўшы на рану тугую ціснучую павязку. Пры раненнях з сільным кровецячэннем на нагах трэба перавязаць нагу туга вышэй ранення гумавай трубкай, вяроўкай або рэмнем і трымаць не больш адной гадзіны, каб унікнуць амярцвення ніжэй ляжачай часткі нагі. Дапамагае спыненню крыві змачванне раны растворам квасцоў (1 чайная лыжка на 1 шклянку вады).

Пры лячэнні кожнай раны вельмі важна не забруджваць яе,—тады яна хутчэй зажыве.

Самая нязначная рана пры яе забруджанні можа ператварыцца ў вялікую гнойную язву, якая трудна паддаецца лячэнню. Паверхневыя раны дастаткова раз у дзень змазваць настойкай іёда, або 1-процантным растворам піёктаніна. Сільна забруджаную рану спачатку трэба абмыць абеззаражваючым растворам крэаліна (3-проц.) лізола (2-проц)., карболавай кіслаты (3-проц). і да т. п., а потым ужо лячыць.

## Ушыбы

Небяспека ўшыбу залежыць ад таго, у якім месцы адбыўся ўшыб і якой сілы быў удар. Звычайна на месцы ўшыбу ўтвараецца пухліна. Пры сільных ушыбах ног могуць адбыцца пералом, раздрабленне, трэшчыны касцей. Ад сільных udaraў у жывот можа ўтварыцца грыжа.

Невялікія ўшыбы праходзяць без асобага лячэння. Калі пухліна значная, то трэба ў першыя 2—3 дні, пакуль ёсць жар, прыкладваць да яе лёд, снег, або палатняныя трапкі, змочаныя ў халоднай вадзе. Калі трапка сагрэецца, трэба зноў змачыць яе ў халоднай вадзе. Замест такога кампрэса можна ўзяць замешаную

ў выглядзе цеста гліну і намазаць яе на месца ўшыбу. Каб падтрымаць холад, трэба час ад часу змачваць гэтую гліну халоднай вадой. Калі пухліна праз 2—3 дні не зменшылася, замест холаду прымяняюць саграваючы кампрэс, або цёплыя прыпаркі, напрыклад з сеннай трухі.

Ад ушыбаў у буйнай рагатай жывёлы нярэдка адбываюцца надломы і паломы рагоў. Калі адбыўся палом рога і рог вісіць толькі на адной скуры, то адломаную частку трэба ўдаліць, а месца пераломy змазаць абеззаражваючым растворам, засыпаць прысыпкай або змазаць настойкай іёда. Пры надломе рагоў хворае месца абмываецца цёплай вадой, а затым накладваецца павязка з палосак халста, змочаных гарачым сталярным клеем. Папярэдне месца надлому змазваецца іёдам.

Калі збіта рагавая абалонка, адкрытыя мяккія часткі рога трэба змазаць дэзінфіцыруючай маззю: крэалінавай, борнай або іёдам. Пры кровецячэнні накладваюцца павязкі; прысохшую павязку перад зняццем трэба адмачыць цёплай вадой і здымаць асцярожна.

## Апёк

Апёкам называецца ўспаленне скуры, выклікане дзеяннем высокай тэмпературы (гарачая вада, раскаленае жалеза і інш.) і едкіх вяшчэстваў. У залежнасці ад сілы і часу дзеяння высокай тэмпературы або едкага вешчаства адрозніваюць тры ступені апёку: а) першая—пры якой можна бачыць абпаленыя валасы, чырвоную і прыпухшую скуру з прызнакамі балючасці; б) другая—на скуры пузыры з вадзяністым змесцівам і в) трэцяя—на месцы апёку ўтвараецца струп, што ўказвае на глыбокае паражэнне скуры.

Апёкі, захапіўшыя невялікую паверхню скуры не небяспечны; пры вялікім паражэнні скуры добры вынік залежыць ад месца паражэння і ступені апёку.

Пры апёку першай ступені трэба: прымачваць 1—3-процантным растворам марганцавакіслага калія або змазваць цынкавай маззю, ужываць таксама накладванне содавых кампрэсаў.

Пры апёках другой ступені: выпускаць з пузыра вадкасць, прымяняючы для гэтага спосаб высасвання яе шпрыцам праз іглу, і затым на месцы пузыра накладаць дэзінфіцыруючую павязку. Калі пузыры ўскрываюцца самі, а струпы адпадаюць, то лячыць, як рану.

Пры апёках трэцяй ступені: накладаюць на струпы павязкі з дэзінфіцыруючай вадкасцю—1—3-процантны раствор марганцавакіслага калія.

## Намулы

Намулам называецца ўспаленне скуры і глыбей ляжачых частак на холцы, спіне, шыі і плечах у коней.

Прычынай іх з'яўляецца: цесны, малы або вельмі шырокі хамут, няправільна прыгнаная вупраж, няспраўнасць потніка, ціск сядлом (дрэннае прыладжванне апошняга або дрэнная пасадка конніка).

Адрозніваюць наступныя віды намулаў: а) лёгкія намулы, пры якіх справа абмяжоўваецца гарачай, балючай пухлінай; б) больш сільныя намулы з утварэннем з балючай пухліны нарыву, які ўскрываецца і ўтварае або свішч або язву; в) найбольш цяжкія намулы, калі справа даходзіць да захворвання мышц, звязак касцей.

Чым раней бывае заўважан намул, тым хутчэй ён паддаецца лячэнню. Хворы намулам конь падлягае неадкладнаму асвабаджэнню ад работы. Пры лёгкіх намулах дастаткова іншы раз бывае прымяненне холаду ў выглядзе пузыра з льдом, накладванне трапкі, змочанай у растворы сулемы 1:2000, палівання халоднай вадой або змазвання глінай. Калі пасля гэтага лячэння

на працягу 2 дзён пухліна яшчэ астаецца, прымяняюць саграваючыя кампрэсы ў мэтах рассасвання або паскарэння паспявання нарыву.

Калі пухліна ўсё-ж не рассасваецца і ёсць прызнакі нагнаення, то яе ўскрываюць і лечаць як рану. Пры ўскрыцці гнайніка трэба абавязкова дабіцца добрых стокаў для гною. Пры зацёках гною і свішчах праводзяць больш складаныя аперацыі.

## Пералом

Пераломам называецца парушэнне цэласці касцей. Калі пералом адбыўся без парушэння цэласці скуры, то такі пералом называецца закрытым, а з парушэннем—адчыненым.

Прычынамі пераломаў з'яўляюцца: механічныя ўдары, пападанне нагой у якую-небудзь дзіру на масту і інш.

Пры пераломе конь зусім не наступае на хворую нагу; адламаная частка нагі свабодна „баўтаецца", адчуваецца балючасць і чуваць шум трэння зламаўшыхся канцоў касцей.

Пры пераломе неадкладна трэба выклікаць ветурача або ветфельчара, а да іх прыбыцця ўмацаваць каня на „падвесцы" для таго, каб аблягчыць яму магчымасць стаяць на трох нагах. Пры магчымасці лепш запрасіць урача для агляду на месцы, дзе адбыўся пералом з тым, каб да перавозкі жывёлы ён даў заключэнне аб магчымасці лячэння, або неабходнасці ўбою жывёлы.

Лячэнне пераломаў складанае і займае вельмі многа часу; часта выдаткі на лячэнне, нават пры поспеху апошняга, перавышаюць кошт самой жывёлы. Апрача таго, поўнае зрастанне косці не заўсёды аднаўляе поўную працаздольнасць жывёлы.

## Рэўматычнае ўспаленне капыт. Апой

Хварэюць галоўным чынам коні. Захворванне звычайна наступае пасля дачы неастыўшаму пасля работы каню свежых зёран аўса, пшаніцы, жыта або халоднай вады. Паражаюцца пры гэтым часцей за ўсё пярэднія капыты. Звычайна назіраецца ліхарадка з тэмпературай ад 39 да 41°, а іншы раз і колікі.

Захварэўшая жывёла цяжка ходзіць, баязліва, нібы на іголках, і выкідвае капыты. Хворыя сільна берагуць паражоны зачэп, пераносячы цяжар на мякіш. Капыты ў хворай гарачыя і балючыя. Даследванне шчыпцамі ўказвае на сільную боль у зачэпнай частцы капыта. Хвароба зацяжная; калі яна не праходзіць на першым тыдні, то зацягваецца на месяцы (хранічная форма).

Асноўнай умовай для лячэння з'яўляецца пакой як для ўсяго арганізма, так і капыт у прыватнасці. Таму з хворага каня трэба зняць падковы і забяспечыць яго добрай і дастатковай падсцілкай. Жывёле на 3—4 сутак прызначаюць поўгалодную дыету, пакідаючы ў сутачным рацыёне адно сена, а таксама зменшаную дачу вады да 5—8 л у суткі. На паражоныя капыты накладаецца халодны кампрэс з гліны, або часта змачваюць халоднай вадой да спынення жара. Цела і канцавіны каня расціраюць саломеным жгутам і пакрываюць каня папонай. Калі каню цяжка стаяць, або ён амаль не можа трымацца на нагах, то ў такіх выпадках, каб унікнуць пролежняў карыстаюцца падвешваючым апаратам. Адначасова з указанымі мерамі добра дапамагае дача слабіцельнага (глауберавая соль—300—500 г).

Пры хранічнай форме ў большасці выпадкаў атрымліваецца ўродства капыт (ёжавае капыта, хвалістае капыта); такія капыты куюцца асобым спосабам (спецыяльныя падковы).

## Закоўка

Раненне або сцісканне мясной сценкі капыта пры коўцы гваздом называецца закоўкай. У большасці выпадкаў закоўка адбываецца ў выніку няўвагі або дрэнной работы каваля.

Закоўка выяўляецца або ў часе падкоўвання—у момант убівання гвазда, або праз 1—2 дні пасля падкоўвання. У першым выпадку, як толькі жывёла адчула пры забіванні гвазда боль, каваль неадкладна павінен выняць гвозд.

Пры закоўцы першым прызнакам з'яўляецца кульгавасць.

Для вызначэння хваробы трэба старанна даследваць капыты. Сценка капыта, у якой адбылося раненне, звычайна цяплей здаровай. Ударам малатка па капытных гваздах, сядзячых у падкове, можна вызначыць, якім гваздом нанесена раненне: удар па гэтаму гвазду суправаджаецца аддзёргваннем нагі. Гэты гвозд трэба неадкладна ўдаліць з капыта і заліць гваздовы канал настойкай іёда; каню прадастаўляюць спакой да поўнага спынення кульгавасці і накладаюць на хворае капыта халодныя прымочкі. Калі гэта не дапамагае на працягу 1—2 сутак і кульгавасць не змяншаецца, то трэба зняць усю падкову і даследваць кожны гвозд. Пачарнеўшы або пакрыты гноем гвозд будзе ўказваць на месца ранення. У такіх выпадках на месцы, дзе быў гвозд, выразаюць варонкападобную адтуліну для стоку гною. Хворай назе робяць ванны і саграваючыя кампрэсы; кульгавасць праз некалькі дзён праходзіць.

## Укол капыта

Уколам капыта называюць раненне ўнутраных частак, ляжачых пад падашвой капыта, якім-небудзь вострым прадметам, на які наступіла нага каня. У выніку гэтага

конь пачынае кульгаць, прычым ступень кульгавасці залежыць ад сілы і глыбіні ўколу.

Вызначыць укол параўнальна лёгка, бо можна бачыць у падашве месца ранення, а іншы раз і раніўшы падашву прадмет, які тырчыць у месцы ранення. Паверхневыя і неглыбокія раненні вылечваюцца хутка; раненне глыбокае, як правіла, патрабуе больш часу для лячэння, і пры тым не заўсёды дасягаецца поўны поспех.

Прыступаючы да лячэння, неабходна расшырыць капытным нажом месца ранення ў падашве (для лепшага адтоку ўспаляльнай вадкасці) і паставіць капыты ў ванну (брэзентавае вядро з 3-працантным растворам крэаліна), або пакласці на яго саграваючы кампрэс.

## Намінка

Ушыб мясных частак капыта называецца намінкай. Пры ўшыбе звычайна адбываецца разрыў кровеносных сасудаў, кроў прапітвае рог, з прычыны чаго атрымліваюцца на ім чырвона-сіняватыя, жаўтаватыя плямы. Калі апрача прапітвання рогу хвароба далей не развіваецца, то такая намінка называецца сухой; калі-ж на месцы намінкі атрымліваецца ўспаленне, то атрымліваецца або вільготная намінка, калі паміж мяснымі і рагавымі часткамі скапляецца ўспаляльная вадкасць, або гнойная, калі ў выніку ўспалення ўтвараецца гной.

Прычынамі намінак з'яўляюцца ўшыбы капыта аб цвёрдыя прадметы (камені). Яны бываюць асабліва часта ў коней з няроўнай падашвой у выніку няправільнага падкоўвання (вялікае зразанне падошвенага рогу).

Пры сухіх намінках конь можа і не кульгаць; пры вільготных і гнойных—у каня адчуваецца ў капыце жар і ён апіраецца на зачэп. Пры даследванні капытоў

кляшчамі, у момант націскання на падашву ў месцы намінкі, конь аддзёргвае нагу.

Пры лячэнні намінкі перш за ўсё трэба зняць падкову, расчысціць капыта, а іншы раз, калі прыкметна няроўнасць (патаўшчэнне) на падашве, злёгку патончыць рог, але не да мясных частак. Асвабаджэннем каня ад работы лячэнне сухой намінкі можа абмежавацца, апрача тых выпадкаў, калі ў капыце жар,— тады прымяняюць холад. Калі прападае кульгавасць, падкоўваюць каня спецыяльнымі падковамі. Так, калі намінка на падашве, то робяць на падкове, на ўнутраным краі, пласцінку. Пры гнойных намінках неабходна даць выхад гною, для гэтага ў найбольш адчувальных па балючасці месцах трэба зняць рог да мясных частак. Капыта пасля гэтага ставяць у цёплую дэзінфіцыруючую ванну на працягу 2—3 дзён. Пасля ванны ў адтуліну ўліваюць настойкі сабура або іёда і закрываюць яе ваткай або пакляй, змочанымі ў чыстым бярозавым дзёгці. Апрача таго, на хворае капыта накладаецца павязка, якая не прапускае бруд і гноевую жыжку.

## Засечка венчыка

Засечкай называецца раненне, нанасімае венчыку шыпамі падкоў, калі пры няправільным падкоўванні ўнутраныя галіны падковы выходзяць далёка за падошвены край. Раненне бывае або паверхневае або глыбокае. У першым выпадку—невялікая кульгавасць на гэтую нагу (іншы раз яе і не бывае), а венчык толькі запэцкан крывёй, валасы склеены і рог крыху адстае ад мясных частак. Пры глыбокім раненні— сільная кульгавасць, а між рагавой сценкай і мяснымі часткамі можна бачыць кішэнь.

Пры свежых раненнях трэба добра выстрыгчы вакол раны валасы, працерці месца ранення спіртам або бензінам, змазаць настойкай іёда і накласці марлевую павязку.

Для папярэджання ўспалення рэкамендуюцца халодныя прымочкі з дэзінфіцыруючымі растворамі (2-процантны раствор карболавай кіслаты або лізола).

Пры пухліне і балючасці венчыка прымяняюць саграваючы кампрэс са спіртам, 2—3-процантнага раствору карболавай кіслаты або сулемы (1:1000); карысны крэалінавыя ванны. Пры лячэнні адстаўшы рог трэба ўдаліць, а рог ніжэй ранення патанчыць. Само сабой зразумела, што адначасова з лячэннем трэба ўдаліць прычыну, выклікаўшую засечку, і прадаставіць каню спакой.

## Макрэц

Макрацом называюць успаляльны стан скуры на згібальнай паверхні пута пярэдніх і задніх ног. Найбольш часта сустракаюцца макрацы ў каня; радзей — у буйнай рагатай жывёлы і толькі пры працяглым кармленні брагай—„брагавы макрэц"; у іншых жывёл макрацы не бываюць [1]).

Макрацы назіраюцца ў трох формах: экзематозная, барадаўчатая і гангрэнозная. Пры экзематозным макрацы спачатку паяўляецца пачырваненне, прыпуханне, жар, боль пры дакрананні, затым пузыркі, якія лопаюцца; на паражоным месцы скура робіцца вільготнай, мокрай. На мокнучых месцах паяўляюцца трэшчыны, скапленне гною і скура патаўшчаецца.

Калі хвароба выяўлена ў самым пачатку, то лячэнне яе нескладанае; для гэтага дастаткова сухога і чыстага ўтрымання канцавін каня і прымянення парашкоў: квасцоў, дубовай кары, іёдаформа, вокісу цынка з крухмалам або змачвання 4—5-процантным растворам піёктаніна.

---

[1]) Прычынамі макраца ў коней з'яўляецца: утрыманне коней у брудных і сырых канюшнях, унядрэнне гноеродных мікробаў, брудныя дарогі.

Экзематозны макрэц можа пераходзіць у барадаўчаты (рыс. 8). Пры гэтай форме на месцы быўшых трэшчын відаць выпячванні злучальнай тканкі ў выглядзе барадавак. Гэтая форма макраца трудней паддаецца лячэнню.

Гнойныя паверхні трэба добра падсушваць спіртовымі растворамі сулемы ($^1/_2$-проц.). Барадаўчатыя разрашчэнні прыпальваюць ляпісам, або зразаюць нажніцамі, а затым асцярожна прыпальваюць каленым жалезам.


Рыс. 8. Барадаўчаты макрэц.

Гангрэнозны макрэц — самая цяжкая форма хваробы. Паяўляецца ён у выглядзе гарачай балючай пухліны, пачырванення згібальнай паверхні пута і ўспаляльнага апухання ўсёй акружнасці, асабліва кверху, і суправаджаецца кульгавасцю і ліхарадкай.

На 2—3-ці дзень у цэнтры пухліны можна заўважыць пятно сіняга колеру, цвёрдае і неадчувальнае, якое даволі хутка павялічваецца ў размеры; праз некалькі дзён справа даходзіць да адмірання скуры і адпадання разам з падскурнай клятчаткай. На гэтым месцы ўтвараецца глыбокая рана са свішчовымі ходамі, а іншы раз з агаленнем сухажылляў. Прычынай такога макраца з'яўляецца ўнядрэнне асобых мікробаў, якія выклікаюць амярцвенне.

Вынікамі гангрэнознага макраца з'яўляецца ў лепшым выпадку паяўленне рубца на згібальнай паверхні пута, а ў горшым—заражэнне крыві і смерць або слановасць (патаўшчэнне да вялікіх размераў усёй нагі).

Пры лячэнні гангрэнознага макраца спачатку прымяняюць саграваючыя кампрэсы з камфорнага спірту

або раствору борнай кіслаты, лізола. Пасля адпадзення амярцвеўшага ўчастка рану дэзінфіцыруюць пеакісам вадарода, растворам марганцавакіслага калія, іёдаформеным эфірам.

Пры гэтай форме макраца карысны нажныя ванны ў дэзінфіцыруючых растворах: крэалінавыя (3-проц.), лізолавыя (2-проц.), марганцавакіслы калій (1-проц.).

Брагавы макрэц у буйнай рагатай жывёлы паяўляецца пры доўгім скармліванні ёй сырой бульбы або бульбяной брагі. Развіваецца ён на пуце і вышэй, часта нават на скакальным суставе, у выглядзе ўспалення скуры, з утварэннем пузыркоў, якія, лопаючыся, выдзяляюць едкую, склейваючую валасы, засыхаючую вадкасць; у далейшым паяўляецца апуханне нагі і ўтварэнне трэшчын і гнайнікоў.

У запушчаных выпадках гэты макрэц можа пераходзіць у флегмону і нават кончыцца смерцю.

Лячэнне зводзіцца да спынення скармлівання брагі або сырой бульбы, пасля чаго хвароба знікае ў некалькі тыдняў. У запушчаных выпадках рэкамендуецца ўціранне венскага дзягцярнага лінімента: дзёгця і серы па 1 частцы, зялёнага мыла і спірта па 2 часткі, а таксама высушваючыя сродкі: дубовая кара, цынкавы купарос і інш.

## Мазоль

Скурныя мазалі ўтвараюцца ў выніку працяглага ціску або трэння на які-небудзь участак скуры, дрэнна прыгнанай або дрэннай якасці збруі.

Звычайна на месцы ціску або трэння атрымліваецца патаўшчэнне скуры, якое іншы раз займае вялікую паверхню.

Пры наяўнасці такога мазаля перш за ўсё трэба ўдаліць прычыну яго ўтварэння, г. зн. устараніць ціск або трэнне; таму збруя лепш прыганяецца, каб яна не баўталася, не хлопала і не цёрла скуру. Пад часткі

збруі, утварыўшыя мазоль, падкладваюць мяккія падушачкі, або авеччу скурку і інш. Патаўшчэнне лечаць уціраннем сера-ртутнай мазі або іёднай маззю, якая прыгатаўляецца так: 1 частку іёда і 3—5 частак іёдзістага калія змешваюць і расціраюць з 50 часткамі вазеліна або свінога сала.

### Пролежні

У коней і іншых жывёл (асабліва буйных), калі яны ў выніку якіх-небудзь цяжкіх хвароб доўга ляжаць, на выступаючых частках тулава ўтвараюцца амярцвенні скуры і ніжэйляжачых тканак, якія называюцца пролежнямі. Пролежні найбольш часта сустракаюцца ў коней на скулавых касцях, рэбрах, маклаках і на канцавінах.

**Лячэнне.** Перш за ўсё трэба ўдаліць прычыну, якая выклікае пролежні. Жывёлу ставяць на падвешваючы апарат, або снабжаюць у вялікай колькасці чыстай і мяккай падсцілкай і кожныя 2—3 гадзіны пераварачваюць з аднаго боку на другі. Пролежні змазваюць або піёктанінам (1—2-проц.), або камфорнай маззю (5—10 проц.). Пры нагнаенні неабходны: змазванне ёднай настойкай, прамыванне дэзінфіцыруючымі растворамі і павязка.

### Абсцэс (нарыў)

Нарыў утвараецца ў выніку пранікнення ў тканку гнойных мікробаў; ён можа ўзнікнуць і гд увядзення лякарственых вяшчэстваў пад скуру (шкіпідар). Нарывы бываюць ва ўсіх тканках і органах (печань, селязёнка, мышцы), але часцей у скуры. Абсцэсы падзяляюцца на гарачыя і халодныя.

Першым прызнакам гарачага абсцэса з'яўляецца ўспаленне (пачырваненне, пухліна, балючасць, жар). Самы абсцэс прадстаўляе сабой спачатку шчыльную і сільна балючую пухліну без ясных граніц. Праз 4—

6 дзён нарыў паспявае: ён робіцца мякчэй, пры прашчупванні пальцамі адчуваецца дрыжэнне. Змесцівам паспеўшага абсцэса з'яўляецца гной. Для паскарэння паспявання прымяняюцца саграваючыя кампрэсы, лепш з разведзенага вадой спірта (гарэлка), або ўціранне сера-ртутнай або камфорнай мазі.

Пасля таго, як нарыў паспеў, яго трэба неадкладна ўскрыць, выпусціць гной і поласць прамыць цёплым дэзінфіцыруючым растворам (2—3-працантны крэалінавы раствор, сулемовы 1:1000); затым поласць нарыва запаўняецца марлевым тампонам, змочаным настойкай іёда або настойкай сабура. На рану накладваюць марлевую павязку.

Ускрыцце нарыва трэба рабіць у самым нізкім месцы, каб унікнуць зацёкаў гною.

Халодныя нарывы ўтвараюцца пры зацяжным успаленні. Яны пасля паспявання таксама павінны быць ускрыты.

## Флегмона

Флегмонай называецца ўспаленне падскурнай клятчаткі ў выніку пранікнення пры раненні або пашкоджанні скуры гнойных мікробаў.

Скура прыпухае, робіцца цвёрдай, балючай і гарачай; затым яна робіцца мякчэй, і ў адным або некалькіх месцах утвараюцца нарывы. Флегмона пачынаецца павышэннем не толькі мясцовай, але і агульнай тэмпературы.

Асабліва небяспечна разлітая флегмона; пры ёй адбываецца амярцвенне тканак на вялікіх участках і нярэдка яна заканчваецца агульным заражэннем крыві.

Асноўнае ў лячэнні флегмоны—гэта прымяненне саграваючых кампрэсаў з вінным спіртам або дэзінфіцыруючымі сродкамі і неадкладнае ўскрыцце паяўляючыхся нарываў. Кампрэсы трэба прымяняць да поўнага зажыўлення.

## ХВАРОБЫ ЎНУТРАНЫЯ

З унутраных захворванняў найбольш часта сустракаюцца хваробы страўнічна-кішочнага тракта.

### Успаленне поласці рота і языка

Захворванне можа ўзнікнуць ад грубага корму, асабліва засмечанага атрутнымі і колючымі прадметамі, ад вострых зубоў, ад атрутных траў (куколь, чамярыца), сапсаванага корму, ад неасцярожнага выцягвання языка і да т. п.

У роце паяўляецца жар, пачырваненне, прыпухласць слізістай абалонкі, якая дасягае ў коней на цвёрдым нёбе значных размераў, павялічаная адчувальнасць. Жывёла асцярожна захватвае корм, дрэнна яго перажоўвае, а іншы раз і зусім перастае есці, з рота ідзе сліна.

Трэба даваць у гэты час мяккі корм, летам траву, зімой—распаранае сена і баўтушку, вараныя караньплоды і да т. п. У пойла даваць чыстую ваду; рот неабходна трымаць у чыстаце і спрынцаваць яго уксусам са спажыўнай соллю (на шклянку вады 2 чайных лыжкі уксуса і 1 солі) або 1-процантным растворам таніна.

### Няправільнае сціранне зубоў

Сустракаецца пераважна ў коней; звычайна назіраецца сціранне бакавых зубоў, прычым знадворныя краі верхніх і ўнутраных ніжніх робяцца вострымі.

Конь павольна і дрэнна есць, выкідваючы камкі корму. У ротавай поласці знаходзяць параненне языка і шчок вострымі краямі зубоў. Лячэнне заключаецца ў спільванні рашпілем вострых краёў зубоў.

## Успаленне глоткі

Часцей за ўсё сустракаецца ў коней і свіней. Прычынамі паяўлення звычайна бываюць: скразнякі, агульнае ахаладжэнне ў халодны час успацеўшага каня, халодны, замёрзшы, пакрыты інеем корм.

У хворага каня з рота цячэ сліна, частка прынятай вады і корму выдзяляецца праз ноздры; назіраецца ліхарадка з тэмпературай да 40—41°. Хворая жывёла павольна жуе і асцярожна праглытвае, выцягваючы галаву і шыю; пры глытанні іншы раз назіраюцца прыступы кашлю.

Хвароба звычайна прадаўжаецца 8—14 дзён і заканчваецца выздараўленнем.

Хворую жывёлу неабходна паставіць у цёплае памяшканне і ўнікаць прастуды. Корм даецца мяккі, сакавіты (зелень, баўтушка); неабходна прадаставіць хворай вялікую колькасць чыстай, нехалоднай вады для задавальнення смагі і прапаласквання ротавай поласці. На вобласць глоткі добра накладваць саграваючы кампрэс, умацаваны на шыі падвязкай; хворую прымушаюць удыхаць вадзяныя пары або пары шкіпідара, прычым пары не павінны быць вельмі гарачымі. Дачы лякарства ўнутр трэба ўнікаць. Пры сільна развітай пухліне і адышцы жывёлы неадкладна выклікаць ветурача.

## Востры катар страўніка і кішок

Найбольш частай прычынай катара страўніка і кішок з'яўляюцца хібы ў кармленні, дачы вельмі халоднага або гарачага, сапсаванага корму, няправільнае сціранне і змена зубоў, цяжкая работа зараз-жа пасля прыёму корму.

Пры катары страўніка жывёла мала есць, а іншы раз і зусім адмаўляецца ад корму, грызе яслі, хапае

падсцілку замест сена. Назіраецца частае пазяханне. Пры аглядзе ротавай поласці можна назіраць прыпуханне і пачырваненне слізістай абалонкі. Кал пакрыт слізззю і змяшчае неперастраўлены корм. Жывёла вялая, сумная і хутка стамляецца ў рабоце. Хвароба можа прадаўжацца ад некалькіх дзён да двух тыдняў.

Пры катары кішок смага павышаная, чуваць на адлегласці кішочныя шумы (бурчэнне), жывот можа быць нямнога ўздут газамі, якія маюць смярдзючы пах. Кал, спачатку сухі, цвёрды, робіцца ўсё больш вадкім, а затым наступае панос, іншы раз з крывёй. Пры паносах, якія доўга цягнуцца, назіраецца агульны ўпадак сіл, тэмпература можа быць і ніжэй нармальнай і нарэшце жывёла гіне.

Лячэнне пры катары страўніка наступнае: неабходна жывёле даць слабіцельнае—глауберавая соль (300—500 г); павінна строга захоўвацца дыета. Задаюць вадкі корм, летам—невялікую колькасць зялёнага корму, рэпы, варанай бульбы. За $^1/_2$ гадзіны перад кормам або ў крайнім выпадку з кормам—карлсбадская соль (коням і буйнай рагатай жывёле па сталовай лыжцы). У залежнасці ад неабходнасці даюць горкія сродкі: палын, аніс, кмен. Жывёле абавязкова прадаставіць спакой і лепш галаданне на працягу 1 сутак.

Пры катары кішок—таксама спакой і галаданне на такі-ж тэрмін, саграваючае ўкутванне жывата і дача слабіцельнага—глауберавая соль, каламель (нельга рагатай жывёле). Супроць паносаў пасля дачы слабіцельнага праз $^1/_2$ сутак можна пры патрэбе прымяняць унутр танальбін, танаформ (6,0—10,0). Корм павінен быць лёгкі—баўтушка з аўсянай мукі або пшанічных вотрубяў. Пасля выздараўлення пераход на звычайны корм павінен быць паступовым. У цяжкіх выпадках неабходна тэрмінова выклікаць ветурача або фельчара.

## Колікі

Колікамі называюць рад захворванняў страўнічна-кішочнага тракта, якія суправаджаюцца рэзкімі прызнакамі болей. Пры захворванні колікамі конь непакоіцца, азіраецца на жывот, б'е нагамі і валяецца. Іншы раз непакой каня бывае такі сільны, што ён нібы траціць прытомнасць і кідаецца на зямлю з усяго размаху, пашкоджваючы сабе скуру, выклікаючы пераломы касцей, разрыў страўніка і інш. У хворых адсутнічае апетыт. Пры некаторых відах колік у каня сільна ўздут жывот.

У залежнасці ад прычын, якія выклікаюць колікі, адрозніваюць наступныя іх формы:

1. Колікі ад перакармлівання—выражаюцца ў вострым расшырэнні страўніка і кішок у выніку скармлівання трудна перастраўнага корму: бульбы, жыта і да т. п.

2. Колікі ад запору—пры запаволенні або спыненні выхаду калавых мас са скапленнем іх у кішочніку (сляпой і абадочнай кішках); пры паяданні корму з пяском і зямлёй.

3. Колікі сударажныя—паяўляюцца галоўным чынам у выніку прастуды (дача разгарачанаму каню вельмі халоднай вады).

4. Ветраныя колікі—у выніку паядання жывёламі бродзячага корму і інш.

Пры ўсіх указаных коліках цячэнне хваробы іншы раз заканчваецца смерцю.

Захварэўшага каня ставяць у прасторнае без скразнякоў памяшканне з дастатковай колькасцю мяккай і сухой падсцілкі. Спыняюць дачу корму. Перад лячэннем неабходна выясніць прычыну, выклікаўшую колікі.

У буйных жывёл неабходна ачысціць прамую кішку праз задні праход ад калу. Карысна зрабіць клізму з цёплай вады (да 5 л каню) не вышэй тэмпературы цела. Добра дапамагае расціранне жывата і бакоў каня на-

ступнай сумессю: шкіпідара 1 частка і вады або масла — 1 частка. Гэтай вадкасцю апырскваюць жывот і расціраюць саломеным жгутом. Пры коліках у хворых назіраецца жаданне класціся і валяцца, таму, калі валянне не праяўляецца вельмі бурна, перашкаджаць гэтаму не трэба. Пры сільным непакоі, калі конь з сілай кідаецца на зямлю, яго водзяць шагам, не даючы пры гэтым класціся. Ганяць хворую жывёлу рыссю не трэба. Дачу лякарстваў праводзіць толькі па вызначэнню ветурача або ветфельчара.

Пры выражаных або працяглых коліках неабходна выклікаць ветурача або ветфельчара, якія ў залежнасці ад характару колік праводзяць адпаведнае лячэнне.

## Тымпаніт

Адным з небяспечных захворванняў, якія сустракаюцца ў рагатай жывёлы, з'яўляецца ўздуцце жывата, або тымпаніт. Гэтая хвароба назіраецца ў кароў у выніку паядання сапсаванай бульбы, капусных лісцяў, маладой канюшыны, люцэрны, зялёнай вікі, сырамолатага зерня і інш. Карова прагавіта накідваючыся на корм, дрэнна яго пражоўвае, хутка глытае і набівае гэтым кормам трыбуху. Пры ашчупванні рубец шчыльны, нібы набіты кашападобнай масай. Галодныя ямкі знікаюць. Жывёла траціць жвачку, цяжка дыхае, адмаўляецца ад корму, аглядаецца на жывот, пераміпаецца з нагі на нагу, мычыць, сільна махае хвастом. Калі не аказаць своечасова дапамогі, жывёла можа хутка загінуць.

У мэтах лячэння разгладжваюць пучкамі саломы левы пах (уздуўшаеся месца) або размінаюць яго кулакамі. Карысна змачыць папярэдне скуру шкіпідарам папалам з вадой або посным маслам. Трэба таксама паставіць жывёле клізму з мыльнай вады. Унутр карысна даваць глауберавай солі 400 г або крэаліна 1 сталовую лыжку на

бутэльку вады. Калі ўсё гэта не дапамагае і ўздуцце прадаўжаецца, то неабходна бывае пракалоць трыбуху, для чаго ўжываюцца траакары. Пракол робіцца ў цэнтры левай галоднай ямкі, г. зн. у пункце, які знаходзіцца на адлегласці далоні ад выступу папярочных адросткаў паясічных хрыбетак і ад апошняга рабра. На месцы пракол шэрсць папярэдне выстрыгаецца, праціраецца спіртам і змачваецца настойкай іёда. Прастэрылізаваны чысты траакар ставяць у пункт праколу і адным сільным ударам пракалваюць скуру і сценку рубца, накіроўваючы траакар уніз і ўперад к локцю правай пярэдняй нагі. Пасля гэтага стылет траакара вымаецца, канюля пакідаецца ў ране, і праз яе пачынае выходзіць газ. Жывёле адразу робіцца лягчэй. Праз канюлю пры сільным бражэнні можна ўвесці раствор крэаліна (10,0 на 100,0 вады). Калі газы выйдуць, устаўляюць стылет у канюлю і, прыціскаючы левай рукой скуру, вымаюць траакар. Адтуліну пасля праколу закрываюць кавалачкам стэрыльнай ваты і заліваюць яе калодыем. Хвароба небяспечная, і пры захворванні трэба неадкладна выклікаць ветурача або ветфельчара.

## Свісцячае ўдушша

Хвароба назіраецца ў коней. Галоўным прызнакам з'яўляецца шум, які паяўляецца ў часе ўдыхання паветра і залежыць ад таго, што левы чарпалавідны храшч апускаецца ў поласць гартані і левая палова галасавой шчыліны ў выніку параліча не можа быць поўнасцю раскрыта. У выніку гэтага паветра з сілай праходзіць праз звужаную адтуліну. Калі конь стаіць, то гэтага шуму не чуваць, а ў часе рысі, галопу ён вельмі чуцен у выглядзе храпення, вохання і інш.; дыханне пры гэтым затруднёнае, ноздры шырока раскрыты. Праз некалькі мінут пасля работы шум спыняецца. Пры гэтай хваробе ў каня заўсёды бывае

бразжачы кашаль. Хвароба хранічная і амаль невылечная. Патрэбна аперацыя. Каня трэба паказаць ветурачу.

## Эмфізема лёгкіх (запал)

Эмфізема лёгкіх бывае пры хваробах сэрца, вадзянцы. Прызнакамі захворвання з'яўляюцца адышка, незвычайнае расшырэнне ноздраў, падоўжаны выдых, усіленая работа брушных мышц пры дыханні („пахі іграюць").

Запал з'яўляецца вынікам іншай хваробы, і таму трэба перш за ўсё ўстараніць тэтае асноўнае захворванне. Жывёле трэба прадаставіць лёгкую работу і лёгка ўсваяльны корм.

## Успаленне лёгкіх

Успаленне лёгкіх бывае ў выніку прастуды, удыхання раздражаючых вяшчэстваў, пападання ў лёгкія іншародных цел (корму, лякарственых вяшчэстваў, апілак). Хвароба пачынаецца сільнай ліхарадкай, даходзячай да 40,5—41,5°, якая суправаджаецца нярэдка азнобам. Жывёла слабее, стаіць з апушчанай галавой, поўзакрытымі вачыма, дыхае ўчашчана, пульс 50—100. Часамі жывёла кашляе, кашаль кароткі, сухі і хваравіты. Бачымыя слізістыя абалонкі—пачырванеўшыя і жаўтушна афарбаваныя. Хвароба цягнецца 3—4 тыдні.

**Лячэнне.** Жывёле неабходна прадаставіць цёплае, чыстае, з добрым паветрам памяшканне; на грудную клетку ставіць саграваючы кампрэс. Добрае дзеянне аказвае ўпырскванне шкіпідара пад скуру падгрудка (каню і буйнай рагатай жывёле 5,0—10,0). На другі-ж дзень паяўляецца пухліна, самаадчуванне каня паляпшаецца, тэмпература пачынае зніжацца. Гэтае добрае дзеянне шкіпідара назіраецца толькі ў тых выпадках, калі ён упырскваецца ў першыя пяць дзён хваробы. У наступныя дні пухліна іншы раз не атрымліваецца,

тады паўтараюць увядзенне шкіпідара. Трэба сачыць за работай сэрца, каб своечасова прыступіць да дачы сардэчных сродкаў. Хворую жывёлу неадкладна паказаць ветурачу.

## Успаленне калясардэчнай сумкі (перыкардыт)

У рагатай жывёлы часта назіраецца траўматычны перыкардыт на глебе прабадзення калясардэчнай сумкі іншароднымі целамі (іголкамі, гваздамі, дротам), якія пападаюць у грудную поласць са страўніка. Пры выслухванні чуваць шум трэння і пры скапленні ў калясардэчнай сумцы вадкасці плёск. Сэрца сільна стучыць, і ўдары яго чуваць не толькі з левага, але і правага боку, дыханне затруднена, перарывісты кашаль, ціск у вобласці сэрца выклікае балючасць. Пры расстройствах кровеабароту—ацёкі на шыі і падгрудку.

У большасці выпадкаў хвароба невылечная, хворай трэба прадаставіць поўны спакой; корм даваць свежы, добра перастраўны, лепш за ўсё, калі хвароба ўстаноўлена, жывёлу адправіць на бойню.

## Захворванні вачэй

### Успаленне злучальнай абалонкі вачэй (кан'юктывіт)

Адрозніваюць тры віды кан'юктывіта: катаральны, гнойны і фалікулярны.

Пры катаральным злучальная абалонка вока чырвоная, апухшая, рэзка прыкметны кровеносныя сасуды. З унутранага кутка вока празрыстае выцячэнне.

Пры гнойным—тыя-ж з'явы, але больш сільна выражаны і, апрача таго, апуханне век, светлабаязнь і гнойнае выцячэнне.

Успаленне злучальнай абалонкі вока **ўнутранага боку трэцяга века** называецца фалікулярным кан'юктывітам і часта сустракаецца ў сабак. Для вызначэння

яго грэба акцягнуць пінцэтам трэцяе века і на ўнутраным баку яго можна бачыць вялікую колькасць круглых цёмначырвоных вузялкоў, велічынёй з прасянае зерне. Пры гэтай форме вочы трохі прыпухшыя, і прыкметна слізістае выцячэнне.

Прычынай катаральнага кан'юктывіта з'яўляецца: пападанне пылу, частачак фуражу, раздражэнне атрутнымі газамі або дымам, рэзкая змена тэмпературы і заразныя хваробы: мыт, чума сабак, інфлюэнца, воспа авечак і інш.

Пры даследванні і лячэнні трэба захоўваць чыстату рук, інструментаў і матэрыялу, якімі карыстаюцца. Пры лячэнні ўсіх форм кан'юктывіта, зразумела, перш за ўсё трэба ўдаліць прычыну хваробы. Так пры катаральным кан'юктывіце, калі на абалонцы выяўлена староннее цела, неабходна ватай, змочанай у дэстыляванай вадзе, удаліць гэтае цела; калі яно сядзіць шчыльна, то трэба асцярожна здабыць яго чыстым пінцэтам. Вока трэба прамыць 1—2-процантным растворам борнай кіслаты, $^1/_2$-процантным растворам сернакіслага цынка і накласці сухую марлевую павязку.

Прычынай гнойнага кан'юктывіта з'яўляецца пападанне гноеродных бактэрый.

Лячэнне заключаецца ў прамыванні 1—2-процантным растворам ляпіса (2 разы ў дзень).

Прычыны фалікулярнага кан'юктывіта дакладна не вывучаны. Лячэнне—прамыванне 1—2-процантным растворам ляпіса, сернакіслага цынка.

**Успаленне рагавіцы вока (кератыт).** Рагавіца робіцца мутнай і непразрыстай; памутненне бывае то невялікае, то вельмі значнае,—іншы раз амаль уся рагавіца мае белы колер, слёзацячэнне.

Прычыны тыя-ж, што і пры ўспаленні кан'юктывы. Пры ўспаляльных з'явах лячэнне заключаецца ў накладванні цёплых содавых кампрэсаў, або абмыванні па некалькі разоў у дзень растворам сулемы (1:4000). Пасля папярэджання ўспалення пры наяўнасці памут-

нення трэба праводзіць удуванне ёдаформу. Пры язвах прамываць растворам борнай кіслаты (3 проц.). Пры гнойным кератыце—саграваючыя кампрэсы і абмыванне растворам сулемы (1:4000). Белыя плямы (карынкі) лечаць удуваннем каламеля.

## Хваробы кароў у часе цельнасці і пасляродавыя захворванні

**Залежванне** сустракаецца ў слабых, знясіленых і старых кароў у другой палове цяжарнасці. Небходна паклапаціцца аб добрым доглядзе, дастатковай і мяккай падсцілцы. Час ад часу трэба паварачваць карову з аднаго боку на другі. Карысна праводзіць расціранне (масаж) задніх ног. Трэба таксама ўсіліць жыўленне прыбаўленнем макухі і вотрубяў. Пасля ацёлу карова звычайна ўстае.

**Выкідыш** па свайму паходжанню бывае заразны і незаразны.

Незаразны выкідыш выклікаецца няправільным утрыманнем і асабліва нядобраякасным кармленнем цяжарных жывёл (дача заплеснявелага корму, выпас на пакрытых інеем канюшынавых лугах), пабоямі, ушыбамі і інш.

Месца, дзе адбыўся выкідыш, неабходна ачысціць і прадэзінфіцыраваць.

Калі пасля выкідыша заўважаецца гнойнае выцячэнне з палавой шчыліны, то неабходна праводзіць прапаласкванне родавых шляхоў слабымі растворамі дэзінфіцыруючых вяшчэстваў, 1-процантным лізолавым растворам, слабаружовым растворам марганцавакіслага калія.

**Выпадзенне ўлагалішча.** У многародзячых кароў з другой паловы цельнасці пачынаецца выпячванне з палавой адтуліны ўлагалішча ў выглядзе пухліны велічынёй з кулак, іншы раз з дзіцячую галаву і больш.

Пры ўставанні жывёлы пухліна гэтая звычайна

ўпраўляецца самастойна і знікае. Але ў некаторых выпадках гэтае выпячванне бывае настолькі значнае, што і пры ўставанні ўпраўлення не адбываецца.

Як толькі ў цяжарнай жывёлы будзе выяўлена выпадзенне ўлагалішча, неабходна яе зад падняць вышэй, падкласці пад яго больш падсцілкі. Выпаўшую частку абмыць 1-процантным растворам лізола або адварам дубовай кары. Калі выпаўшая частка не ўваходзіць, то яе ўпраўляюць. Роды ў такіх жывёл адбываюцца іншы раз зусім добра і не суправаджаюцца ускладненнямі.

**Затрыманне паследа.** Пасled або месца выходзіць хутка пасля ацёлу (праз 3—8 гадзін), але здараецца, што ён затрымліваецца ў матцы доўга, або частка яго, аддзяліўшыся, вісіць у выглядзе пецель. Астатняя частка знаходзіцца ў матцы, разлагаецца там, выклікаючы ўспаленне маткі і знясіленне каровы.

Каб дапамагчы карове, трэба чыста вымыць і абеззаразіць рукі, змазаць раслінным маслам або вазелінам і вельмі павольна і асцярожна ўвесці руку ва ўлагалішча, а затым уводзіць паміж слізістай абалонкай маткі і паследам. Дайшоўшы да матачных барадавак, неабходна абхапіць указальным і вялікім пальцамі барадаўку і асцярожна аддзяляць пасled. Пастулова, такім чынам, пасled аддзяляецца ад усіх барадавак і ўдаляецца. Пасля гэтага неабходна спрынцаваць матку 1—2 разы ў дзень 1-процантным растворам лізола. У трудных выпадках трэба выклікаць ветурача.

**Выпадзенне маткі.** Выпадзенне маткі назіраецца пры трудных і няправільных родах, а таксама пры грубай і няўмелай дапамозе. Выпаўшая матка мае выгляд мясістага мяшка, на якім можна знайсці многа барадавак з вісячымі часткамі паследаў. Калі матка выпала нядаўна і не наступіла яе амярцвення, то яе абмываюць дэзінфіцыруючымі вадкасцямі (1 проц. квасцоў, лізола), аддзяляюць пасled і затым упраўляюць, пачынаючы ад частак, бліжэйшых да ўлагалішча. Пры

ўпраўленні захоўваюць чыстату. Лепш за ўсё гэтае ўпраўленне ўдаецца на стаячай жывёле. Для таго, каб матка не выходзіла назад, пятлю закрываюць бандажамі.

Калі на выпаўшай матцы прыкметна пачалося амярцвенне, то яе адразаюць (робіць ветурач або ветфельчар). Пры выпадзенні маткі неадкладна выклікаць ветурача або ветфельчара.

**Успаленне вымені (мастыт)** сустракаецца ва ўсіх дамашніх жывёл, але часцей за ўсё ў кароў і авечак.

Выклікаецца мікробамі, пранікаючымі праз паверхню скуры, сасковую адтуліну, або праз кроў.

Адрозніваюць тры віды мастыта: скурны, інтэрстыцыяльны і парэнхіматозны.

Скурны мастыт. Узнікае ад ушыбаў, раненняў, пры наяўнасці трэшчын сaскоў. Паражонае месца гарачае, скура гладкая, бліскучая, напружаная. Малако не мяняецца.

Лячэнне: змазванне цынкавай маззю, камфорным маслам, іхтыёлавай маззю.

Інтэрстыцыяльны мастыт. Пры ім паражаецца міждольчатая злучальная тканка; мікробы пранікаюць праз скуру або праз кроў (пры захворванні маткі або кішочніка). Назіраецца набуханне вымені, якое цвярдзее і робіцца балючым; вынікам іншы раз астаецца ўшчыльненне, радзей утвараюцца абсцэсы.

Трэба ўстараніць прычыну, выклікаўшую захворванне, і лячыць мастыт, матку, або страўнічна-кішочны тракт. У пашкоджанае месца вымені ўціраць іхтыёлавую мазь; пры зацвярдзенні прымяняюць прыпаркі ўціранне рассасваючай луголеўскай мазі.

Парэнхіматозны мастыт. Пры гэтым захворванні паражаецца самая выдзяляльная тканка (парэнхіма) у выніку пранікнення мікробаў праз саскі ў залозу.

Паражоная частка вымені апухшая, гарачая і балючая, выдзяленне малака з яе сільна зменшана. Пры

здайванні выцякае чырванаватая або мутна-жаўтаватая вадкасць.

Л я ч э н н е. Саграваючыя кампрэсы і частае, 3—4 разы ў суткі, здайванне са знішчэннем здоенага малака.

Пры ўсіх мастытах жывёлу неабходна як мага хутчэй паказаць ветурачу або ветфельчару.

## Няправільныя трудныя роды

Калі пры родах патугі прадаўжаюцца без рэзультата некалькі гадзін, а потым слабеюць, або наступаюць вялікія перапынкі паміж патугамі, значыць ёсць якая-небудзь ненармальнасць. Трэба правесці даследванне родавых шляхоў, захоўваючы перасцярогу і неабходную чыстату, каб не заразіць матку. Палавую шчыліну ўлагалішча абмываюць растворам лізола. Рукі мыюць цёплай вадой з мылам, дэзінфіцыруюць лізолам і змазваюць чыстым маслам (раслінным). Склаўшы ўсе пальцы разам, асцярожна ўводзяць руку ў пятлю і далей да таго часу, пакуль рука не ашчупае плод. Нярэдка бывае, што адна ножка або адна толькі галоўка, або галоўка і адна ножка вышлі з маткі ў родавыя шляхі, а роды не наступаюць. Значыць цялё ідзе няправільна.

Правільных палажэнняў два: пярэдняе або галаўное, калі цялё ідзе галавой і абодвума выцягнутымі ўперад пярэднімі ножкамі, на якіх ляжыць морда цяляці, і задняе—таксама правільнае палажэнне, называемае яшчэ тазавым, калі цялё ідзе выцягнутым ва ўсю даўжыню к выхаду заднімі ножкамі.

Усякае іншае палажэнне будзе няправільным, і без дапамогі роды адбыцца не могуць. Бывае, аднак, што і пры правільным палажэнні роды затрымліваюцца ў выніку слабых патуг каровы.

Плод можна выцягваць толькі пры правільным палажэнні, для чаго і трэба прывесці частку плода

ў гэтае палажэнне. Але пры гэтым абавязкова трэба захоўваць наступнае: 1) не спяшацца, 2) пацягваць цялё толькі ў часе патугі і паступова павялічваць пацягванне.

Жывёла ў першыя дні пасля ацёлу бывае асабліва схільнай да пасляродавых захворванняў. Пасля заканчэння родаў карысна расціраць цела пучком саломы. Паслед пасля яго выдзялення ўбраць. Корм і ваду даваць паступова ў невялікіх порцыях. Вымя каровы аддайваецца і трымаецца ў чыстаце. Пры няправільных трудных родах трэба выклікаць ветурача.

---

## V. ЗАРАЗНЫЯ ХВАРОБЫ І БАРАЦЬБА З ІМІ

Заразнымі (інфекцыйнымі і інвазійнымі) хваробамі называюцца такія хваробы, якія маюць схільнасць да распаўсюджання і пераходу з хворых на здаровых.

Заразныя хваробы выклікаюцца асобымі, надзвычай малымі жывымі арганізмамі расліннага або жывёльнага паходжання. Мікробы, якія выклікаюць заразныя хваробы, маюць назву патагенных або хваробатворных. Гэтыя найдрабнейшыя жывыя істоты можна бачыць толькі пры дапамозе мікраскопа (асобы прыбор з павелічальным шклом).

Існуюць яшчэ так называемыя фільтруючыяся вірусы. Гэта—мікробы настолькі дробныя, што пры дапамозе сучасных мікраскопаў яны нябачны і маюць здольнасць праходзіць скрозь бактэрыяльныя фільтры (асобыя цыліндры з порыстага матэрыяла), адкуль яны і атрымалі сваю назву „фільтруючыяся".

Падобна іншым жывым істотам мікробы жывяцца, дыхаюць, размнажаюць і выдзяляюць атрутныя прадукты (таксіны). Некаторыя з гэтых мікробаў жывяцца сокамі і тканкамі жывых арганізмаў і маюць здольнасць размнажацца толькі ў жывых тканках выклікаючы захворванне; такія мікраарганізмы называюцца паразітамі. Усе патагенныя (хваробатворныя) мікробы з'яўляюцца паразітамі. Іншыя віды мікробаў жывуць і размнажаюцца толькі на мёртвых арганічных вяшчэствах і не пранікаюць у жывыя тканкі. Гэта—сапрафіты.

Мікробы пранікаюць у арганізм жывёлы праз рот, скуру і слізістыя абалонкі.

Пападаючы ў цела жывёлы, мікробы пры спрыяльных умовах пачынаюць размнажацца і выдзяляць атрутныя прадукты жыццедзейнасці (таксіны), якія выклікаюць хваробныя з'явы ў арганізме і нярэдка яго смерць.

Такія мікробы-паразіты называюцца вірулентнымі, г. зн. здольнымі падаўляць супраціўленне, аказваемае клеткамі тканак і сокамі арганізма. Ступень вірулентнасці мікробаў у арганізме залежыць як ад уласцівасцей мікробаў, так і ад сілы супраціўлення, аказваемага арганізмам (устойлівасць або слабасць яго), і ад цэлага раду ўмоў знешняга асяроддзя, у якіх знаходзіцца даная жывёла (агульныя зоагігіенічныя ўмовы).

Асобнае месца ў раду заразных хвароб займаюць такія інвазійныя хваробы, як глісныя і скурныя.

## СПОСАБЫ ПЕРАДАЧЫ ЗАРАЗНЫХ ХВАРОБ

Галоўнай крыніцай распаўсюджання заразных хвароб з'яўляецца хворая жывёла. Розныя выдзяленні хворай жывёлы—сліна, слізь і гной (напрыклад, з дыхальных органаў), кал, мача і т. д. могуць змяшчаць у сабе заразных мікробаў і з'яўляцца крыніцай заразы.

Хвароба можа перадавацца ад хворай жывёлы да здаровай рознымі шляхамі: пры непасрэдным судакрананні ў памяшканнях або на пашах, пры кармленні або вадапоі з агульных карыт, пры рабоце ў іншых месцах скаплення жывёлы і т. д. Зараза перадаецца праз інвентар і прадметы догляду, узятыя з заражоных памяшканняў для скарыстання ў благапалучных.

Некаторыя інфекцыйныя хваробы (яшчур, туберкулёз, павальнае ўспаленне лёгкіх) могуць перадавацца праз паветра з кропелькамі сліны або макраты хворага, напрыклад, пры кашлі. Частачкі пылу, якія змяшчаюць

хваробатворныя мікробы, могуць пераносіць інфекцыю на адлегласць. Заразныя хваробы перадаюцца таксама праз так называемых перадатчыкаў, напрыклад: мухі, сляпні, авадні, клапы, кляшчы, вошы, блохі, пацукі і да т. п.

Ёсць хваробы, узбуджальнікі якіх заражаюць глебу і захоўваюцца ў ёй хваробатворнымі на працягу раду гадоў, напрыклад стаўбняк, сібірская язва.

Крыніцай распаўсюджання заразных хвароб можа быць і здаровая по знешняму выгляду жывёла, але заражоная, або перанёсшая заразнае захворванне (бацыланосьбіт). Такая жывёла пры цэлым радзе хвароб можа доўгі час насіць у сабе заразу і выдзяляць яе з выпаражненнямі мачой, макротай або з прадукцыяй—малаком і да т. п. Корм жывёлы, заражонай мікробамі, можа таксама выклікаць успышку эпізаоты.

## ЦЯЧЭННЕ ЗАРАЗНЫХ ХВАРОБ

Заразнае захворванне ў жывёлы праяўляецца не адразу пасля заражэння. Паміж часам заражэння і паяўленнем першых прызнакаў (сімптомаў) хвароба праходзіць некаторы час, называемы скрытым, або інкубацыйным перыядам хваробы.

Усякая заразная хвароба мае свой інкубацыйны перыяд рознай працягласці. Напрыклад пры мыце коней гэты перыяд вызначаецца ў 4—12 дзён, пры злучной хваробе—2—3 тыдні і нават 2—4 месяцы і да т. п.

Па свайму цячэнню заразныя хваробы падзяляюцца на вострыя і хранічныя. Вострыя заразныя хваробы (сібірская язва, менінгіт коней, чума свіней і інш.) працякаюць звычайна бурна, з высокай тэмпературай, і прадаўжаюцца параўнальна нядоўга—ад некалькіх гадзін да некалькіх дзён. Хранічныя заразныя хваробы працякаюць больш вяла і цягнуцца іншы раз вельмі доўга—да года і больш (туберкулёз, сап). Вострая інфекцыйная хвароба можа перайсці ў хранічную, а хра-

нічная інфекцыйная хвароба (сап, туберкулёз) можа абвастрыцца. Выздараўленне жывёлы адбываецца ў выніку таго, што мікробы выдзяляюцца з арганізма з мачой, калам, макратой і гінуць у ім пад дзеяннем ахоўных сокаў і клетак арганізма.

Мікробы, астаўшыяся ў арганізме, могуць выклікаць зноў захворванне. Гэтае паўторнае захворванне называецца рэцыдывам.

Пры заражэнні жывёлы адначасова рознымі мікробамі атрымліваецца змешаная інфекцыя (напрыклад, адначасовае захворванне чумой свіней і септыцэміяй або мытам і сапам і т. д.). Значна часцей выпадкі, калі да адной інфекцыі далучаецца ў далейшым другая, якая называецца д р у г а ч н а й. Захворванні пры змешанай і другачнай інфекцыях адбываюцца звычайна значна цяжэй, чым пры наяўнасці заражэння адным відам мікробаў, напрыклад яшчурам, мытам і да т. п.

## ПАНЯЦЦЕ АБ ІМУНІТЭЦЕ (УСПРЫЙМАЛЬНАСЦЬ І НЕЎСПРЫЙМАЛЬНАСЦЬ)

Пры паяўленні той ці іншай заразнай хваробы сярод жывёл не ўсе з іх захворваюць, хоць яны і знаходзіліся ў аднолькавых умовах магчымасці заражэння; астаючыяся здаровыя жывёлы маюць здольнасць супраціўляцца дзеянню мікробаў і іх ядаў. Гэтая здольнасць называецца імунітэтам, або неўспрыймальнасцю да заразных хвароб.

Не кожны від жывёлы і не кожная жывёла здольны заражацца ўсімі заразнымі хваробамі. Чалавек не можа напрыклад заразіцца чумой рагатай жывёлы або мытам коней; сап коней не пераходзіць на буйную рагатую жывёлу, павальнае ўспаленне лёгкіх буйнай рагатай жывёлы не перадаецца іншым відам жывёл. Такая неўспрыймальнасць, або імунітэт, уласцівы ад прыроды пэўнаму віду жывёл і перадаваемы па спадчыне па-

добна іншым відавым прызнакам, носіць назву прык[illegible]г а і відавога.

Некаторыя заразныя хваробы ў адной і той-жа жывёлы не паўтараюцца, г. зн. перабалеўшая аднойчы, яна паўторна не захворвае (напрыклад, пры мыце, воспе і т. д); такі імунітэт называецца **набытым** і пажыццёвым.

Далёка не пры ўсіх заразных хваробах існуе пажыццёвы набыты імунітэт. Напрыклад, конь, які перахварэў сібірскай язвай, можа зноў захварэць гэтай хваробай.

Неўспрыймальнасць да той ці іншай хваробы можа быць выклікана таксама штучна шляхам прышчэпкі. Такі набыты імунітэт носіць назву **штучнага імунітэта**.

Набыты імунітэт з'яўляецца **спецыфічным**: напрыклад, жывёла, перахварэўшая сібірскай язвай, набывае імунітэт толькі да гэтай хваробы. Свінні, якім зроблены процічумныя прышчэпкі, робяцца неўспрыймальнымі толькі да чумы свіней.

Працягласць імунітэта розная. Прыроджаны імунітэт цягнецца ўсё жыццё жывёлы. Набыты імунітэт мае розную працягласць у залежнасці ад той ці іншай хваробы. Так, напрыклад, коні, перахварэўшыя мытам, як правіла, застрахованы на ўсё жыццё ад паўторнага захворвання. Пасля прышчэпак вакцынай супраць сібірскай язвы імунітэт трымаецца 6 месяцаў і нават дольш. Пры прышчэпках вакцынай супроць рожы свіней імунітэт захоўваецца да 1 года. Прышчэпка сыраваткай забяспечвае імунітэт на 10—14 дзён.

Набыты імунітэт бывае **актыўным** і **пасіўным**. **Актыўным** лічыцца імунітэт, выпрацаваны самім арганізмам жывёлы ў выніку перанесенага захворвання або паслявакцынацыі, г. зн. увядзення ў арганізм забітых або аслабленых мікробаў, так называемых [illegible]ын.

Пры **пасіўным** імунітэце вяшчэствы, якія абумоў-

ліваюць неўспрыймальнасць, не выпрацоўваюцца самім арганізмам жывёлы, а атрымліваюцца ў гатовым выглядзе ад іншай выпрацаваўшай іх жывёлы. Пасіўны імунітэт можа быць створан штучна, шляхам увядзення сыраваткі крыві, узятай ад адной актыўна набыўшай імунітэт жывёлы (напрыклад, пасіўная імунізацыя пры чуме або рожы свіней). Працягласць пасіўнага імунітэту вельмі невялікая (10—14 дзён).

**Ахоўныя прыстасаванні арганізма.** Арганізм жывёлы не астаецца індыферэнтным да таго, што ў яго пранніклі мікробы; наадварот, ён карыстаецца сродкамі самаабароны, надзеленымі прыродай, каб пазбавіцца ад іх, перашкодзіць іх размнажэнню і выдзяленню ім ядаў.

Перш за ўсё арганізм жывёлы мае рад знешніх ахоўных прыстасаванняў. Знадворны слой скуры з'яўляецца надзейнай перашкодай, не перашкаджаючай мікробам пранікнуць у цела жывёлы. Большасць мікробаў не можа прайсці праз непашкоджаную скуру і выклікаць захворванне. Слізістыя абалонкі цела жывёлы прадстаўляюць менш надзейны бар'ер. Многія мікробы не здольныя пранікнуць у арганізм жывёлы праз скуру, пранікаюць праз слізістыя абалонкі і нават тады, калі яны не пашкоджаны. Слізістыя абалонкі вачэй, дыхальных, стрававальных і іншых органаў выдзяляемай імі слізззю змываюць пападаючых на іх мікробаў.

Калі мікробы праніклі ў арганізм, гэта яшчэ не значыць, што яны размножацца і выклічуць захворванне. Апрача знешніх бар'ераў арганізм мае рад унутраных ахоўных прыстасаванняў. Гэтыя прыстасаванні арганізма абумоўліваюцца дзейнасцю клетак арганізма і дзеяннем яго сокаў. Клеткі і сокі арганізма пагубна дзейнічаюць на мікробаў. У арганізме ёсць клеткі, якія паглынаюць мікробаў і пераструўліваюць іх, перашкаджаюць іх рухавасці, раствараюць і забіваюць. Вяшчэствы, якія змяшчаюцца ў соках арганізма і дзейнічаюць на мікробы, называюцца а н т ы ц е л а м і.

Унутраныя ахоўныя прыстасаванні можа мець як арганізм неперахварэўшай і невакцыніраванай жывёлы, так і хварэўшай або спецыяльна апрацаванай, г. зн. імунізаванай (натуральны, набыты і штучны імунітэт). Арганізм перахварэўшай або вакцыніраванай жывёлы мае вялікую колькасць антыцел у крыві і соках тканак; клеткі імунізаванага арганізма значна энергічней паглынаюць мікробаў. Вось чаму перахварэўшая або вакцыніраваная жывёла лепш процістаіць заражэнню.

## АСНОЎНЫЯ ВЕТЭРЫНАРНА-САНІТАРНЫЯ І ЗООГІГІЕНІЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПА БАРАЦЬБЕ З ЗАРАЗНЫМІ ХВАРОБАМІ

Мерапрыемствы па барацьбе з заразнымі хваробамі могуць быць падзелены на дзве групы: 1) сістэматычнае папярэджанне заразных хвароб і 2) барацьба з узнікаючымі захворваннямі.

**Агульныя папераджальныя мерапрыемствы.** Агульна-санітарныя і зоагігіенічныя мерапрыемствы па папярэджанню заразных хвароб уваходзяць у ветэрынарны і зоагігіенічны мінімум (ветзоамінімум). Усе гэтыя мерапрыемствы падзяляюцца на цэлы рад наступных груп: 1) забеспячэнне с.-г. жывёл уцепленымі, светлымі і сухімі памяшканнямі; 2) папярэджанне празмернага пераўшчыльнення памяшканняў жывёламі; 3) ачыстка памяшканняў ад папсаванага паветра праз вентыляцыйныя трубы—праветрыванне; 4) падтрыманне нармальнай тэмпературы і чыстаты ў памяшканні (сістэматычная ўборка, ачыстка і дэзінфекцыя); 5) правільнае кармленне і своечасовы вадапой жывёл; 6) правільная эксплаатацыя племянной рабочай і прадуктыўнай жывёлы і т. д.

Гэтымі мерапрыемствамі, зразумела, не вычэрпваецца ўсё тое, што патрабуецца правесці па ветзоамінімуму. Тут выдзелены толькі галоўныя мерапрыемствы. Выкананне ветэрынарнага мінімума прыводзіць да рэзкага змяншэння захворванняў жывёл (заразных і незаразных), а іншы раз і да поўнага знікнення некаторых з іх.

## ПАПЕРАДЖАЛЬНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ СУПРОЦЬ ЗАНОСУ ЗАРАЗНЫХ ХВАРОБ

Вельмі вялікая небяспека занясення інфекцыі ўзнікае пры ўвядзенні новых жывёл са стараны. Таму ніводная новая жывёла не павінна ўводзіцца ў агульныя канюшні, свінарнікі, кароўнікі і т. д., пакуль не будзе атрымана дастатковая гарантыя, што яна не з'яўляецца носьбітам якой-небудзь заразнай хваробы. Для стварэння такой гарантыі праводзіцца так званае прафілактычнае карантынаванне новапрыбыўшай жывёлы. Карантын павінен быць распалажан магчыма бліжэй да граніцы соўгаса або таварнай фермы, але ў той-жа час быць дастаткова ўдалёным ад памяшканняў асноўнага пагалоўя гаспадаркі (па магчымасці не бліжэй 0,5 км). Усе дарогі і прагоны праз карантын павінны быць закрыты для агульнага карыстання.

Пры паступленні ў карантын жывёлы падвяргаюцца наступнай ветэрынарна-санітарнай апрацоўцы:

а) коні старанна аглядаюцца ветурачом і даследуюцца на сап спосабам вочнай малеінізацыі. Перад асвабаджэннем з карантына коні паўторна правяраюцца вочнай малеінізацыяй. Апрача таго, коні даследуюцца на злучную хваробу (даследванне крыві) і інфекцыйны аборт, калі ёсць падазрэнне на магчымасць заражэння або захворвання імі;

б) рагатая жывёла даследуецца на туберкулёз і на заразны выкідыш (інфекцыйны аборт, бруцэлёз). У раёнах, неблагалучных па павальнаму ўспаленню лёгкіх, праводзіцца даследванне крыві на гэтую хваробу;

в) авечкі карантынуюцца для папярэджання заносу воспы, каросты, бруцэлёза і іншых хвароб;

г) свінні карантынуюцца для папярэджання заносу чумы, рожы або бруцэлёза; у неабходных выпадках праводзяцца адпаведныя прышчэпкі.

Тэрмін карантына 14—21 дзень. Пры асобных хваробах тэрмін карантына розны. Калі ў перыяд каран-

тынавання жывёлы не захварэюць, то па ўказанню ветурача яны перадаюцца ў агульнае стада.

Па сканчэнні карантына, яго памяшканні ачышчаюцца і абеззаражваюцца. Дазвол на скарыстанне карантынных памяшканняў для новых партый жывёл магчыма даць толькі пасля старанна вытваранай механічнай ачысткі і дэзінфекцыі.

Персанал, які абслугоўвае карантынныя памяшканні, не можа быць скарыстан для догляду за астатняй жывёлай. У выпадку немагчымасці з-за недахопу рабочай сілы мець асобны персанал ён павінен быць скарыстан спачатку для догляду за здаровымі жывёламі, затым—за карантынаванымі і, урэшце—за заразнымі хворымі (у ізалятары), прычым у кожным аддзяленні павінны надзявацца асобныя халаты, ачышчацца і дэзінфіцыравацца абутак і рукі. Ветсанітар павінен строга сачыць за тым, каб карантынуемыя жывёлы не змешваліся з астатнім стадам гаспадаркі.

## ПАПЕРАДЖАЛЬНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ СУПРОЦЬ РАСПАЎСЮДЖАННЯ ЗАРАЗНЫХ ХВАРОБ У НЕБЛАГАПАЛУЧНАЙ ГАСПАДАРЦЫ

Апрача папераджальнага карантына, існуе так называемы вымушаны карантын, які праводзіцца ў гаспадарках пры ўспышках заразных хвароб. У такіх выпадках захварэўшая і падазроная па захворванню жывёла аддзяляецца ад здаровых жывёл у ізалятар. Заражоная гаспадарка, або асобная яе частка (ферма, брыгада, канюшня, кароўнік, свінарнік і т. д.) аб'яўляюцца неблагапалучнымі па той ці іншай хваробе. У вымушана карантынаванай гаспадарцы праводзяцца мерапрыемствы па ўказанню ветурача. На час карантына ветсанітарным законадаўствам забараняюцца ўвоз у неблагапалучную гаспадарку і вываз з яе жывёл; у некаторых выпадках забараняецца таксама вываз фуража (напрыклад, пры яшчуры або сібірскай язве) або прадукцыі (мяса, малако, скурсыравіна).

## ВЕТЭРЫНАРНА-САНІТАРНЫЯ ПРАВІЛЫ ЎНУТРАНАГА РАСПАРАДКУ Ў ГАСПАДАРЦЫ

У благапалучнай жывёлагадоўчай гаспадарцы для папярэджання заносу заразных хвароб штодзённа павінны выконвацца ветэрынарна-санітарныя правілы ўнутранага распарадку.

Галоўнай мерай супроць заносу са зне ў гаспадарку заразнай хваробы з'яўляецца арганізацыя правільнага размяшчэння жывёлы як на самай тэрыторыі скотнага двара, так і пры перагонах с.-г. жывёл на пашы. Трэба максімальна (як мага больш) абмежаваць магчымасць судакранання жывёлы калгаса (соўгаса) з жывёлай гаспадарак вакольнага насельніцтва. Для гэтага жывёлагадоўчая ферма калгаса (соўгаса) павінна быць ізалявана ад суседніх гаспадарак, ад праезджых дарог, ад розных прадпрыемстваў па перапрацоўцы прадуктаў жывёлагадоўлі і т. д.

У камбінаваных (змешаных) жывёлагадоўчых гаспадарках асобныя секцыі (свінагадоўчая, трусагадоўчая і т. д.) павінны быць таксама ізаляваны адна ад другой.

Нельга рабіць пашавы загон побач з жывёламагільнікам або на ранейшым участку жывёльнага магільніка і т. д.

Неабходна катэгарычна забараніць праезд і праход староннніх асоб праз сядзібу жывёлагадоўчых ферм. Санітарам трэба дабівацца перад праўленнямі калгасаў (адміністрацыяй соўгасаў), каб фермы былі агароджаны агарожай, канавамі або дрэвавымі насаджэннямі.

Часова прыязджаючым у гаспадарку на конях і іншых жывёлах павінна быць адведзена спецыяльнае памяшканне для начоўкі жывёл. Ветсанітар не павінен дазваляць размяшчэнне іх у агульных памяшканнях. Для такіх жывёл павінны быць таксама выдзелены і асобныя конавязі.

Важнейшым прафілактычным мерапрыемствам унут-

ранага распарадку з'яўляецца своечасовая і правільная ўборка трупаў (як крыніца інфекцыі) у гаспадарцы. Выбар участка для жывёламагільніка робіцца спецыяльнай камісіяй у саставе старшыні сельсовета, старшыні калгаса (соўгаса) і ветурача. Жывёламагільнік (рыс. 9) можа быць агульным для некалькіх населеных пунктаў, але тады пры выбары ўчастка для яго павінна быць забяспечана, каб трупы не перавозіліся па



Рыс. 9. Жывёламагільнік.

чужой тэрыторыі, або-ж былі прадугледжаны іншыя гарантыі незаносу інфекцыі.

Жывёламагільнікі робяцца на роўным, узвышаным месцы, далёка ад пашаў, балот, рэк і прудоў, калодзежаў і іншых вадапояў. Як правіла, яны павінны быць не бліжэй 500 м ад населенага пункта, у баку ад праезджых дарог і мець зручны і свабодны да іх пад'езд. Глеба ўчастка павінна быць па магчымасці сухая, рыхлая, даваць дастаткова доступ паветра і хутка высыхаць пасля дажджу.

Жывёламагільнікі абавязкова абкапваюцца ровам у 1—1,5 м шырыні і 1 м глыбіні; апрача таго яны агараджваюцца агарожай або валам у 1 м вышыні. Для кожнага трупа выкапваецца асобная магіла (глыбінёй не менш 2 м). Пры масавых падзяжах дробных жывёл і адсутнасці ўтылізацыйных установак дапускаюцца агульныя магілы, прычым павінны быць гарантаваны немагчымасць раскрадання трупаў з магілы сабакамі і драпежнікамі і дастатковая глыбіня магілы.

Для перавозкі трупаў кожны калгас (соўгас) павінен мець асобую цялегу (сані) з кузавам, абабітым бляхай. Цялега (сані) павінна трымацца ў чыстаце і спраўнасці і не ўжывацца для іншых патрэб.

У дробных жывёлагадоўчых гаспадарках (з невялікай колькасцю жывёлы) можа быць дапушчан толькі асобны здымны кузаў, прычым павінны прымацца ў гэтым выпадку асабліва старанныя меры супроць забруджання трупнымі выдзяленнямі цялегі (саней) і старанная наступная дэзінфекцыя.

Пасля кожнай перавозкі трупаў і заражонага гною цялега (сані) павінна быць старанна ачышчана і прадэзінфіцыравана ля жывёламагільніка або гноехавальніка.

З папераджальных мерапрыемстваў унутранага распарадку важнае значэнне мае замацаванне інвентара памяшканняў для жывёл і прадметаў догляду за імі за пэўнымі кароўнікамі, свінарнікамі, брыгадамі і да т.п.

Гэтым шляхам папярэджваецца магчымасць перадачы заразных хвароб праз інвентар і прадметы догляду. Неабходна ў тых-жа мэтах замацоўваць за жывёламі пэўныя стойлы (станкі, дзённікі).

Вышэй указвалася, што чалавек у многіх выпадках можа з‘явіцца перадатчыкам заразных хвароб. Таму нельга дапускаць староннiх асоб у кароўнікі, свінарнікі і т. д. Гэтае мерапрыемства мае асабліва важнае значэнне ў гаспадарках, дзе ўжо ўспыхнула тое ці іншае заразнае захворванне.

Да спецыяльных мерапрыемстваў трэба аднесці папераджальныя прышчэпкі вакцынай або сыраваткай ці камбінаваныя прышчэпкі (адначасова вакцынай і сыраваткай), для стварэння неўспрыймальнасці жывёл да заразнай хваробы на той ці іншы тэрмін. Так, напрыклад, шырока прымяняюцца папераджальныя прышчэпкі супроць сібірскай язвы, рожы свіней і інш.

## ПРАФІЛАКТЫЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ Ў НЕБЛАГАПАЛУЧНЫХ ГАСПАДАРКАХ

Калі ў гаспадарцы паявілася заразная хвароба, праводзяцца наступныя меры:

1) тэрмінова паведамляюць ветурачу або ветфельчару; 2) да прыбыцця ветэрынарнага персанала аглядаюць стада і аддзяляюць хворых і падазроных ад здаровых; 3) убіраюць трупы; 4) праводзяць ачыстку, дэзінфекцыю і дэзінсекцыю памяшканняў для жывёл; 5) спыняюць перамяшчэнне жывёл з памяшкання ў памяшканне і выпуск іх за межы гаспадаркі.

Ветэрынарны персанал праводзіць неадкладны агляд жывёл паражонага стада і разбівае іх на здаровых, хворых і падазроных. Пасля разбіўкі стада па кожнай групе жывёл устанаўліваецца строгі ўлік на ўвесь час неблагапалучча гаспадаркі.

Своечасовае ўстанаўленне характару заразнай хваробы (дыягназ) мае надзвычай вялікае значэнне, бо дазваляе адразу правільна пабудаваць проціэпізоатычныя мерапрыемствы.

Ветсанітар павінен чотка выконваць усе ўказанні ветурача (ветфельчара), накіраваныя да хутчэйшага вызначэння характару хваробы і затым да яе ліквідацыі.

У соўгасе (калгасе) трэба мець ізалятар, куды ізалююцца (аддзяляюцца) жывёлы яўна заразныя або падазроныя ў захворванні, каб зрабіць іх безапаснымі для астатняга стада. У ізалятары забяспечваецца сістэ-

матычнае ветэрынарнае назіранне і лепшы догляд за хворымі (індывідуальнае размяшчэнне, догляд, кармленне і вадапой). У ізалятары жывёлы размяркоўваюцца такім чынам, каб хворыя адной заразнай хваробай не стаялі побач з хворымі іншай заразнай хваробай. Усе станкі ізалятара нумаруюцца. Прадметы догляду (торбы, шчоткі, вёдры і да т. п.) маюць нумарацыю станка і прымацоўваюцца да кожнай жывёлы.

Персанал, які абслугоўвае ізалятар, не можа быць скарыстан для догляду за астатняй жывёлай. У невялікай гаспадарцы пры немагчымасці мець асобны персанал, дапускаецца пад кантролем ветэрынарнага персанала сумяшчэнне абслугоўвання спачатку здаровых, потым хворых, прычым павінны прымацца меры, якія папераджаюць магчымасць заносу і разносу заразы. Ветсанітар павінен строга сачыць за тым, каб ізаляваныя жывёлы без дазволу ветурача (ветфельчара) не варочаліся ў асноўнае стада гаспадаркі.

Прадметы догляду і знараджэння перад перадачай з ізалятара ў жывёлагадоўчыя (конныя) брыгады ачышчаюцца і дэзінфіцыруюцца.

У неблагапалучных па заразных хваробах гаспадарках перыядычна праводзіцца дэзінфекцыя і дэзінсекцыя па ўказанню ветэрынарнага персанала.

## ЗАРАЗНЫЯ ХВАРОБЫ

### Сібірская язва

Сібірская язва—вострая заразная хвароба, якая паражае буйную рагатую жывёлу, авечак, коней і іншых жывёл. Хвароба выклікаецца бацыламі сібірскай язвы.

Бацылы сібірскай язвы, папаўшы ў зямлю і знаходзячыся ў спрыяльных умовах, утвараюць так называемыя „споры“, якія ахованы моцнай абалонкай. Дзякуючы гэтай абалонцы споры могуць жыць у глебе многія гады.

**Шляхі заражэння.** Назіраецца сібірская язва сярод жывёлы галоўным чынам у пашавы перыяд—вясной, летам і ў пачатку восені.

Заражэнне сібірскай язвай адбываецца праз страўнічна-кішочны тракт, а таксама праз скуру (ранкі і ўкусы насякомых). У выніку няправільнай уборкі трупаў, а часцей за ўсё проста з прычыны раскідвання трупаў дзе папала, глеба заражаецца на доўгі час; апрача таго насякомыя іншы раз пераносяць заразу ад хворых і паўшых жывёл на здаровых.

**Прызнакі хваробы.** Падзёж жывёлы ў гаспадарцы без усякай відзімай прычыны, паяўленне на целе хутка павялічваючыхся гарачых пухлін, бурныя колікі і крывяністыя выпаражненні пры высокай тэмпературы прымушаюць меркаваць аб наяўнасці сібірскай язвы. Трупы хутка ўздуваюцца, з насавой поласці, рота, задняга прахода і палавых шляхоў назіраецца крывяністае выцячэнне.

**Меры барацьбы.** Пры выяўленні ў гаспадарцы захворванняў жывёл, падазроных на сібірскую язву, ветсанітар выконвае наступныя мерапрыемствы:

1) неадкладна выклікаецца ветурач (ветфельчар);

2) здаровая жывёла выводзіцца з памяшкання, дзе пала жывёла;

3) калі падзёж адбыўся на пашы, стада, у якім паявіўся падзёж, пераганяецца на другую пашу і разбіваецца на дробныя групы з асобнымі пастухамі. Трэба таксама пераменіць вадапой;

4) трупы паўшых жывёл пад назіраннем ветсанітара павінны быць перавезены на цялезе (спецыяльна прызначанай для трупаў) на жывёльны магільнік. Крывяністыя выдзяленні з носа, рота і задняга прахода зграбаюцца з зямлёй таксама на цялегу. Каб не рассейваць сібірскую язву, трэба заткнуць саломай або трапкай рот, нос і задні праход трупа. Калі жывёла пала на пашы, то неабходна гэтае месца абкласці саломай і запаліць.

Труп, дастаўлены на жывёламагільнік, не закапваецца да прыбыцця ветурача (ветфельчара) і па ўказанню яго закапваецца разам са скурай на глыбіню 2 м.

Калі жывёла загінула ад сібірскай язвы, у памяшканнях (неадкладна пасля ўдалення здаровай жывёлы і ізаляцыі хворых) ветсанітар праводзіць па указанню ветурача ачыстку, старраннае абеззаражванне падлогі, сцен, кармушак, збруі і т. д.

Памяшканні, у якіх знаходзіліся хворыя жывёлы, а таксама месца ізаляцыі або месца падзяжу на пашы павінны быць агароджаны для папярэджання пападання ў іх здаровай жывёлы. Толькі пасля стараннай ачысткі і дэзінфекцыі вышэйуказаных месц здаровыя жывёлы могуць быць вернуты назад.

Для папярэджання распаўсюджання сібірскай язвы і хутчэйшай яе ліквідацыі праводзяцца супроць сібір'язвенныя прышчэпкі. Яны праводзяцца ветурачом у гаспадарках, дзе хвароба ўжо паявілася, і ў такім выпадку лічацца вымушанымі. Папераджальныя прышчэпкі праводзяцца таксама ў гаспадарках, дзе штогод назіраецца сібірская язва.

Карантын з неблагапалучнага пункта можа быць зняты толькі ветурачом. Перад зняццем карантына праводзіцца старанная заключная механічная ачыстка і дэзінфекцыя заражонага памяшкання.

## Шумячы (эмфізематозны) карбункул

Шумячы або эмфізематозны карбункул—вострая інфекцыйная хвароба рагатай жывёлы ва ўзросце большай часткай ад $^1/_2$ года да 4 год, выклікаемая бацылай эмфізематознага карбункула.

**Шляхі заражэння.** Заражэнне жывёлы адбываецца часцей за ўсё ад корму або вады, забруджаных узбуджальнікам шумячага карбункула. Уваходнымі варотамі

інфекцыі з'яўляюцца пашкоджаная скура і слізістыя абалонкі.

Неахайная ўборка трупаў вядзе да заражэння пашавых участкаў і распаўсюджання заразы. Споры захоўваюцца ў верхніх слаях глебы ад аднаго года да другога і ствараюць небяспеку заражэння пры скарыстанні гэтых участкаў. Інкубацыйны перыяд гэтай хваробы звычайна прадаўжаецца 1—3 дні.

**Прызнакі хваробы.** Захворванне шумячым карбункулам выражаецца ў паяўленні на розных месцах цела (пераважна на бядры, крупе, у вобласці паясніцы, крастца, на плячы, на грудзях і на шыі) разлітых або рэзка адмежаваных пухлін. Спачатку яны гарачыя і хваравітыя; затым пухліны робяцца ў сярэдзіне халоднымі і неадчувальнымі. Пры націсканні пухліны адчуваецца трэск. Тэмпература цела жывёлы павышаецца да 41—42°. Апетыт і жвачка спыняюцца. На пашах некаторыя з захварэўшых жывёл пачынаюць кульгаць. Пры эмфізематозным карбункуле смяротнасць дасягае 90—100 проц. Хвароба часцей за ўсё назіраецца ў летнія і асеннія месяцы.

**Меры барацьбы.** Прафілактычныя мерапрыемствы супроць шумячага карбункула аднолькавы з мерапрыемствамі, праводзячыміся супроць сібірскай язвы. Асаблівая ўвага павінна быць звернута на арганізацыю правільнай уборкі трупаў і на санітарны стан пашаў.

У гаспадарках, дзе шумячы карбункул назіраецца штогодна, праводзяцца спецыяльныя прышчэпкі (вакцынай „Эмкар").

Пры занясенні шумячага карбункула ў благапалучную гаспадарку аб'яўляецца карантын, і праводзяцца вымушаныя, ізложаныя ў раздзеле „Сібірская язва" мерапрыемствы. Ветсанітар пры падазрэнні на шумячы карбункул да прыбыцця ветурача абавязан: 1) ізаляваць захварэўшых жывёл; 2) старанна ачысціць і абясшкодзіць месца, дзе знаходзілася хворая жывёла, 3) перамяніць пашу і вадапой.

## Рожа свіней

Рожа свіней—заразная хвароба, выклікаемая бацылай рожы. Мікробы знаходзяцца ў крыві, у мачы, у змесціве кішочніка хворых і паўшых ад рожы свіней.

**Шляхі заражэння.** Рожа перадаецца непасрэдна ад хворай свінні да здаровай. Свінні заражаюцца галоўным чынам пры паяданні корму або карыстанні вадой, забруджаных выдзяленнямі хворых рожай (кал, мача); заражэнне адбываецца таксама, калі свінні паядаюць кроў і трупы паўшых ад рожы або п'юць ваду, якой прамывалі мяса рожыстай свінні.

Хвароба можа паяўляцца ў памяшканні (свінарніку) і на пашы, заражоных нават у мінулым годзе. Вялікую небяспеку прадстаўляюць неўбраныя трупы. Іншы раз рожа заносіцца ў калгасны двор праганяемай міма яго партыяй свіней. Нярэдка рожа заносіцца на свінаферму новакупленымі свіннямі, па выгляду зусім здаровымі, але з'яўляючыміся скрытымі носьбітамі хваробы.

**Прызнакі хваробы.** Захварэўшая жывёла ляжыць нерухома, зарываецца ў падсцілку, апетыт змяншаецца, і нарэшце прыём корму зусім спыняецца. Тэмпература ў хворых значна павышана. Спачатку ў іх назіраецца запор, які па меры развіцця хваробы змяняецца паносам. Характэрным прызнакам рожы з'яўляецца плямістае пачырваненне скуры на вушах, на губах, на падгрудку, бруху і ўнутранай паверхні бёдраў. Плямістасць бязбольная; пры націсканні пальцамі плямы знікаюць, але як толькі пальцы ўдаляюць, плямы зноў паяўляюцца. Па меры ўсілення хваробы плямы захватваюць большую паверхню скуры (рыс. 10).

Пры цяжкім стане жывёла можа загінуць праз 3—4 дні пасля выяўлення першых прызнакаў хваробы. У лёгкіх выпадках з 2—3-га дня пачынаецца палепшанне агульнага стану: паступова ўсе прызнакі хваробы знікаюць і наступае выздараўленне.

Іншы раз хвароба зацягваецца. Тады ў хворых свіней на вушах, спіне або хвасце скура апухае, робіцца сухой і цвёрдай, як падашва. Амярцвеўшая скура адпадае вялікімі кавалкамі, пакідаючы язвы. Часцей пры зацяжной форме рожы назіраецца захворванне або ўспаленне суставаў і сухажылляў канцавін. Звычайна такія свінні сільна знясілены, маюць адышку, і ў некаторых бывае параліч зада.



Рыс. 10. Рожа свіней.

Успрыймальны галоўным чынам свінні старэй 3 месяцаў і да 1 года. Інкубацыйны перыяд звычайна 3—5 дзён, іншы раз адны суткі.

**Меры барацьбы.** Да прыбыцця ветурача ветсанітар павінен перавесці хворых свіней у ізалятар, правёўшы адначасова старанную ачыстку і дэзінфекцыю заражонага свінарніка. Калі захворванне або падзёж пачаліся на пашы, трэба адразу-ж перамяніць участак.

Ветурач пасля прыбыцця на ферму вызначае характар захворвання і пры ўстанаўленні рожы робіць прышчэпкі.

За прышчэпленым стадам устанаўляецца старанна ветэрынарнае назіранне. Сістэматычна праводзіцца дэзінфекцыя, а стаду забяспечваюцца добрыя ўмовы ўтрымання і кармлення.

У тых гаспадарках, дзе рожа свіней назіраецца штогод, неабходна перад выганам на выпас правесці папераджальную вакцынацыю (прышчэпкі) двухразова рожыстай вакцынай з перапынкам на 10—14 дзён.

## Чума свіней

Чума свіней—вастразаразная хвароба, якая наносіць вялікія ўбыткі свінагадоўчым гаспадаркам. Хвароба выклікаецца фільтруючымся вірусам, які змяшчаецца ў крыві і ўсіх амываемых ёю органах, а таксама ў жоўці, змесціве кішочніка і ў мачы. Узбуджальнік чумы свіней вельмі стойкі.

**Шляхі заражэння.** Свінні заражаюцца чумой галоўным чынам праз страваваальны тракт дзякуючы паяданню корму або пры скарыстанні вады забруджаных узбуджальнікамі гэтай хваробы. Не выключана магчымасць заражэння праз дыхальныя шляхі, пашкоджаную скуру і праз слізістую абалонку вока. У благапалучныя фермы чума часта заносіцца новапрыбываючымі свіннямі. Занесці хваробу ў гаспадарку могуць сабакі і свінні пасля паядання заразных трупаў, пакінутых незакапанымі на магільніку або кінутых дзенебудзь на дварах. Перавозка свіней у неабеззаражаных вагонах можа з'яўляцца прычынай іх захворвання.

Пераносіць заразу можа таксама чалавек пры адначасовым доглядзе за здаровымі і хворымі.

Хварэюць свінні чумой незалежна ад пароды, полу і ўзросту. Аднак часцей хварэюць маладыя і пародныя.

Успрымальнасць да чумы асабліва высокая ў парасят. Спрыяючымі ўмовамі з'яўляюцца дрэнныя ўмовы ўтрымання (сырасць свінарнікаў, дрэннае кармленне, скразнякі) і няўмелае выхаванне маладняка.

**Інкубацыйны перыяд** прадаўжаецца 4—8 сутак; іншы раз пасля заражэння свінні захворваюць на 21-ы дзень.

**Прызнакі хваробы.** У хворых свіней звычайна гнояцца вочы, а павекі прыпухаюць і зліпаюцца. Свінні робяцца вялымі, ядуць мала і выгінаюць спіну. Хада ў хворых свіней хісткая, бакі ўцягнуты, а выгляд



Рыс. 11. Чума свіней. Парасё, якое хварэе на працягу двух тыдняў.

слабы. На вушах, жываце, унутранай паверхні бёдраў назіраюцца дробныя чырвоныя плямы, якія не знікаюць пры націсканні (рыс. 11).

Паяўляюцца ускладненні з боку страўніка і кішочніка, а таксама дыхальных органаў (рвота слізістымі жоўтымі масамі, неспыняючыйся панос, налёты на слізістай абалонцы поласці рота, затрудненае дыханне).

На скуры бывае воспападобная сып, а іншы раз асобныя ўчасткі скуры (часцей на вушах і хвасце) амерцвеваюць. Аслабеўшыя свінні больш ляжаць; знясіленне ўсё павялічваецца, і праз 2—3 тыдні яны гінуць. Бываюць выпадкі палепшання і выздараўлення.

**Меры барацьбы.** Мерапрыемствы супроць чумы свіней бываюць папераджальныя і вымушаныя. Папераджальныя мерапрыемствы павінны праводзіцца на свінафермах штодзённа і заключаюцца ў выкананні патрабаванняў ветэрынарнага мінімума для жывёлагадоўчых гаспадарак. Папаўненне стада свінаферм са зне можа ісці толькі за кошт набыцця свіней у благапалучных па чуме гаспадарках. Свінні, новапрыбываючыя ў гаспадарку, карантынуюцца. Калі ў часе карантына ў партыі свіней не было выяўлена заразных хвароб, дазваляецца перавесці іх у агульныя свінарнікі. Староннія асобы на тэрыторыю свінафермы, а тым больш у свінарнікі, не дапускаюцца.

Вагоны і трумы параходаў, прызначаныя для перавозкі свіней, павінны ачышчацца і абеззаражвацца.

Пры паяўленні чумы свіней гаспадарка лічыцца неблагапалучнай па гэтай хваробе. Ветурач, які абслугоўвае неблагапалучную ферму, карантынуе ўстаноўленым парадкам неблагапалучную гаспадарку. Ветсанітар неблагапалучнай свінафермы ў часе карантына строга сочыць за тым, каб выключыць усякую магчымасць разносу інфекцыі іываду свіней за межы карантынуемага пункта. Адначасова ветсанітар па ўказанню ветурача і пад яго наглядам праводзіць сістэматычную старанную ачыстку і дэзінфекцыю памяшканняў, а таксама абеззаражванне гною. У неблагапалучных па чуме свінагадоўчых гаспадарках згодна інструкцыі Наркамзема СССР ветурачамі праводзяцца камбінацыйныя або пасіўныя прышчэпкі. У фермах з прышчэпленым стадам узмацняюцца ветэрынарна-санітарныя меры.

Прышчапляемае стада павінна быць забяспечана

добраякаснымі кармамі, правільным кармленнем, дастатковай колькасцю падсцілкі і добрай вадой.

Свінафермы, неблагапалучныя па чуме свіней, у якіх праведзены камбінацыйныя або пасіўныя прышчэпкі, карантынуюцца на тэрмін не менш трох месяцаў з моманту апошняга выпадку падзяжу, прырэзкі або выздараўлення чумой свінні. У часе карантына ветсанітар праводзіць ветэрынарныя мерапрыемствы строга па ўказанню ветперсанала.

Перад зняццем карантына ветсанітар па ўказанню ветурача робіць стараннную заключную дэзінфекцыю.

## ВАЖНЕЙШЫЯ ЗАРАЗНЫЯ ХВАРОБЫ МАЛАДНЯКА

Барацьба з хваробамі маладняка с.-г. жывёл будуецца галоўным чынам на выкананні патрабаванняў ветэрынарна-санітарнай прафілактыкі і зоагігіены. Неабходна звярнуць асобую ўвагу на наступныя хваробы: белы панос новнароджаных, суставалом маладняка і паратыф.

### Белы панос новнароджаных

Белы панос новнароджаных—заразная хвароба і часта сустракаецца ў гаспадарках.

Выклікаецца ён асобымі хваробатворнымі мікробамі і характарызуецца паяўленнем у заразіўшагася маладняка паносу са светлым калам (у адрозненне ад чырвонага крывянога паносу).

Заражэнне адбываецца пры брудным утрыманні сасуноў, ад заражонай падлогі, падсцілкі, аблізвання забруджаных выпаражненнямі хворых сасуноў і прадметаў, пры антысанітарным выпайванні цялят і няправільным кармленні.

Першыя прызнакі паносу цялят паяўляюцца на 1—3-ці дзень жыцця, іншы раз праз некалькі гадзін пасля нараджэння і рэдка на 4—8-мы дзень жыцця.

Цяляты мала цягнуцца да маткі, слаба сасуць або зусім перастаюць сасаць. Яны робяцца непакойнымі, мычаць; паяўляецца панос, які ўсё ўзмацняецца і пераходзіць у неадвольнае выдзяленне калу з адкрытага задняга прахода. Жывот у цялят бывае або падцягнутым, або, наадварот, уздутым. Цяляты не падымаюцца і гінуць праз 3 дні пры поўнай страце прытомнасці.

У жарабят і ягнят пры захворванні белым паносам назіраецца такая-ж карціна, як і ў цялят. Працягласць хваробы—1--2 дні.

**Меры барацьбы**. Пры паяўленні белага паносу ў цялят ветсанітар неадкладна пераводзіць іх у ізаляванае памяшканне (асобна ад здаровых цялят). Калі-ж на ферме назіраецца масавае паражэнне цялят гэтай хваробай, хворыя астаюцца на месцы ў заражоным памяшканні. У апошнім выпадку ветсанітар не дапускае ў гэты цялятнік іншых нованароджаных цялят, для якіх адводзіцца спецыяльнае памяшканне, ізаляванае ад заражонага. У цялятніку захоўваюцца правільныя ўмовы утрымання. Штодзённа вывозіцца гной і мяняецца падсцілка.

Кармленне і лячэнне цялят праводзяцца па ўказаннях ветурача.

На ўсіх фермах, неблагапалучных па беламу паносу нованароджаных, праводзяцца старанная ачыстка і сістэматычная дэзінфекцыя.

## Суставалом маладняка

Заразная хвароба, якая выражаецца гнойным успаленнем суставаў (рыс. 12). Хвароба паяўляецца ў першыя дні жыцця жывёлы або пазней—на працягу першых чатырох тыдняў. Вельмі часта суставалом назіраецца ў гаспадарках, дзе ёсць успышка заразнага выкідыша. Суставалом або піёсептыцэмія маладняка паяўляецца галоўным чынам як вынік забруджання пупка хваробатворнымі мікробамі (брудная

падсцілка, брудная падлога, нячыстыя рукі даглядаючых або аказваючых дапамогу пры родах).

Прафілактыка захворвання патрабуе стараннага догляду за пупавінай у першыя дні жыцця сасуноў.




Рыс. 12. Апуханне суставаў пры суставаломе.]

Пры першых-жа прызнаках успалення пупка трэба абавязкова абмыць яго абеззаражваючай вадкасцю і прыпаліць ляпісам або змазаць дзёгцем, іёдам і да т. п. Захварэўшыя сысуны ізалююцца ў асобнае памяшканне і лечацца па ўказанню ветурача.

## Паратыф цялят і парасят

Паратыф—заразная хвароба маладых цялят і парасят, выклікаемая асобай бацылай, стойкай супроць натуральных знешніх уплываў. Хвароба паражае пера-

важна жывёл, аслабленых няправільнымі ўмовамі ўтрымання і кармлення. У захварэўшага маладняка назіраецца слабы апетыт, панос, прыгнечаны стан, дрэнны рост і дрэнная ўкормленасць (рыс. 13). У цялят, паўшых ад паратыфа пры ўскрыцці трупаў выяўляюцца ўспаленне сычуга, тонкіх кішок, мачавога пузыра і рэзка выражанае апуханне селязёнкі.



Рыс. 13. Паратыф у цяляці з апуханнем запясцевага і скакальнага суставаў.

Калі ветурач устанавіў у гаспадарцы захворванне паратыфам маладняка, ветсанітар штодзённа пагалоўна аглядае ўвесь маладняк і выдзяляе яўна хворых і падазроных у захворванні. У выпадку масавага захворвання ў цялятніку або свінарніку ўвесь захварэўшы маладняк астаецца на месцы, і выдзяляюцца толькі здаровыя. Цялятнікі (свінарнікі) абʼяўляюцца неблагапалучнымі па паратыфу.

У неблагапалучных фермах па паратыфу маладняка нельга перакідваць кармы, інвентар і да т. п. з неблагапалучных памяшканняў у благапалучныя, нельга таксама перадаваць маладняк у іншыя гаспадаркі.

Неблагапалучная ферма знаходзіцца пад сістэматычным ветэрынарным назіраннем, прычым ветсанітар дапамагае ветурачу пры лячэнні і прышчэпках (калі апошнія робяцца). Ва ўсіх неблагапалучных памяшканнях ветсанітарам праводзіцца старанная ачыстка і дэзінфекцыя.

## Воспа авечак

Воспа авечак—заразная хвароба; у рэдкіх выпадках ёю паражаюцца козы.

**Шляхі заражэння.** Узбуджальнік воспы авечак вельмі стойкі і знаходзіцца ў змесціве пузыркоў, вузялкоў, аспінах і ў струп'ях скуры. У аўчарнях узбуджальнік можа аставацца жыццездольным да поўгода, а на пашах —да 2 месяцаў.

Найбольш адчувальны да воспы мерыносавыя авечкі. Скрыты перыяд захворвання—6—8 дзён.

Заразны пачатак пападае ў арганізм авечкі праз лёгкія, а адтуль токам крыві заносіцца ў скуру і слізістыя абалонкі.

**Прызнакі хваробы.** У захварэўшай авечкі паяўляюцца на скуры спачатку чырвоныя, круглыя плямы, якія затым ператвараюцца ў шчыльныя вузялкі велічынёй ад сачавічнага зерня да гарошыны (рыс. 14). У далейшым гэтыя вузялкі ператвараюцца ў засохшыя коркі і паступова адпадаюць. Пры звычайным цячэнні хваробы працягласць яе вызначаецца ў 3—4 тыдні. Летам воспа працякае хутчэй, а зімой зацягваецца. Смяротнасць у заражоных атарах павялічваецца ў перыяд вельмі халоднага або гарачага надвор'я. Старыя авечкі і ягняты ў большасці выпадкаў труднней пераносяць гэтую хваробу.

У паражоных воспай атарах нярэдка паяўляюцца ускладненні хваробы, якія выражаюцца ў захворванні страўнічна-кішочнага тракта (знесіляючы панос), лёгкіх або вачэй (памутненне рагавіцы). Часта бываюць таксама выкідышы. Авечкі, перахварэўшыя воспай, набываюць неўспрыймальнасць да яе на ўсё жыццё.

**Меры барацьбы.** Для папярэджання заносу воспы ў гаспадарку ўсе нова-прыбываючыя на ўкамплектаванне авечкі павінны вытрымлівацца ў карантыне два тыдні.



Рыс. 14. Воспа на ўнутраным баку нагі авечкі.

Пры паяўленні воспы ветсанітар абавязан неадкладна паведаміць аб гэтым ветурачу. Адначасова ён прымае меры да із'яцця з атар авечак, хворых воспай, і ізаляцыі іх у асобнае памяшканне.

Усёй паражонай атары прадастаўляецца добры корм, а зімой апрача таго цёплы вадапой.

Хворыя або падазроныя па захворванню воспай, а таксама ўся паражоная воспай атара абслугоўваецца спецыяльна прымацаваным персаналам, які не павінен мець судакранання са здаровымі атарамі. Допуск да заражоных атар авечак з благапалучных стад не дазваляецца. Корм (сена, салома) з заражонай кашары нельга вывозіць; неабходна яго скарыстаць на месцы. Памяшканні, загоны і інвентар, скарыстаныя хворымі або падазронымі, павінны быць старанна ачышчаны і абеззаражаны. Гной, вывазімы з заражонай аўчарні, павінен быць папярэдне заліт густым растворам вапны і пасля гэтага зарыт.

Атара (або гаспадарка), дзе была выяўлена воспа, аб'яўляецца ветурачом неблагапалучнай па гэтай хваробе. На дарогах, вядучых у неблагапалучную гаспадарку, сельсоветам або адміністрацыяй соўгаса (калгаса) устанаўляюцца асобыя дошкі—надпісы з указаннем хваробы і абмежавальных умоў карантына. Паражоныя авечкі змяшчаюцца ў карантыне ў кашарах або на выпасах. Пры пашавым утрыманні неабходна ўстанавіць дакладныя граніцы пашаў для паражоных атар і намеціць асобыя месцы для іх вадапою. Паражоныя авечкі не павінны праганяцца па дарогах, якія служаць шляхамі перагону здаровай жывёлы.

Для ліквідацыі воспы ветурач (ветфельчар) праводзіць прышчэпкі так называемай „авіны" ўсім здаровым авечкам заражонай атары апрача цяжарных за 1—$1^1/_2$ месяцы да акоту і ягнят ва ўзросце да аднаго месяца. Прышчэпленыя авечкі лічацца хворымі, карантынуюцца, і ім прадастаўляюць добры догляд і ўтрыманне. Ветсанітар назірае, каб авечкі прышчэпленых атар не змешваліся з авечкамі непрышчэпленых атар.

## Яшчур

Яшчур—заразная хвароба, якая паражае галоўным чынам буйную рагатую жывёлу, затым авечак, коз і свіней. Чалавек часам можа заразіцца яшчурам.

**Шляхі заражэння.** Заражэнне жывёлы адбываецца або шляхам непасрэдных зносін здаровых з хворымі або праз людзей, гной, корм, сырыя скуры, шэрсць і малако.

Часцей за ўсё хворая яшчурам жывёла заражае здаровую жывёлу на пашах, скотных дварах, жывёлапрагонных трактах і т. д. Цяляты і свінні захворваюць яшчурам пры кармленні іх малаком хворай жывёлы.

**Прызнакі хваробы.** Захварэўшую жывёлу пачынае ліхарадзіць, паступова яна перастае прымаць корм

і стаіць нерухома, апусціўшы галаву; з рота ў яе доўгімі ніцямі цягнецца пеністая сліна. Праз адзін-два дні паяўляюцца на ўнутранай паверхні губ і шчок, бяззубым краі верхняй чэлюсці, паднябенні і языку пузыркі з празрыста-жаўтаватай вадкасцю. Пузыркі



**Рыс. 15. Яшчур. Пузыры і язвы на дзяснах, а таксама на крылах носа.**

гэтыя лопаюцца і ўтвараюць паверхневыя язвачкі, якія потым зажываюць (рыс. 15).

Побач з захворваннем рота часта паяўляюцца яшчурныя пузыркі ў міжкапытнай шчыліне, на вымені,

а часам і на насавым люстэрку. У міжкапытнай шчыліне пузыркі лопаюцца і ў выніку забруджання ўтвараюцца гнойныя язвачкі. У рагатай жывёлы часта паяўляецца кульгавасць то пярэдніх то задніх ног, а іншы раз і ўсіх, і жывёла тады больш ляжыць. Пры паражэнні яшчурам часта апухае вымя, і даенне робіцца затрудняльным.

**Меры барацьбы.** Ветсанітар, даведаўшыся аб паяўленні яшчура або выдзеліўшы падазроную па яшчуру жывёлу, павінен неадкладна давесці да ведама ветурача або ветфельчара.

Да іх прыбыцця не трэба выпускаць рагатую жывёлу і свіней са скотнага двара заражонай гаспадаркі, а таксама нельга ўжываць у страву людзям і ў корм жывёлам сырое малако.

Пры паяўленні масавых захворванняў сярод жывёлы сяленне (калгас, соўгас) лічыцца неблагапалучным па яшчуру і ўся жывёла карантынуецца.

Ветсанітары выконваюць дакладна ўсе ўказанні ветурача (ветфельчара) па дэзінфекцыі гаспадарак. Асобы, якія маюць дачыненне да хворых яшчурам жывёл, або прымаюць удзел у іх убоі, апрацоўцы туш і т. д., а таксама ўбіраюць заражоныя двары, вывозяць у поле гной, пакідаючы двары і памяшканні, павінны дэзінфіцыраваць абутак, вопратку і таксама мыць мылам і дэзінфіцыраваць рукі і іншыя забруджаныя часткі цела.

У часе эпізоатыі яшчура на тэрыторыі карантынуемага заражонага сялення (калгаса, фермы і т. д.), а таксама ў межах пагражаемага ўчастка згодна патрабаванням ветэрынарнага закона праводзяцца наступныя мерапрыемствы:

1. Закрываюцца жывёльныя базары і кірмашы і забараняецца ўсякая загатоўка жывёлы ў заражоных гаспадарках.

2. Прывод і прывоз рагатай жывёлы для с-г. патрэбнасцей у заражоную яшчурам гаспадарку забараняецца.

3. Усе віды фуража без дазволу ветурача з заражонай яшчурам гаспадаркі (фермы, участка соўгаса) вывозіцца не могуць.

4. Жывёлапрагонныя тракты на тэрыторыі заражоных сельсоветаў і пагражаемай зоны на час карантына павінны быць закрыты; для прагону гуртоў на гэты час намячаюцца часовыя аб'ездныя тракты, благапалучныя ў адносінах яшчура.

5. Забараняюцца таксама продаж і вываз сырога малака і малочных прадуктаў з заражоных яшчурам гаспадарак. Гэтыя прадукты дапускаюцца да ўжывання пасля абеззаражвання (кіпячэннем) толькі ў самой заражонай гаспадарцы.



Рыс. 16. Яшчур (зажываючыя язвы на языку).

Самае важнае—гэта прадаставіць хворым жывёлам светлае, сухое, прасторнае і добра праветрываемае памяшканне; падсцілка ў стойлах павінна закладвацца ўволю, прычым яна павінна быць мяккай і сухой. Летам жывёла пакідаецца на адкрытым паветры, але нікуды не пераганяецца. Корм даюць мяккі і сакавіты (зялёны корм, баўтушка з вотрубяў або мукі); у піццё даецца чыстая свежая вада.

Рот хворай жывёлы павінен трымацца ў чыстаце. Магчыма часцей (2 разы ў дзень) прапалясквають цёплай кіпячонай вадой з дабаўленнем марганцавакіслага калія (1 г на 1000 г вады), квасцоў (2—3 г на 100 г вады) або 2-працантнага раствору крэаліна (рыс. 16).

Пры захворванні капыт неабходна прамыць іх 3-працантным растворам крэаліна або лізола; затым накладваецца чыстая павязка. Пры паражэнні вымені прымяняюцца лякарствы па спецыяльнаму ўказанню ветурача або ветфельчара.

У выпадку патрэбы ветурач робіць прышчэпкі згодна асоба існуючых указанняў.

## Мыт

Мыт—заразная хвароба коней і іншых аднакапытных (асла, мула); жарабяты могуць захварэць у першы год жыцця. Хвароба выклікаецца мікробам, называемым „мытным стрэптакокам“.

**Шляхі заражэння.** Перанос заразы адбываецца самымі рознастайнымі шляхамі. Забруджаныя гноем і насавымі выцячэннямі корм, падсцілка, вёдры, карыты і вупраж з'яўляюцца крыніцамі заразы.

Конюхі, якія даглядаюць адначасова здаровых і хворых мытам коней, таксама могуць з'яўляцца пераносчыкамі заразы, калі не захоўваюць мер ветэрынарнай прафілактыкі. Спрыяючымі фактарамі з'яўляюцца: неспрыяльнае (халоднае, сырое) надвор'е, яго рэзкія змяненні, звычайныя вясной і восенню, хібы ў доглядзе і ўтрыманні, доўгае прабыванне ў халодных, сырых і цёмных канюшнях, скразнякі ў памяшканнях, прастуда і празмернае стамленне маладых коней, перавозкі на далёкія адлегласці і т. д.

**Прызнакі хваробы**. Адрозніваюць добраякасную і злаякасную формы мыта. Добраякасная форма мыта працякае лёгка і заканчваецца звычайна выздараўленнем. Злаякасная форма дае ускладненні, прычым успаленне распаўсюджваецца на глотку, лёгкія, кішочнік, розныя лімфатычныя залозы і т. д. У хворага каня заўважаецца жар, прыгнечаны стан і змяншэнне апетыту.

З абодвух ноздраў паяўляецца выцячэнне спачатку

празрыстае, потым больш мутнае і нарэшце гнойнае. Звычайна адначасова сільна апухаюць падчэлюсныя залозы і нібы запаўняюць падчэлюсную прастору (рыс. 17); пухліна пругка-ацёчная, гарачая і балючая (адрозненне ад сапа). У далейшым у цэнтры пухліны выяўляецца зыбленне, і нарэшце пухліна прарываецца, і з адтуліны выцякае густы белы смятанападобны гной. Пасля гэтага тэмпература падае, і праз некалькі дзён наступае выздараўленне.



Рыс. 17. Жарабё, хворае мытам.

Пры ускладненні хваробы стан жывёлы пагаршаецца: галава выцягваецца, праглынанне корму робіцца балючым, з рота выцякае вонкі сліна, камкі корму праходзяць праз глотку толькі пасля ўсілляў (мытная ангіна).

У гэтых выпадках назіраецца ўспаленне слізістай абалонкі зёва, гартані, апуханне і нагнаенне заглотачных, верхніх шыйных і калявушных залоз. Гэта—цяжкія выпадкі, якія нярэдка аканчваюцца смерцю ў выніку задушэння або гангрэны лёгкіх, калі гной пападае ў лёгкія. Вынікам такой формы мыта можа быць „свісцячае ўдушша".

Іншы раз мыт набывае генералізаваную (рассеяную па арганізму) форму, так называемы „брадзячы мыт“, пры якім паяўляецца разлітае гнойнае ўспаленне лімфатычных залоз апрача ўказаных вышэй (зобных, плечавых, каленных, скурных, унутраных), а таксама розных унутраных і знадворных органаў (лёгкія, почкі, селязёнка, печань, галаўны мозг, вымя, суставы і т. д.).

**Меры барацьбы.** Новапаступіўшыя коні вытрымліваюцца асобна не менш двух тыдняў. Калі ў калгасе або соўгасе паявіўся мыт, увесь здаровы маладняк трымаецца ў асобных незаражоных памяшканнях і пераводзіцца на іншыя пашы. У канюшні не дапускаюцца асобы, якія маюць дачыненне да хворых і падазроных жывёл. Коней не выпускаюць на пашу, сумежную з неблагапалучным участкам. З сядзібы гаспадаркі, дзе ёсць коні, хворыя мытам, нельга вывозіць сена, салому і т. д. да аб'яўлення гаспадаркі неблагапалучнай. Хворыя абавязкова ізалююцца.

Спосабы лячэння ўказваюцца ветурачом у залежнасці ад цячэння хваробы і стану жывёл.

Хворыя коні памяшчаюцца ў добра вентылюемае памяшканне; пры холадзе ўкрываюцца пакрывалам (папонай) і пакідаюцца ў абсалютным спакоі. Праводка дапускаецца толькі ў перыяд выздараўлення ў цёплае надвор'е і ў сярэдзіне дня. Жывёле даюць цёплае піццё, дробную сечку ў сумесі з вотрубямі. Калі захворванне цяжкое і ў каня затрудненае глытанне, тэ рэкамендуецца зялёны корм: морква і баўтушка. Зерневы фураж пры высокай тэмпературы адмяняецца. У выпадках захворвання глоткі зерне павінна быць параным або драбленым.

## Павальнае ўспаленне лёгкіх буйнай рагатай жывёлы

Узбуджальнік хваробы невядомы. Да павальнага ўспалення лёгкіх успрыймальна буйная рагатая жывёла (буйвалы, вярблюды). Людзі не заражаюцца гэтай хваробай.

**Шляхі заражэння.** У натуральных умовах жывёла заражаецца адна ад другой пры сумесным утрыманні хворых і здаровых. Заразны пачатак змяшчаецца ў выдзяленнях бронхаў, насавым выцячэнні і мачы; устаноўлена магчымасць заражэння праз удыхаемае паветра.

Небяспечны як крыніцы інфекцыі кароўнікі, пасталыя двары, загоны і іншыя месцы размяшчэння павалачна-хворых жывёл. Бывае, што перадатчыкамі хваробы могуць з'явіцца людзі, скура або астаткі корму з заражонай гаспадаркі. Калі не прымаць мер да ліквідацыі захворвання, яно можа зацягнуцца на вельмі доўгі час.

**Прызнакі хваробы.** Пасля заражэння жывёла доўга здаецца здаровай, але потым праз некаторы час захворвае. Карова, хворая вострай формай павалкі, робіцца вялай, адстае ад стада і траціць апетыт; паяўляецца рэдкі, сухі, балючы кашаль, асабліва раніцой пры ўставанні.

Удой малака нязначна зніжаецца, шэрсць траціць блеск і робіцца ўстапыранай. Хвароба, паступова ўзмацняючыся, прыводзіць да таго, што жывёла сільна худзее, больш стаіць з расстаўленымі нагамі. Тэмпература падымаецца да 40—42°. Калі націснуць на рэберныя прамежкі, то жывёла адчувае боль і непакойна азіраецца. Вострая форма хваробы вядзе да таго, што жывёла ў большасці выпадкаў гіне. Ва многіх выпадках вострая форма хваробы пераходзіць у зацяжную (хранічную) форму. У такіх жывёл тэмпература часта не павышана, назіраецца пахуданне, кашаль узмацняецца, працаздольнасць паніжана, дыханне нярoўнамернае, дача малака паменшана. Вызначэнне гэтай формы хваробы вельмі труднае і даступна толькі ветурачу і ветфельчару.

Сутнасць хваробы заключаецца галоўным чынам у паражэнні лёгкіх. Калі параўнаць пры ўбоі або ўскрыцці здаровыя лёгкія рагатай жывёлы з лёгкімі павалачна-

хворых жывёл, то розніцу можна вызначыць адразу: кавалак здаровых лёгкіх, кінуты ў пасуду з вадой будзе плаваць, а кавалак паражонага лёгкага павалачнай жывёлы тоне. Лёгкія хворых жывёл маюць нібы мрамарны выгляд; яны пранізаны шэра-жоўтымі цяжамі, акружаючымі долькі лёгкіх. Разрэзаўшы лёгкае, можна іншы раз убачыць у ім паражоныя амярцвеўшыя ўчасткі, заключаныя ў капсулы.

**Меры барацьбы.** Важнейшым мерапрыемствам з'яўляецца непрывод у гаспадарку (калгас, соўгас і да т. п.) новых жывёл з неблагапалучных па павалцы раёнаў (гаспадарак). У раёнах, дзе павалка пастаянна назіраецца, ветсанітары благапалучных ферм павінны ў пашавы перыяд сачыць за тым, каб жывёла была ізалявана ў месцах пасвіння і вадапою; для гэтага выбіраюцца зусім асобныя ўчасткі, нескарыстоўваемыя гаспадаркамі, у якіх ёсць хворая ўспаленнем лёгкіх жывёла.

Пры паяўленні захворванняў, падазроных на ўспаленне лёгкіх, ветсанітар абавязан выклікаць ветурача, які арганізуе на месцы ўсе неабходныя мерапрыемствы. Ветурач з дапамогай санітараў аглядае неблагапалучнае стада, выдзяляе жывёлу, падлягаючую даследванню або ўбою. Вывад жывёлы з неблагапалучнай гаспадаркі забараняецца. Жывёла падзяляецца на тры групы: яўна хворых, падазроных і здаровых. У адносінах кожнай з гэтых груп праводзяцца тыя ці іншыя мерапрыемствы (убой, даследванне крыві, прышчэпкі) у залежнасці ад таго, ці маецца выпадковы занос павалкі або даўні заражоны ачаг.

Калі па ўмовах ходу барацьбы, неабходны прышчэпкі, то апошнія праводзяцца ветурачом, які карыстаецца матэрыялам, высылаемым спецыяльнымі лабараторыямі.

Ветсанітары неблагапалучных па павалцы гаспадарак удзельнічаюць у правядзенні мер карантыннага парадку, выконваючы ўсе заданні ветурача, які право-

дзіць проціпавалачныя мерапрыемствы (карантын, кляйменне прышчэпных літарай „П“, тэрмометраванне, улік рэакцыі і да т. п.).

Ветурачы даюць указанні ў залежнасці ад мясцовых умоў, як арганізаваць убой жывёлы і скарыстаць мяса, а таксама, што рабіць з кормам, астаўшымся ў заражоных гаспадарках. Тэрміны зняцця карантына вызначаюцца пастановай РВК.

## Шаленства

Шаленства—заразнае захворванне, якое выклікаецца так называемым фільтруючымся вірусам; хвароба пераходзіць ад жывёл да жывёл і да чалавека. Вірус шаленства ў хворых жывёл змяшчаецца ў сліне, мазгу і іншы раз у крыві і ў малаку.

**Шляхі заражэння.** Заражэнне адбываецца амаль выключна шляхам пакусаў, і хвароба праяўляецца не адразу. Пасля заражэння жывёла або чалавек прадаўжаюць аставацца больш ці менш доўгі час здаровымі. Тэрмін ад укусу і пападання заразнай сліны ў рану да наступлення шаленства бывае вельмі розны, але ў сярэднім не менш 2—3 тыдняў. Сабакі найчасцей захворваюць на працягу першых трох месяцаў пасля пакусу іх шалёнай жывёлай; бываюць выпадкі захворвання сабак праз 5—6—12 месяцаў. Рагатая жывёла і коні часцей за ўсё захворваюць паміж 15—60 днямі пасля ўкусу; у авечак і свіней захворванне часцей за ўсё наступае ў сярэднім праз 15—30 дзён.

Укусы частак цела, багатых нервамі і лімфатычнымі сасудамі, а таксама паблізу галаўнога і спіннога мозга асабліва небяспечны.

**Прызнакі хваробы.** Ва ўсіх жывёл, захварэўшых шаленствам, карціна захворвання мае многа агульных прызнакаў, а іменна: беспрычынны непакой, страта прытомнасці, прыгнечаны стан і развіццё паралічаў. Сабака пры захворванні шаленствам не ідзе на голас

гаспадара, імкнецца схавацца або бадзяецца па двары, ляскае зубамі, нібы ловіць мух. У яго паяўляецца ненармальны апетыт, і ён глытае розныя неперастраўныя прадметы (салому, трапкі, свой кал). У далейшым сабака ўцякае з дому, нападае на іншых сабак (або іншых жывёл ці чалавека) і без брэху кусае іх. К канцу хваробы прыступы шаленства змяняюцца прыгнечаным станам (апатыяй); наступае ўпадак сіл, знясіленне і паралічы. Па меры развіцця паралічаў у сабак паяўляецца



Рыс. 18. Выгляд шалёнага сабакі.

хрыплы брэх, адвісае ніжняя чэлюсць, хвост, хада робіцца хісткай, паралізуецца зад, і нарэшце наступае агульны параліч (рыс. 18).

У катоў і ў сабак прызнакі захворвання сходны.

У каня, захварэўшага шаленствам, паяўляецца палахлівасць і непакой. Знаходзячыся ў стойле або ля конавязі, ён выяўляе імкненне ўкусіць або ўдарыць; іншы раз галавой упіраецца ў сцяну. Часамі грызе драўляныя прадметы і раскідвае аб'ёмісты фураж. Учашчаецца мочааддзяленне. Конь сільна скрыгоча

зубамі, выдзяляецца сліна. Хада робіцца няправільнай у выніку пачынаючагася параліча задніх ног.

Рагатая жывёла пры шаленстве, знаходзячыся ў стойле, заўсёды ходзіць з месца на месца; калі кладзецца, то адразу падымаецца і пачынае біць нагамі і рагамі. Жывёла трэ месца ўкусу аб акружаючыя прадметы; заўсёды заўважаюцца запор і нярэдка колікі. З развіццём хваробы жывёла худзее і слабее, а малако знікае.

Захварэўшыя авечкі, козы і свінні стараюцца напасці на іншых жывёл і на людзей. У прыпадку ўзбуджэння яны рыюць зямлю, прыгаюць на сценку і хватаюць нез'ядобныя прадметы. Смерць наступае ад параліча органаў дыхання і руху. Як правіла, жывёла, захварэўшая шаленствам, гіне.

Захворваюць таксама трусы і птушкі. Найбольш небяспечнымі для чалавека з'яўляюцца каты, якія нярэдка кідаюцца ў твар і наносяць кагцямі і зубамі глыбокія параненні, і затым сабакі.

**Меры барацьбы.** Пры паяўленні ў гаспадарцы сабак, падазроных па шаленству, ветсанітар абавязан прыняць меры да неадкладнага іх знішчэння. У выпадку, калі сабака пакусаў чалавека або жывёлу, сабака не знішчаецца, а вытрымліваецца пад назіраннем урача ў асобнай клетцы да ўстанаўлення дыягназа. Сабакі або каты, падазраваемыя ва ўкушэнні шалёнымі жывёламі, знішчаюцца. Жывёлы, пакусаўшыя людзей, павінны быць агледжаны ветурачом. Усе с.-г. жывёлы, прызнаныя ўрачом яўна шалёнымі, неадкладна знішчаюцца. Трупы разам з папсаванай скурай закапваюцца ў зямлю на глыбіню не менш 2 м. У памяшканні праводзіцца дэзінфекцыя.

Коні, рагатая жывёла і свінні, падазраваемыя ва ўкушэнні шалёнымі жывёламі, ізалююцца ў зусім асобнае памяшканне на тэрмін да шэсці месяцаў і ім робяцца засцерагальныя прышчэпкі. Гэтых жывёл нельга выпускаць на агульныя пашы і вадапой; для догляду

прымацоўваецца спецыяльна выдзеленая асоба, якой зроблены адпаведныя прышчэпкі. У адносінах умоў утрымання выконваюцца ўказанні ветурача ўчастка.

Важнейшым прафілактычным мерапрыемствам супроць шаленства з'яўляецца лоўля і знішчэнне бяздомных сабак.

Калі жывёла пакусае чалавека і нельга неадкладна атрымаць медычную дапамогу, неабходна, не трацячы лішняга часу, зараз-жа прыпаліць рану як мага глыбей так называемай царскай гарэлкай (сумесь моцнай азотнай і салянай кіслаты); некаторыя рэкамендуюць таксама глыбокае змазванне месца ўкусу іёднай настойкай, лімонным сокам або моцнай уксуснай кіслатой. Зрабіўшы прыпальванне, неабходна неадкладна накіравацца на бліжэйшую Пастэраўскую станцыю па барацьбе з шаленствам, не чакаючы рэзультатаў даследвання пакусаўшага сабакі або іншай жывёлы.

## Менінгіт коней

Менінгіт коней—заразная хвароба. Хвароба назіраецца ў розных месцах ва ўсе поры года, але больш за ўсё коні хварэюць ёю вясной, летам і ранняй восенню. Месяцы найбольшага развіцця—жнівень, верасень.

**Прызнакі хваробы.** У захварэўшага каня заўважаюцца хуткая стамляемасць у рабоце, сільнае пацение, жаўтушнае афарбоўванне слізістых абалонак, іншы раз скачкападобнае павышэнне тэмпературы, якая дасягае 39,—40° (у пачатку захворвання). Гэты перыяд (па некаторых даных) з'яўляецца найбольш небяспечным у сэнсе пераносу заразы на здаровых коней.

У заразіўшагася каня паяўляюцца: своеасаблівае падцягванне жывата з утварэннем запальных жолабаў, брушны тып дыхання, слабы апетыт, адмаўленне ад вады, прыгнечаны стан, вяласць і пазяханне. Пры далейшым развіцці хваробы стан каня значна пагар-

шаецца: апетыт знікае, слізістая абалонка ротавай паласці робіцца бледнай з жаўтаватым адценнем, паяўляецца запор, кішочнік працуе няправільна, хада робіцца хісткай, зрэнкі расшыраюцца. У такім цяжкім стане коні на 2—5-ы дзень звычайна гінуць.

У многіх коней хвароба пачынае адразу праяўляцца ў бурнай форме: яны пачынаюць кідацца па канюшні, імкнуцца нястрымна ўперад, наштурхваючыся на прадметы (конь іх не бачыць), разрываюць прывязь і ламаюць конавязі.

У іншых выпадках конь упіраецца мордай у сцяну або кармушку і стаіць, расставіўшы ногі, пры руху траціць роўнавагу. Пры падзенні на зямлю, у стане прыпадку, у яго паяўляюцца сільныя канвульсіі.

**Шляхі заражэння.** Менінгіт коней перадаецца ад хворых коней здаровым пры іх судакрананні на пашах, у канюшнях і т. д. Коні павінны трымацца і пасвіцца зусім ізалявана ад рагатай жывёлы, авечак і свіней, бо гэтыя жывёлы таксама могуць быць перадатчыкамі хваробы.

**Меры барацьбы.** Пры паяўленні ў конных брыгадах коней з прызнакамі захворвання менінгітам ветсанітар абавязан зараз-жа накіраваць гэтых коней разам з кормам, збруяй і прадметамі догляду ў ізаляцыйнае памяшканне. Адначасова ён неадкладна даводзіць да ведама ветурача (ветфельчара) аб паяўленні хваробы. Станок (дзеннік), дзе стаяў хворы конь, павінен быць старанна ачышчан і абеззаражан, прычым на гэтае месца не пускаюць здаровых коней. Да прыбыцця ветурача ізаляваныя ветсанітарам коні не могуць быць скарыстаны на работу.

Пры прыбыцці ў гаспадарку ветурач удакладняе характар захворвання коней і арганізуе неабходныя мерапрыемствы.

Ветсанітар дапамагае ветурачу (ветфельчару) падзяліць конскі састаў паражонай гаспадаркі на групы здаровых, падазроных і хворых; кожная група павінна

быць ізалявана асобна. Ветурач выясняе крыніцы заносу захворвання і прымае меры да ўстаранення шляхоў магчымага далейшага распаўсюджання захворвання. Па ўказанню ветурача ветсанітар праводзіць меры па стараннай ачыстцы і абеззаражванню ўсіх канюшань неблагапалучнага калгаса (соўгаса), усяго ўнутранага інвентара і прылягаючай тэрыторыі.

Ветсанітар у паражонай конскай брыгадзе праводзіць сістэматычнае штодзённае вымярэнне тэмпературы ўсім коням. Падазроныя коні неадкладна ізалююцца. Здаровыя коні неблагапалучнага калгаса (соўгаса) дапускаюцца да работы толькі ў межах паражонай гаспадаркі з аблегчанай нагрузкай і абавязковай дачай канцэнтраваных кармоў. Для пасвіння скарыстоўваюцца ўчасткі, дзе не назіраўся менінгіт.

Калгас (соўгас), у якім выяўлен менінгіт коней, карантынуецца. У часе карантына забараняюцца прывод і вывад коней з гаспадаркі, а таксама праезд на конях праз тэрыторыю неблагапалучнага калгаса (соўгаса). Вывозіць гной за межы паражонай гаспадаркі не дазваляецца.

Ізаляваныя коні, хворыя і падазроныя па захворванню менінгітам, абслугоўваюцца асобнымі конюхамі і карыстаюцца палепшаным доглядам і кармленнем.

Лячэбныя мерапрыемствы строга праводзяцца па ўказанню ветурача і выконваюцца пры яго непасрэдным удзеле.

Злучныя пункты нельга адкрываць у калгасах (соўгасах), неблагапалучных па менінгіту. У гэтых гаспадарках маткі злучаюцца з жарабцамі сваёй гаспадаркі або асемяняюцца штучна.

## Туберкулёз

Туберкулёз—інфекцыйнае захворванне, выклікаемае туберкулёзнай бацылай. Захворваюць часцей за ўсё туберкулёзам буйная рагатая жывёла, радзей—свінні,

яшчэ радзей—коні. Паражаюцца туберкулёзам усе дамашнія птушкі: куры, качкі, індычкі і т. д.

**Шляхі заражэння.** Бацылы туберкулёза знаходзяцца ў макраце, насавой слізі, у малаку і кале. Хворая туберкулёзам жывёла заражае здаровую пры абнюхванні або аблізванні яе і пры кашлі.

Маладая жывёла, у асаблівасці цяляты, заражаюцца туберкулёзам галоўным чынам праз стрававальныя шляхі. На цялят хвароба вельмі часта пераносіцца з малаком туберкулёзных кароў.

Скучанасць жывёлы, дрэнная вентыляцыя, дрэннае ўтрыманне памяшканняў для жывёл, недастатковае знаходжанне на свежым паветры, няправільнае і малапажыўнае кармленне—усё гэта спрыяе захворванню туберкулёзам. Схільнасць да туберкулёза выклікае ўсе ўмовы, якія аслабляюць арганізм і робяць яго менш устойлівым супроць захворванняў.

**Прызнакі хваробы.** Па знешняму выгляду жывёл вельмі трудна вызначыць, ці хворыя яны туберкулёзам. Пры гэтым захворванні заўважаецца, што слізістыя абалонкі бледныя, скура жорсткая, валасы ўстапыраны і не маюць блеску, жывёла хутка знясіляецца; бываюць адышка, часты стамляючы кашаль.

Жывёлы правяраюцца прэпаратам „туберкулін", які ўводзіцца ва ўнутраны куток вока ўнутрыскурна або падскурна.

Пры ўвядзенні туберкуліна ва ўнутраны куток вока ў туберкулёзнай жывёлы гэтае вока праз 6—8 гадзін сільна чырванее, прыпухае і гнаіцца. Калі прымяняецца ўнутрыскурны спосаб, то ветурач уводзіць туберкулін шпрыцам або ў падхвоставыя складкі скуры або ў глыбокія слаі скуры шыі. У туберкулёзнай рагатай жывёлы праз 24—48—72 гадзіны на падхвоставай складцы паяўляецца разлітая балючая пухліна. Часта гэтая складка скуры выразна выступае і звісае. Пры ўвядзенні туберкуліна ў скуру шыі хворай складка скуры патаўшчаецца ў выглядзе мяккай неабмежаванай пухліны.

**Меры барацьбы.** Галоўнае ў барацьбе з туберкулёзам жывёлы—папераджальныя мерапрыемствы: пабудовы добрых скотных двароў з захаваннем усіх санітарных правіл—прасторныя, светлыя, чыстыя, сухія і з добрай вентыляцыяй кароўнікі і цялятнікі, частыя прагулкі ў зімовы час, летам—паша; своечасовае кармленне па правільна састаўленых нормах. Абслугоўваючыя жывёлу асобы не павінны быць хворымі туберкулёзам і абавязаны трымаць сябе ў чыстаце. Маладняк неабходна трымаць асобна ад дарослых жывёл і выпайваць яго толькі здаровым малаком. Ніводная галава буйнай рагатай жывёлы не павінна дапускацца ў гаспадарку без папярэдняй туберкулінізацыі. На пашах неабходна сачыць за тым, каб здаровая жывёла не змешвалася з туберкулёзнай.

Стады здаровай жывёлы забяспечваюцца праверанымі вытворнікамі. Быкі, прызнаныя па туберкулінізацыі хворымі, да злучкі не дапускаюцца. Туберкулінавыя фермы маюць прымацаваных здаровых вытворнікаў, якія не могуць перакідвацца на благапалучныя фермы.

Пасля заканчэння абследвання ветсанітар на падставе заключэння ветурача праводзіць із'яцце туберкулёзнай жывёлы.

Ветсанітар туберкулёзнай гаспадаркі, г. зн. гаспадаркі, куды выдзелены пасля туберкулінізацыі рэагуючыя на туберкулін жывёлы, строга выконвае ўсе ўказанні ветурача. Перакідка жывёлы, інвентара і фуража з туберкулінавай фермы ў благапалучныя гаспадаркі не дазваляецца. Усе памяшканні, у якіх размешчана жывёла, адзін раз у месяц падвяргаюцца старannай агульнай ачыстцы і абеззаражванню.

## Сап

Сап—хранічная, невылечная заразная хвароба. Хварэюць сапам коні, аслы, а таксама вярблюды; рагатая жывёла, свінні і птушкі сапам не хварэюць. Чалавек

таксама хварэе сапам. Хвароба выклікаецца сапнай бацылай.

**Шляхі заражэння.** Перадаецца сап галоўным чынам праз корм і ваду, забруджаныя выдзяленнямі хворых сапам коней (насавое выцячэнне і гной з язваў). Сапам заражаюцца жывёлы часцей за ўсё праз стрававальны канал, радзей—праз дыхальныя шляхі. У большасці выпадкаў заражэнне сапам адбываецца ў агульных канюшнях і пастаялых дварах, калі хворыя і здаровыя коні стаялі побач і атрымлівалі агульны корм і вадапой (агульныя кармушкі, карыта або вядро). Прычынай заражэння могуць таксама служыць: а) вупраж; калі ўжываць адзін і той-жа камплект для здаровага і хворага каня; б) падсцілка і прадметы догляду (торба, шчоткі, вядро, папона) скарыстаныя для здаровага каня пасля сапнага; в) перавозка ў брудных вагонах і трумах параходаў, дзе раней стаялі хворыя сапам коні.

**Прызнакі хваробы.** Бачымыя прызнакі захворвання выступаюць не адразу. Конь можа хварэць сапам і не мець якіх-небудзь знадворных прызнакаў. Такія коні месяцамі, а іншы раз і гадамі могуць з'яўляцца скрытымі носьбітамі і разносчыкамі сапа. Але бывае, што ў каня, заразіўшагася сапам, у самы кароткі час (іншы раз 5—7 сутак) пачынаюць паяўляцца прызнакі хваробы, і ён гіне на працягу 1—3 месяцаў і нават раней (вострае цячэнне).

У адных коней паяўляецца аднабаковае або двухбаковае выцячэнне з носа, звычайна шэраватага колеру, густое, непрыемнага паху, іншы раз з прымессю крыві; у носе такога каня паяўляюцца на слізістай абалонцы дробныя бугаркі і язвачкі, паступова павялічваючыяся ўшыр і ўглыб, іншы раз да поўнага прабадзення насавой перагародкі (рыс. 19). Пад ніжняй чэлюсцю апухаюць залозы, якія ў самым пачатку іх апухання адчувальны; у далейшым яны робяцца бязбольнымі, шчыльнымі і бугрыстымі, нерухомымі і дасягаюць рознай

велічыні (ад дробнага арэха да курынага яйца) без схільнасці да нагнаення (рыс. 20).

У іншых коней, пры скурнай форме, паяўляюцца на скуры сапныя язвы велічынёй ад гарошыны да арэха (ногі, грудзі, шыя). Заднія ногі часцей за ўсё пакрываюцца скурнымі сапнымі язвачкамі. Разам з паяўленнем на нагах язваў, назіраецца кульгавасць; асабліва прыкметная пры паваротах каня. Іншы раз у жарабцоў апухаюць машонка і яечкі. У яўна сапных коней побач з паражэннямі ў насавой поласці або на скуры амаль заўсёды таксама паражаны і лёгкія.



Рыс. 19. Сапныя язвы на насавой перагародцы ў каня.



Рыс. 20. Павелічэнне падчэлюсных залоз пры сапе.

Сустракаюцца коні, у якіх хвароба паражае галоўным чынам лёгкія; знадворных прызнакаў у такіх коней доўгі час няма, і яны здаюцца зусім здаровымі. Для выяўлення захворвання такім коням уводзяць шкля-

ной піпеткай у вока дзве або тры кроплі асобнага прэпарата „малеіна“ (выцяжка з сапных бацыл), прыгатаўляемага на спецыяльных фабрыках па выпрацоўцы біялагічных прэпаратаў. Такім чынам вызначаецца канчаткова, здаровы ці хворы конь. У здаровага каня „малеінізаванае“ вока астаецца без усякіх змяненняў. У сапнага каня ўвядзенне малеіна ў вока праз 4—6—8 гадзін (іншы раз 24 гадзіны) дае пачырваненне сапнага вока, набуханне слізістай абалонкі вока і выдзяленне гною з яго ўнутранага кутка (рысунак 21).



Рыс. 21. Гнойнае выцячэнне з правага вока ў хворага сапам каня пасля малеінізацыі.

Такія коні, называемыя „малеіншчыкамі“ пасля малеінізацыі правяраюцца яшчэ шляхам даследвання іх крыві для выяўлівання найбольш небяспечных бацыланосьбітаў. Бывае, што коні, прызнаныя па малеінізацыі падазронымі па сапу (станоўчая рэакцыя) пры даследванні крыві не даюць супадзення рэзультатаў. Гэтыя коні перадаюцца ў спецыяльныя гаспадаркі, дзе за імі прыходзіцца весці строгае назіранне як за скрытымі носьбітамі сапа.

**Меры барацьбы.** Асноўным мерапрыемствам супроць сапа з'яўляецца недапушчэнне новапрыбываючых на ўкамплектаванне ў соўгас або калгас коней адразу

ў агульныя канюшні. Гэтыя коні падвяргаюцца старанnаму ветэрынарна-санітарнаму агляду і карантынаванню. Перад заканчэннем карантына коні аглядаюцца ветурачом, ім уводзіцца ў вока малеін. Пры атрыманні адмоўнай рэакцыі коні пераводзяцца ў агульныя канюшні.

Ветсанітар сочыць за тым, каб былі зроблены ў далечыні ад канюшань асобныя конявязі або павеці для коней, часова прыбываючых у соўгас або калгас.

Пры пакупцы новых коней для соўгасаў або калгасаў абавязкова павінна быць праведзена вочная малеінізацыя.

Пры выяўленні ў соўгасе або калгасе яўна сапнага каня або малеіншчыка трэба стварыць камісію ў саставе прадстаўнікоў сельсовета, соўгаса (калгаса) і ветурача, якая ўстанаўляе: а) якія коні прыбылі і ўбылі за апошні час, б) з якога часу пачалі паяўляцца сапныя або падазроныя па сапу коні і в) з якімі коньмі судакраналіся выяўленыя ветэрынарным персаналам хворыя коні.

Камісія праводзіць старанны агляд наяўнага конскага саставу і прымае прадугледжаныя ветэрынарным законам меры. Прызначаныя да знішчэння яўна сапныя коні выводзяцца з гаспадаркі на жывёламагільнік, прычым труп зарываецца ў абавязковай прысутнасці ветэрынарнага персанала і прадстаўніка мясцовай улады. Перад закапваннем труп у яме abліваецца карасінам і абпальваецца. Здымаць скуры з трупаў сапных коней (паўшых і забітых) ветэрынарным законам забаронена.

Усе коні, якія не маюць якіх-небудзь знадворных прызнакаў захворвання сапам, прызнаныя пасля абследвання малеінам падазронымі па сапу, удаляюцца ветсанітарам з агульных канюшань. Ветсанітар па ўказанню ветурача ўводзіць з гаспадаркі падазроных па сапу коней і дастаўляе іх у спецыяльныя месцы, служачыя пунктамі канцэнтрацыі выключна малеінавых коней. У пуці прымаюцца неабходныя меры па папя-

рэджанню распаўсюджання сапа. Перад адпраўкай гэтыя коні таўруюцца з правага боку шыі літарай „М“ (малеіншчык).

Коні, паступіўшыя ў пункт канцэнтрацыі малеіншчыкаў, ніколі ў здаровае ядро конскага саставу не звяртаюцца. За кожным малеінавым канём абавязкова замацоўваецца асобная вупраж, шчотка, скрабніца, вядро і т. д.

Праводзячы процісапныя мерапрыемствы, ветсанітар павінен сам строга выконваць і раз'ясняць абслугоўваючаму персаналу значэнне мер перасцярогі, каб унікнуць заражэння людзей.

Каб не заразіцца, трэба: 1) пры аглядзе, узнуздванні і іншых работах з канём, падазроным па сапу, заўсёды ставіць яго супроць ветру, каб пры фырканні і кашлі вецер аднёс назад выдзяленні з носа і рота, аглядаючы і абслугоўваючы каня, трэба станавіцца збоку, а не супроць яго; 2) калі выцячэнні з носа каня пападуць у твар, неабходна зараз-жа абмыцца спачатку дэзінфекцыйным растворам і затым гарачай вадой з мылам; 3) не трэба самому лезці ў насавую поласць і дакранацца рукамі да паражоных месц; 4) нельга піць ваду з вёдраў, з якіх пояць коней; 5) пасля работы на конях трэба старанна вымыць шчоткай (мачалай) з мылам рукі; толькі пасля гэтага можна трымаць рукамі страву або закурваць папяросы; 6) канюхі (або наогул рабочыя), якія маюць раны або драпіны на руках, не могуць здымаць скуру з паўшага каня незалежна ад прычыны яго смерці.

## Бруцэлёз рагатай жывёлы (буйнай і дробнай) і свіней

Бруцэлёз (інфекцыйны аборт)—заразная хвароба, якая выклікаецца асобнымі спецыфічнымі мікробамі. Яны могуць знаходзіцца ў крыві, у вымені, у яічніках, у яйцавых прыдатках і семянных пузырках, а таксама ў лімфатычных залозах. У цяжарных заражоных і абар

таваўшых жывёл узбуджальнікі аборта знаходзяцца ў матцы, у яйцавых абалонках і каляплоднай вадкасці, у выцячэнні з улагалішча, у вымені і малаку; у пладоў—у страўніку і кішочніку.

**Шляхі заражэння.** У благапалучныя гаспадаркі бруцэлёз рагатай жывёлы і свіней большай часткай заносіцца новапаступаючымі ўжо заражонымі жывёламі. Правільны і сістэматычны нагляд за рагатай жывёлай і свіннямі (улік бясплоддзя, дачасных родаў і т. д.) дазваляе паскорыць выяўленне хваробы ў гаспадарцы.

Бруцэлёзныя мікробы пападаюць у арганізм жывёлы, рознымі шляхамі: 1) пры непасрэдным судакрананні заражанай рагатай жывёлы са здаровай у стойлах; 2) праз рот з кормам і вадой, забруджаных мачой і калам хворай рагатай жывёлы і свіней; 3) пры судакрананні з падсцілкай і кормам, забруджанымі выдзяленнямі родавых шляхоў, плода-яйцавымі абалонкамі і плодавымі водамі абартаваўшай жывёлы; 4) на пашах, забруджаных рознымі выдзяленнямі абартаваўшых і заражоных жывёл; 5) пры ўжыванні сырога малака і сырых малочных прадуктаў ад заражоных жывёл; 6) пры судакрананні з рознымі прадметамі, інфіцыраванымі выдзяленнямі бруцэлёзных жывёл.

Маладняк можа заражацца ад хворай жывёлы пры кармленні, бо самкі могуць месяцамі і гадамі пасля выкідыша выдзяляць з малаком узбуджальнікаў бруцэлёза.

Занесці хваробу на ферму можа таксама заражоны вытворнік, калі ён пушчан у злучку.

**Прызнакі хваробы.** Ветсанітар павінен падазраваць бруцэлёз (заразны аборт) у тых выпадках, калі ў стадзе назіраюцца наступныя з'явы: выкідышы адразу або паслядоўна ў некалькіх жывёл, затрыманні паследа або нараджэнне слабага нежыццездольнага плода, а таксама ўспаленне маткі з выцячэннем з палавых шляхоў.

Падазраваць заразны выкідыш трэба таксама ў тых

выпадках, калі на ферме пры дакладным уліку злучкі назіраецца масавая ялавасць або палавая няздольнасць вытворнікаў, не залежная ад старасці і іншых дакладна ўстаноўленых прычын.

Калі на аснове даных папярэдняга абследвання жывёлы ветурач дае заключэнне аб наяўнасці бруцэлёза, усё пагалоўе гаспадаркі падвяргаецца праверцы так называемым „абартынам". Гэты прышчэпачны матэрыял прадстаўляе сабой асоба прыгатоўлены прэпарат з забітых бруцэлёзных бактэрый і зусім бязшкодны для жывёльнага арганізма. Рэзультаты прышчэпак пачынаюць правяраць праз 72 гадзіны пасля ўвядзення абартына. Калі на месцы ўвядзення абартына ёсць гарачая, пачырванеўшая балючая пухліна велічынёй з фасолю і больш (да грэцкага арэха), то такая жывёла лічыцца бруцэлёзнай і падлягае неадкладнаму ўдаленню з агульнага стада.

**Меры барацьбы.** Для папярэджання заносу бруцэлёза жывёл ветсанітар павінен сачыць за тым, каб новазавезеныя для калгаса (соўгаса) жывёлы не ставіліся ў агульнае памяшканне разам са здаровымі да таго часу, пакуль ветурач не дасць на гэта дазволу.

Ветсанітар павінен строга сачыць за выкананнем зоагігіенічных мерапрыемстваў у перыяд ацёлу, апаросу або акоту, бо яны ўстараняюць магчымасць паяўлення масавых выкідышаў або дачасных родаў.

Пры паяўленні ў калгасным (соўгасным) стадзе выкідышаў або дачасных родаў ветэрынарны санітар павінен неадкладна паведаміць аб гэтым ветурачу.

Да прыбыцця ветурача ветсанітар накіроўвае ў ізалятар скінуўшую або дачасна радзіўшую жывёлу.

Стойлы, дзе знаходзіліся абартаваўшыя жывёлы, а таксама бліжэйшыя месцы старанна ачышчаюць; пасля ачысткі праводзіцца дэзінфекцыя.

Плод з абалонкамі да прыбыцця ветурача павінен быць вынесен ветсанітарам з вялікімі перасцярогамі ў непранікальнай пасудзе ў халоднае месца. Калі вет-

урач не накіроўвае плода на дадатковае даследванне ў ветэрынарную лабараторыю, плод выносіцца за межы сядзібы жывёлагадоўчай фермы і спальваецца або-ж глыбока закопваецца на жывёламагільніку.

Пасля дакладнага ўстанаўлення ўрачом, што ў калгасе (соўгасе) ёсць заразны выкідыш, паражоная ферма (аддзяленне соўгаса) аб'яўляецца неблагапалучнай. Усе жывёлы, прызнаныя па ветэрынарных даследваннях хворымі, клеймяцца спецыяльным кляймом і ізалююцца ветсанітарам на асобнай ферме (участку) або ў асобным кароўніку (секцыі) у залежнасці ад аб'ёма і сістэмы гаспадаркі, колькасці рэагуючых і наяўнасці будынкаў; для догляду за гэтай жывёлай прымацоўваюцца спецыяльныя людзі.

Далейшае даследванне жывёлы ў неблагапалучнай гаспадарцы праводзіцца па плану і ў тэрміны, указаныя ветурачом участка (гаспадаркі).

Памяшканне, дзе знаходзіліся да ізаляцыі хворыя жывёлы (пераведзеныя ў асобую групу), старанна ачышчаецца і дэзінфіцыруецца. За калгасам (соўгасам), неблагапалучным па заразнаму выкідышу, устанаўліваецца ветэрынарнае назіранне. Жывёлы не могуць нікуды перакідвацца і прадавацца без ведама ветэрынарнага нагляду. Агульны выпас і вадапой жывёл бруцэлёзнай фермы (аддзяленняў) з жывёлай благапалучнай часткі гаспадаркі (або іншай суседняй гаспадаркі) не дазваляюцца. У памяшканні, дзе знаходзяцца ізаляваныя хворыя жывёлы, а таксама ў памяшканні з маладняком не павінны дапускацца староннія асобы. Малако неблагапалучнай па бруцэлёзу фермы дапускаецца для ўжывання людзям і жывёлам толькі пасля кіпячэння або пастэрызацыі.

Цяляты, народжаныя ад заражоных кароў, неадкладна аддзяляюцца ад матак у асобыя цялятнікі і на працягу 10 сутак пояцца малаком ад маткі, а ў далейшым выпайваюцца малаком ад заведама здаровых кароў, або пастэрызаваным малаком ад заражоных кароў.

Для такіх цялят выдзяляюцца асобныя абслугоўваючы персанал і інвентар. Ягняты, парасяты, казляты выхоўваюцца пад сваімі маткамі да ад'ёму, пасля чаго ізалююцца ў асобнае памяшканне.

Ветсанітар бруцэлёзнага пункта павінен сачыць за выкананнем абслугоўваючым персаналам наступных патрабаванняў: 1) работа з бруцэлёзнай жывёлай праводзіцца абавязкова ў спецвопратцы; пасля работы— мыццё рук і абеззаражванне дэзараствoрам (карболкай, сулемой); 2) забараняецца выходзіць з кароўніка або цялятніка з бруцэлёзнымі жывёламі ў спецвопратцы; гэтыя рэчы павінны здымацца і пакідацца ў памяшканні ў асобай шафе; 3) асобы, якія маюць раны і драпіны на руках, не могуць дапускацца да раздзелкі туш і зняцця скур з бруцэлёзных жывёл.

## Інфекцыйны аборт коней

Інфекцыйны аборт коней адрозніваецца ад заразнага выкідыша рагатай жывёлы, свіней і авечак тым, што прычынай яго з'яўляецца пападанне ў арганізм зусім іншых мікробаў, не падобных да ўзбуджальнікаў бруцэлёза.

**Шляхі заражэння.** Усе шляхі заносу ў гаспадарку інфекцыйнага аборта кабыл дакладна не выяснены. Часта бывае, што аборты паяўляюцца ў калгасе (соўгасе) нечакана, без магчымасці ўдакладнення крыніцы заносу сазне, прычым адзначана, што выкідышы нярэдка самі спыняюцца.

Кабыла, абартаваўшы ў выніку заражэння, выдзяляе заразу ў значных колькасцях разам з плодам, яйцавымі абалонкамі, з паследам і з матачнымі выцячэннямі; захварэўшыя жывёлы выдзяляюць заразу з калам і мачой. З прычыны гэтага забруджваецца стойла, корм, падсцілка, паша, вадапой, а таксама інвентар канюшань. Абартаваўшая кабыла таксама выдзяляе заразу з матачнымі выдзяленнямі да 2—3 месяцаў

пасля аборта. Пасярэднікамі перадачы заразы могуць быць людзі, гной, кармы, вада, інвентар канюшань і да т. п. Асноўнымі варотамі інфекцыі лічыцца страўнічна-кішочны тракт (праз заражоны корм і піццявую ваду). Узбуджальнік інфекцыйнага аборта адсюль праз кровеносную і лімфатычную сістэмы пападае ў цяжарную матку, дзе знаходзіць адпаведныя ўмовы для размнажэння. Не выключаецца магчымасць заражэння праз палавыя органы.

**Прызнакі хваробы.** У кабыл перад выкідышам бывае ўмеранае апуханне вымені, слізістае (рэдка гнойнае) выцячэнне з улагалішча, лёгкія колікі. Такія прадвеснікі не з'яўляюцца абавязковымі, бо часта коні абартуюць нечакана. Крыніцай інфекцыі могуць быць жарабяты, хворыя суставаломам і інфекцыйным паносам.

**Меры барацьбы.** Ветсанітар павінен сачыць за тым, каб новапаступаючы конскі састаў абавязкова меў пасведчанне ад ветэрынарнага нагляду аб поўным благапалуччы гаспадаркі, адкуль былі адпраўлены коні.

У саміх калгасах (соўгасах) у перыяд злучной кампаніі ў злучку дапускаюцца толькі здаровыя маткі. Палавыя органы жарабцоў пасля кожнай злучкі павінны абмывацца абеззаражваючым растворам.

У памяшканні, дзе знаходзяцца маткі, падтрымліваецца ўзорная чыстата, і час ад часу праводзіцца дэзінфекцыя.

За некалькі дзён да родаў кабылы павінны пераводзіцца ў асобыя абсталяваныя памяшканні; назад у агульную канюшню яны адводзяцца праз некалькі дзён пасля родаў, на падставе спецыяльнага дазволу ветэрынарнага персанала. Аб усіх выпадках аборта кабыл тэрмінова паведамляецца ветурачу (ветфельчару); адначасова абартаваўшая кабыла неадкладна ізалюецца ў асобнае памяшканне або спецыяльны баз.

Астатнія прафілактычныя мерапрыемствы сходны з мерамі барацьбы супроць інфекцыйнага аборта іншых с.-г. жывёл і праводзяцца па ўказанню ветурача.

## Піраплазмоз або клешчавая ліхарадка

Піраплазмоз (па мясцовых выразах „крывавая мача", „чыхір")—заразная хвароба, якая выклікаецца бачным пад мікраскопам прасцейшым аднаклетачным паразітам, жывучым і размнажаючымся ў крыві жывёл, куды ён пападае праз укусы кляшчоў.

**Шляхі заражэння.** Узбуджальнікі піраплазмоза не перадаюцца непасрэдна ад адной жывёлы да другой, а пераносяцца асобымі кляшчамі, насасваючыміся крывёй хворай жывёлы.

Калі такі заражоны клешч пападае на здаровую жывёлу і кусае яе, то хваробатворныя мікробы разам са слінай кляшча пападаюць у цела жывёлы.

Перадатчыкамі піраплазмоза з'яўляюцца толькі кляшчы, чаму хвароба і названа „клешчавой ліхарадкай"; ніякія іншыя насякомыя—ні мухі, ні авадні— хваробы не пераносяць.

Кляшчы (перадатчыкі хваробы) водзяцца звычайна ў стэпах, у нізкіх балоцістых месцах, на пашах, пакрытых кустарнікам, або ў кустарніках па апушках лясоў.

Пашавыя кляшчы могуць прысасвацца ў любым месцы цела жывёлы; звычайна яны выбіраюць месцы, найбольш безапасныя для іх, а таксама там, дзе скура танчэй, няжней і менш пакрыта шэрсцю.

У коней кляшчы прысасваюцца часцей за ўсё ў вобласці грывы, чолкі, пад чэлюсцю, брухам; у рагатай жывёлы—на ўнутраным баку пахаў, на вымені, у вобласці прамежкасці.

**Прызнакі хваробы.** У захварэўшых жывёл паяўляюцца наступныя прызнакі: трацiцца апетыт, паяўляюцца жар, цяжкое і частае дыханне. Слізістая аба-

лонка ротавай паласці і вачэй робяцца хутка бледнымі і жаўтавата афарбаваны; на слізістай абалонцы вачэй, а іншы раз і носа, паяўляюцца кропкавыя, а пры больш цяжкіх формах разлітыя кровезліцці. Прыём корму змяншаецца. У каровы зніжаецца або спыняецца ўдой малака, і паяўляецца крывавая мача. Конь здаецца спячым і прыгнечаным, дыханне ў яго робіцца частым, паяўляюцца колікі, на жываце, а іншы раз і на нагах утвараюцца ацёкі; мочаспусканне іншы раз затруднёнае, колер мачы не заўсёды яўна зменен. У часе хваробы назіраюцца запоры, якія змяняюцца паносамі; выпаражненні часта змяшчаюць слізь са згусткамі крыві. Жывёла хутка худзее і слабее; у цяжкіх выпадках смерць наступае праз 3—5 дзён пасля пачатку хваробы, а ў лёгкіх—жывёла павольна выздараўлівае. Маладняк лягчэй пераносіць хваробы, чым дарослыя. Хвароба ў захварэўшых жывёл выяўляецца не адразу, а толькі праз 11—14 дзён пасля ўкусу кляшчамі.

Цяжка звычайна хварэе ў неблагапалучнай мясцовасці прывозная жывёла. Перахворванне, як правіла, стварае неўспрыймальнасць на ўсё жыццё. Перахварэўшыя даволі доўга з'яўляюцца носьбітамі заразы.

**Меры барацьбы**. У раёнах, неблагапалучных па піраплазмозу, праводзяцца наступныя прафілактычныя мерапрыемствы па барацьбе з кляшчом—пераносчыкам хваробы:

а) купанне, апырскванне або абціранне жывёл растворам мыш'яковіста-кіслага натра;

б) змена выпасаў або ізаляцыя заклешчаваных пашавых участкаў на тэрмін, указаны ветурачом;

в) карантынаванне заклешчаванай жывёлы, прыбыўшай у свабодную або ачышчаную ад кляшчоў гаспадарку.

Устаноўлена, што калі піраплазмозны клешч не пападае на жывёлу на працягу 7—8 месяцаў, ён гіне ад галадоўкі натуральнай смерцю. Таму ў паўднёвых

раёнах, неблагапалучных па піраплазмозу, аднačасова прымяняюць купанне або апырскванне жывёл мыш'яковістакіслым натрам і змена выпасаў.

Прапусканне жывёлы праз ванны праводзіцца пад назіраннем ветурача або ветфельчара, якія правяраюць прыгоднасць раствора мыш'яковістакіслага натра шляхам аналіза.

Перад ваннай жывёлы павінны быць напоены, каб яны не захацелі піць раствору. Цялятам нельга дазваляць сасаць вымя, змочанае мыш'яком. Цельныя каровы і маладыя цяляты да трох месяцаў у ванну не дапускаюцца. У халоднае надвор'е не трэба купаць жывёлу ў ваннах, каб унікнуць прастуды; у часе дажджу няма сэнсу купаць, бо атрутная вадкасць змываецца дажджом.

Стада прапускаецца праз ванну толькі раніцой да наступлення гарачыні або вечарам. Жывёлу, не акунуўшуюся з галавой, абавязкова абліваюць з вядра растворам, узятым з ванны. У выпадку паяўлення пасля купання якіх-небудзь хваравітых ускладненняў апрацоўка жывёлы неадкладна спыняецца. Жывёлы з ранамі і язвамі не пускаюцца ў ванну, а абціраюцца без змачвання параненых месц.

Дзеянне ванны заключаецца ў тым, што кляшчы праз кароткі час гінуць і адпадаюць з цела жывёлы. На працягу 1—4 дзён пасля ванны жывёла асвабаджаецца ад кляшчоў, паступова агульны стан заклешчанай жывёлы паляпшаецца, і яна пачынае прыбываць у вазе.

Вадкасць з ванны павінна выходзіць праз адводныя трубы ў паглынаючы калодзеж або адкачваецца ў яго насосам.

Змена выпасаў у неблагапалучных раёнах праводзіцца згодна плана і ўказанняў мясцовага ветэрынарнага ўчастка, абслугоўваючага даную гаспадарку.

У паўночных раёнах барацьба з кляшчамі-пераносчыкамі піраплазмоза рагатай жывёлы праводзіцца

шляхам ізаляцыі заражоных пашавых участкаў. Для гэтага заселеныя кляшчамі лясныя пашавыя ўчасткі адгараджваюць агарожай, каб не дапускаць на іх жывёлу. Апрача таго жывёла рэгулярна купаецца або абціраецца мыш'яковістым растворам згодна ўказанняў спецыяльнай інструкцыі НКЗ СССР.

Апырскванне жывёл растворам мыш'яковістакіслага натра праводзіцца пад агульным кіраўніцтвам ветурача. Для правядзення апырсквання робіцца па ўказанню ветурача асобая драўляная камера з двума загонамі (для чакання і высыхання). Апарат для апырсквання ставіцца збоку камеры. Усё месца, дзе праводзіцца апырскванне (загоны, камера, бочкі з растворам і апаратура), абавязкова агараджваецца глухой агарожай з запіраючыміся варотамі.

Абціранне і апырскванне жывёл праводзіцца толькі раніцой да наступлення гарачыні або вечарам. У выпадку пагаршэння стану жывёл абціранне або апырскванне часова спыняюцца. Абціранне жывёл з язвамі або ранамі праводзіцца без змачвання паражоных месц. Скарыстаныя растворы выліваюцца ў паглынаючыя калодзежы, але ні ў якім выпадку не на паверхню зямлі або ў скарыстоўваемыя вадаёмы.

Пры немагчымасці апырсквання коней або рабочай жывёлы праводзяць апрацоўку шляхам абцірання растворам мыш'яковістакіслага натра, прыгатоўленага па ўказанню ветурача.

Апрацоўка праводзіцца ля конавязей або ў тых загонах, як і апырскванне.

Для абцірання змачваюць у растворы трапкі або мачалкі, якімі старанна змочваецца і праціраецца цела жывёлы.

Пры паяўленні ў гаспадарцы піраплазмоза ва ўсяго стада заражонай фермы (або ў коней неблагапалучнай брыгады) вымяраецца тэмпература. Яўна хворыя жывёлы і падазроныя па захворванню (з высокай тэмпературай) выдзяляюцца, старанна асвабаджаюцца

ад кляшчоў і спецыяльна лечацца згодна ўказанняў ветурача (ветфельчара). З прычыны таго, што пры лячэнні ўжываюцца асобыя лякарствы, дзеючыя спецыяльна супроць пэўных форм піраплазмоза, прыходзіцца заўсёды ўдакладніць від кляшчоў, выклікаўшых масавае захворванне жывёлы; для гэтага ветсанітар праводзіць збор кляшчоў і здае іх на ветэрынарны пункт для адсылкі ў ветэрынарна-бактэрыялагічную лабараторыю. Коні і рабочая жывёла асвабаджаюцца ад работы і пераводзяцца на лепшы кармавы рацыён.

## Злучная хвароба

Злучной хваробай называецца хранічная заразная хвароба коней, якая паяўляецца пасля злучкі з заражонымі жывёламі і выражаецца ў мясцовым успаляльным захворванні палавых органаў, скурных ацёках і нарэшце ў паяўленні параліча.

**Шляхі заражэння.** Узбуджальнікам хваробы з'яўляецца асобы паразіт крыві, названы ў навуцы трыпаназомай злучной хваробы. Трыпаназома здольна жыць толькі ў арганізме каня, таму злучная хвароба не можа быць занесена ні з кормам, ні з вадой. Зараза перадаецца, амаль заўсёды, пры злучцы праз выдзяленні палавых органаў хворых жывёл. Пранікаючы пры злучцы ў слізістую абалонку палавых органаў, трыпаназомы спачатку размнажаюцца на месцы ўнядрэння, а затым ужо ў крыві, дзе выдзяляюць яды (таксіны), якія дзейнічаюць на сценкі сасудаў і нервовую сістэму; вынікам захворвання нервовай сістэмы з'яўляюцца паралічы.

**Прызнакі хваробы.** Пачатковыя прызнакі захворвання паяўляюцца праз 5—6 дзён, а іншы раз праз месяц і нават праз 2—3 месяцы пасля злучкі.

Злучную хваробу можна падазраваць у коней, маючых хоць-бы адзін з наступных прызнакаў: а) у жа-

рабцоў бязбольная пругкая ацёчная пухліна крайняй плоці, пераходзячая далей на машонку, бруха і падгрудак; б) выдзяленні слізі з мочаспускальнага канала палавога члена, прычым адтуліна яго прыпухшая; в) у кабыл—ацёчнае апуханне палавой пятлі, апуханне слізістай абалонкі ўлагалішча і выцячэнне з яго. Падазронымі прызнакамі з'яўляюцца таксама: белыя плямы на палавых органах, паяўленне час ад часу на скуры (галоўным чынам на баках і крупе) плоскіх рэзка акрэсленых круглаватых прыпухласцей, з устапыранай шэрсцю, схуданне пры добрым апетыце і корме, бяспрычынная кульгавасць на адну або дзве заднія нагі, параліч губ і вушэй, слабасць, хісткасць і параліч таза, а таксама сільнейшы сверб скуры з аднчасовым схуданнем.

**Меры барацьбы.** Ветсанітар не дапускае хворых коней у благапалучныя гаспадаркі. Пры ўсякіх ветэрынарных аглядах коней, а таксама пры набыцці новых коней для калгаса (соўгаса) ветсанітар праз ветурача выясняе благапалучча жывёл у адносінах злучной хваробы.

Жарабцы і кабылы, прыбыўшыя ў гаспадарку з незаражанага злучной хваробай пункта, не павінны дапускацца ў агульныя канюшні (табун) на працягу 20 дзён. Калі ў перыяд знаходжання ў карантыне сярод нова прыбыўшых жарабцоў і кабыл акажуцца падазронымі ў захворванні злучной хваробай, праводзяцца ўсе неабходныя мерапрыемствы па ўказанню ветурача або ветфельчара.

Калі ў калгас (соўгас) прыбываюць коні з неблагапалучных па злучной хваробе пунктаў, неабходна гэтых коней трымаць і працаваць на іх асобна.

За час такога ізаляванага ўтрымання прыбыўшыя з неблагапалучнай гаспадаркі коні па ўказанню ветурача падвяргаюцца спецыяльнай ветэрынарнай апрацоўцы (даследванне крыві і т. д.).

Ветсанітары конегадоўчых (калгасных або соўгас-

ных) ферм у перыяд злучной кампаніі павінны сачыць за тым, каб строга выконваліся ўказанні ветурача па папярэджанню масавага распаўсюджання злучной хваробы. Калі ў часе агляду выяўляюцца падазроныя па злучной хваробе коні, іх неабходна неадкладна ўдаліць з тэрыторыі злучнога пункта.

Ветсанітар, які праводзіць злучку, павінен пасля кожнага пакрыцця абавязкова абмываць палавы член жарабца.

Калі ветсанітар абслугоўвае племянныя касякі, то ён павінен забяспечыць ахову іх ад забягання староннiх жарабцоў і кабыл. Кожны фарміруемы касяк племянных матак павінен быць агледжан ветурачом.

У калгасах (соўгасах), дзе выяўлены частыя выпадкі захворвання коней злучной хваробай, ветурач час ад часу праводзіць пагалоўныя агляды і спецыяльныя даследванні жарабцоў і кабыл. У гэтых неблагапалучных калгасах у перыяд злучной кампаніі не праводзяць натуральнага пакрыцця кабыл, а прымяняюць метад штучнага асемянення; такім чынам папераджаецца магчымасць заражэння жарабца ад кабыл і наадварот.

У запушчаным стане (стадыя паралічаў) са злучной хваробай бароцца значна трудней. У якасці лячэбнага сродку ветурачом прымяняецца прэпарат „наганоль" (Байер 205). Увесь курс лячэння праводзіцца строга ў парадку, указаным ветурачом.

## Кароста

Кароста выклікаецца так называемым кароставым кляшчом (рыс. 22). Простым вокам кароставых кляшчоў немагчыма разгледзець; іх можна толькі бачыць праз павелічальнае шкло (лупа, мікраскоп).

**Шляхі заражэння.** Жывёлы заражаюцца каростай пры сумесным утрыманні хворых і здаровых у адным памяшканні, на агульнай пашы або вадапоі або пры су-

меснай рабоце здаровых з карослівымі. Кароста перадаецца таксама праз чалавека, які адначасова даглядае за хворымі і здаровымі жывёламі.

Асабліва многа кляшчоў і іх яечак пакідаюць жывёлы на прадметах, аб якія яны чэшуцца (слупы, плятні, сцены, стойлы). Небяспечны таксама пастаянныя двары, конавязі агульнага карыстання і станкі ў кузнях. Дрэннае ўтрыманне жывёлы (цёмныя, сырыя памяшканні, дрэнны догляд), недастатковая чыстка жывёл, схуданне і слабасць жывёлы робяць яе схільнай да захворвання каростай і спрыяюць яе распаўсюджанню.

**Прызнакі хваробы.** Жывёлы, захварэўшыя каростай, расціраюць, кусаюць і расчосваюць захварэўшыя месцы ў выніку сільнага свербу, выклікаемага кляшчамі ў скуры.

Сверб і непакой жывёл асабліва сільна праяўляюцца па начах у разгарачаных жывёл.



Рыс. 22. Каростава кляшчы.

Расчосы і раздражэнні скуры прыводзяць да выпадання і выламлівання валасоў. Скура на паражоных месцах патаўшчаецца і збіраецца ў складкі, утвараючы бясшэрстныя расчосаныя ўчасткі (рыс. 23).

У буйнай рагатай жывёлы кароста пачынаецца часцей за ўсё на шыі, на патылічнай ямцы і на корані хваста. Адсюль яна ўжо можа распаўсюджвацца і далей па спіне і па грудзях.

У авечак каростай паражаюцца галоўным чынам красцец, спіна, плечы, шыя і корань хваста (рыс. 24).

Іншы раз у авечак назіраюцца кароставыя паражэнні на галаве, пераважна каля куткоў рота, па краях носа і на губах; паражаюцца таксама ногі.

Нежная скура тонкашэрсных парод сільней паражаецца, чым скура простых парод авечак, і барацьба з каростай у іх трудней.



Рыс. 23. Кароста ў каня.

У коз, захварэўшых каростай, паражэнні спачатку паяўляюцца толькі на губах, на носе, на вушах, але ў хуткім часе яны пераходзяць і на ўсё цела.

У свіней кароста паяўляецца перш за ўсё на галаве. Калі-ж хваробу запусціць, то яна пераходзіць на спіну і далей на ўсё цела. С.-г. жывёлы, хворыя каростай, худзеюць, зніжаюць працаздольнасць, удоі малака і выхад шэрсці; у выніку знясілення бываюць выпадкі падзяжу.

**Меры барацьбы.** Ветсанітар павінен сістэматычна сачыць за тым, каб кароста не была занесена ў калгас (соўгас) і каб карослівыя жывёлы не пападалі ў жывёлагадоўчыя фермы.

Для папярэджання магчымасці паяўлення каросты (як і іншых захворванняў) трэба:



Рыс. 24. Авечка, хворая каростай.

1) не ставіць жывёл ля кармушак і калод у дварах і памяшканнях, дзе знаходзілася хворая або падазроная па каросце жывёла;

2) не задаваць корм і ваду з адной пасуды хворым і здаровым жывёлам;

3) не карыстацца адной і той-жа збруяй для здаровага і хворага цягла. Пры пакупцы паношанай збруі неабходна яе перад ужываннем папярэдне ачысціць і абеззаразіць дзёгцем, а войлачныя часткі прамыць шчолакам;

4) не даручаць аднначасова адной і той-жа асобе ўборку і чыстку здаровых і хворых коней, а таксама не дапускаць чыстку хворых і здаровых аднымі і тымі-ж шчоткамі і скрабніцамі;

5) не выганяць здаровых і хворых жывёл на агульную пашу;

6) хворыя жывёлы павінны знаходзіцца пад сістэматычным назіраннем ветэрынарнага персанала; па яго-ж указаннях і пры асабістым удзеле ветсанітар праводзіць адпаведнае лячэнне;

7) адвесці спецыяльнае месца для прыбываючых жывёл, дзе ўстанаўліваецца асобная конавязь і забяспечваецца вадапой. Драўляныя слупы ля конавязей час ад часу беляцца вапнай або змазваюцца дзёгцем. Усіх прыязджаючых у калгас або соўгас трэба папярэдзіць аб неабходнасці мець для сваіх жывёл вёдры, торбы для зерня і сеткі для сена;

8) не дапускаць судакранання жывёл калгаса або соўгаса з жывёламі прыязджаючых асоб. Асобы, прыязджаючыя з гаспадарак, дзе ёсць выпадкі захворвання жывёл каростай, не павінны дапускацца ў памяшканні, дзе стаяць здаровыя жывёлы;

9) уважліва аглядаць жывёлу пры пакупцы.

Важнае значэнне ў барацьбе з каростай, як і з усякай хваробай, маюць правільнае кармленне і чыстае ўтрыманне жывёл: пры дрэнным кармленні жывёла хутчэй захворвае і з большымі труднасцямі вылечваецца; чым чысцей трымаюцца жывёлы, тым лягчэй захаваць іх ад каросты.

Лячэнне каросты праводзіцца абавязкова па ўказаннях ветурача або ветфельчара. У ізалявана карослівага каня спачатку выстрыгаюць шэрсць на паражоных каростай месцах, затым змачваюць іх ватай і ўціраюць зялёнае мыла. Праз суткі ўсё цела каня вымываецца цёплым шчолакам з мылам і выціраецца дасуха. Пасля гэтага прыступаюць да ўцірання лякарства. Пры лячэнні каросты карыстаюцца вен-

скай дзягцярнай маззю наступнага саставу: 400 г зялёнага мыла, 400 г спірту-дэнатурату, 200 г дзёгцю і 200 г сернага цвету. Перад ужываннем мазь узбаўтваецца. Можна таксама ўжываць адзін з наступных рэцэптаў: а) уціранне сумесі з крэаліна і дзёгцю (па адной частцы) і расліннага масла (пяць частак); б) уціранне сумесі карасіну і расліннага масла ў роўных частках; в) уціранне сумесі зялёнага мыла і дзёгцю ў роўных частках. Карасін і дзёгаць ужываюцца абавязкова ў разбаўленым выглядзе.

Лякарствы ўціраюцца ў паражоныя месцы цела часткамі ў 2—3 дні; у першы дзень націраецца палова або трэць каня, у другі—другая палова і т. д.; праз 7 дзён уцёртая мазь змываецца з цела жывёлы ў тым-жа парадку. Змазваць адразу ўсю скуру нельга, бо мазь спыніць доступ паветра праз скуру ў арганізм, у выніку чаго можа адбыцца смяртэльнае атручэнне каня прымяняемымі медыкаментамі.

Лякарствы забіваюць усіх дарослых кляшчоў, але могуць не забіць яечкі, з якіх праз 7 дзён выведуцца новыя кляшчы. Таму ў некаторых выпадках уціранне трэба паўтараць праз кожныя 4—6 дзён. Для гэтага папярэдне змываюць ранейшую мазь і скуру высушваюць. Такім чынам лячэнне каросты можа прадаўжацца 3—4 тыдні.

У апошнія гады ў соўгасах і калгасах прымяняецца новы спосаб лячэння каросты ў коней—сярністым газам у спецыяльных газакамерах. Гэты спосаб вельмі зручны тым, што газ забівае не толькі кляшчоў, але іх яечкі.

У 1933 г. праф. Дзем'яновіч прапанаваў новы метад лячэння каросты: 60-працэнтным гіпасульфітам і 10-працантным растворам салянай кіслаты. Гэты метад дае ўпаўне здавальняючыя рэзультаты і можа прымяняцца па ўказанню ветурача.

Пры лячэнні каросты ў кароў ужываюцца тыя-ж

медыкаменты, што і ў коней, з той розніцай, што ў кароў можна націраць маззю не больш $^{1}/_{4}$ цела ў адзін прыём.

Для лячэння авечак прымяняюцца мазі і ванны (купанне). Лячэнне авечак у процікароставых ваннах робіцца па ўказанню і пад назіраннем ветурача[1]. Для ванны прымяняецца галоўным чынам крэалін.

## Стрыгучы лішай

Стрыгучы лішай—паразітарнае захворванне скуры. Часцей за ўсё хварэюць рагатая жывёла і коні. Інкубацыйны перыяд залежыць ад стану жывёлы, даўжыні яе шэрсці, умоў утрымання, а таксама колькасці і ступені заражанасці ўзбуджальніка хваробы (плесневы грыбок).

У захварэўшай рагатай жывёлы часцей за ўсё на галаве і на шыі, радзей па ўсяму целу, паяўляюцца рэзка абмежаваныя плямы, то лысыя, то з прыпаднятай шэрсцю. Плямы могуць дайсці да велічыні далоні (іншы раз зліваюцца разам) і выклікаюць у жывёл сверб. Працягласць хваробы 6—12 тыдняў.

У каня стрыгучы лішай паражае спіну, плечы, холку, круп, а таксама галаву.

Месцы, паражоныя стрыгучым лішаём, узвышаныя і няроўныя; паступова валасы на гэтых участках робяцца грубей, ляжаць у няправільным палажэнні, лёгка выцягваюцца, склейваюцца і ўтвараюць корку, якая затым адпадае, утвараючы на скуры лысыя плямы.

---

[1]) Рэцэпты крэалінавых і іншых ванн састаўляюцца ветэрынарным спецыялістам у залежнасці ад маючагася ў наяўнасці дэзасродку і яго якасці.

**Меры барацьбы.** Усякую жывёлу, падазраваемую ў скурным захворванні, ветсанітар павінен ізаляваць і паказаць ветурачу. Прафілактычныя меры барацьбы праводзяцца ў асноўным тыя-ж, што і пры каросце.

Лячэнне рознымі антыпаразітарнымі сродкамі праводзіцца па спецыяльнаму ўказанню ветурача. Да прыбыцця ветурача можна паражоныя месцы змазваць креалінавай маззю або настойкай іёда.

---

# VI. ГЛІСНЫЯ ХВАРОБЫ

## АГУЛЬНЫЯ ЗВЕСТКІ АБ ГЛІСТАХ

Хваробы, выклікаемыя жывёльнымі паразітамі, называюцца інвазійнымі. З раздзела гэтых хвароб важнае месца займаюць глісныя захворванні—вынік пранікнення ў арганізм с.-г. жывёл паразітуючых чарвей (глістоў).

Працяглае знаходжанне глістоў у тых ці іншых органах можа выклікаць сур'ёзныя паражэнні (закупорка кішкі, разрыў кішочніка, перараджэнне печані, задушэнне). Раненні ўнутраных органаў выклікаемыя глістамі, могуць садзейнічаць пранікненню ў органы хваробатворных мікробаў. Практыка паказвае, што глісныя заражэнні спрыяюць развіццю інфекцыйнага захворвання. Некаторыя глісныя хваробы жывёл (фасцыялёз, лёгачна-глісныя хваробы) часта прыносяць вялікія ўбыткі калгасам (соўгасам), бо выклікаюць падзёж жывёлы, або зніжаюць яго гаспадарчую каштоўнасць, выклікаючы затрымку фізічнага развіцця, паніжэння малочнасці або агульнай працаздольнасці і т. д.

Глісныя захворванні с.-г. жывёл выклікаюцца чатырма групамі глістоў: сасальшчыкамі, лентачнымі, круглымі і калючагаловымі. Кожная з гэтых груп адрозніваецца сваёй будовай, спосабам жыцця, месцам пасялення ў арганізме жывёлы і хваробатворным дзеяннем.

## Прафілактыка глісных хвароб

Барацьба з гліснымі хваробамі павінна праводзіцца ў калгасе (соўгасе) штодзённа. Асноўныя санітарна-прафілактычныя мерапрыемствы для папярэджання паяўлення заразных хвароб наогул адначасова з'яўляюцца і прафілактычнымі проціглісными мерапрыемствамі.

Прафілактыка глісных захворванняў зводзіцца: 1) да штодзённай стараннай ачысткі ад гною (і іншых забруджанняў памяшканняў для с.-г. жывёл; 2) да ўдалення гною з памяшканняў (і з акружаючай тэрыторыі) у гноехавальнік. Пры адсутнасці спецыяльных гноехавальнікаў яго складаюць у кучы на агароджаным, недаступным для жывёл месцы; 3) да недапушчэння забруджання тэрыторыі жывёлагадоўчай фермы (асабліва свінагадоўчай і авечкагадоўчай) калам чалавека і сабак да ўтрымання выгульных участкаў (дворыкаў) у пастаяннай чыстаце; 5) да дачы кармоў і вады толькі з кармушак і карыт, сістэматычна ачышчаемых і вымываемых гарачым растворам шчолака; 6) да набыцця новых жывёл з гаспадарак, благапалучных па глісных захворваннях.

З прычыны таго, што глеба і вада ў большасці выпадкаў з'яўляюцца прамымі крыніцамі глісных захворванняў, неабходна ўдзяліць асобую ўвагу пытанням выбару пашаў і вадапою. Пры выбары летніх пашаў і выпасаў трэба ўнікаць сырых, балоцістых і нізкіх пашаў, не асушаных (меліяратыўнай апрацоўкай). Трэба быць таксама вельмі асцярожным пры аддвозе калгасу (соўгасу) пашаў, раней ужо скарыстаных іншымі жывёлагадоўчымі гаспадаркамі.

Сабакі адыгрываюць важную ролю як разносчыкі глісных хвароб авечак. Таму ветсанітар не павінен дапускаць сумеснага ўтрымання ў аўчарнях сабак і авечак.

Улічваючы, што многія калгасы арганізуюць убой

дробнай жывёлы на месцы ў калгасах, ветсанітару неабходна сачыць за тым, каб убой праводзіўся ў асоба адведзеных памяшканнях, а адкіды ўбою скарыстоўваліся ў адпаведнасці з указаннямі ветэрынарнага персанала (у залежнасці ад гліснага благапалучча гаспадаркі).

Пасля ўстанаўлення ветурачом заражонасці стада глістамі ён прыступае да правядзення лячэбна-прафілактычных мерапрыемстваў. Ачыстка стада жывёл ад глістоў шляхам дачы ім лякарственых сродкаў называецца д э г е л ь м і н т ы з а ц ы я й. Дэгельмінтызацыя ў кожным асобным выпадку мае рад асаблівасцей. Кожнае лякарства з'яўляецца дзейсным супроць пэўнага віду глістоў. Так напрыклад: а) у барацьбе з фасцыялёзам (гл. ніжэй) прымяняецца асобы прэпарат—чатыроххлорысты вуглерод; б) пры дыктыёкаулёзе (гл. ніжэй) для лячэння прымяняецца водны раствор іёда з іёдзістым каліем; в) выгнанне аскарыдаў (гл. „Аскарыдоз") праводзіцца дачай сантаніна. Масавая дэгельмінтызацыя праводзіцца толькі пасля праверкі на доследнай групе бясшкоднасці прымяняемага лякарства.

## Фасцыялёз

Фасцыялёзам называецца пячоначна-гліснае захворванне, ад якога асабліва цярпяць авечкі, козы і крупная рагатая жывёла. Узбуджальнікам хваробы з'яўляюцца глісты-сасальшчыкі, называемыя фасцыёламі. Паразіт часта назіраецца там, дзе ёсць спрыяльныя ўмовы для яго развіцця, г. зн. балоты і нізінныя лугі, у якіх у вялікай колькасці знаходзіцца прамежкавы гаспадар—малы прудавік. У некаторых раёнах нярэдка ўспыхвае масавы адыход авечак на глебе захворвання фасцыялёзам.

Сутнасць хваробатворнага ўздзеяння фасцыёл на арганізм жывёл заключаецца ў наступным: усяляючыся ў печань, паразіты пры сваім руху разбураюць сценкі

жоўцевых ходаў, закупорваюць іх, выклікаючы застой жоўці. Выдзяляемыя паразітамі ядавітыя вяшчэствы шкодна дзейнічаюць на пячоначную тканку і арганізм у цэлым.

У авечак назіраецца наступная карціна хваробы: вяласць, слабасць, шэрсць без блеску, якая лёгка выпадае, ацёкі падбародка, грудзей і жывата, жаўцізна слізістых абалонак, панос, які змяняецца запорам; пры пагаршэнні стану авечкі часта гінуць.

Рагатая жывёла, хворая фасцыялёзам, паступова худзее і пачынае адставаць ад стада. Слізістыя абалонкі жаўтушныя. Апетыт зменлівы; назіраецца змена паносу і запору. Смяртэльны вынік бывае рэдка.

Па знешняму выгляду нельга ўстанавіць захворванні жывёлы фасцыялёзам. Урач даследуе кал пад мікраскопам і пры знаходжанні яечак фасцыёл робіць пробныя ўскрыцці і канчаткова ставіць дыягназ.

У неблагапалучных па фасцыялёзу калгасах (соўгасах) праводзяцца вымушаныя процігліснын мерапрыемствы. Ветсанітар дапамагае ветэрынарнаму ўрачу арганізаваць дэгельмінтызацыю авечак. Далей ён сочыць за ачысткай двароў і загонаў ад калу, спальвае заражоны кал, назірае за жывёламі, вытрымліваемымі пасля лячэння за абеззаражваннем убойных адкідаў, не дапускаючы жывёлу на балоцістыя пашы і т. д.

## Дыктыёкаулёз буйнай рагатай жывёлы і авечак

Узбуджальнікам дыктыёкаулёза або гліснай бронхапнеўмоніі буйнай рагатай жывёлы і авечак з'яўляецца асобы паразітычны чарвяк, называемы „дыктыёкаулюс". Заражэнне жывёл адбываецца без староніх прамежкавых гаспадароў. Глісты, якія гнездзяцца ў бронхах або трахеі заражонай жывёлы, выдзяляюць яечкі з рухавымі лічынкамі. Калі заражоная жывёла кашляе, гэтыя яечкі пападаюць да яе ў ротавую поласць, а адсюль заглытваюцца і пападаюць у стрававальны тракт. Тут

лічынкі вылупляюцца з яечак і разам з выпаражненнямі жывёлы выкідваюцца вонкі. Папаўшы ў падыходзячае знадворнае асяроддзе, лічынка праз шэсць дзён робіцца здольнай зноў заражаць жывёл. Пападае яна зноў у арганізм жывёлы разам з кормам або з вадой. З кішочніка лічынка пападае ў крывяное русло, па якому яна дабіраецца ў бронхі, дзе і развіваецца ў дарослую глісту.

Дыктыёкаулёз цялят прыносіць вялікія страты заражоным гаспадаркам. Хварэе галоўным чынам маладняк буйнай рагатай жывёлы ва ўзросце да 1 года. Спачатку паяўляецца кашаль, які паступова ўзмацняецца і ўчашчаецца. Дыханне робіцца затрудненым. Хвароба зацягваецца і знясіляе жывёлу; іншы раз цячэнне хваробы паляпшаецца і жывёла папраўляецца.

Авечкі, паражоныя дыктыёкаулёзам, заўсёды кашляюць з выдзяленнем з носа слізі; кашаль узмацняецца пры рухах. Не гледзячы на прысутнасць апетыта, авечкі ўсё-ж хутка худзеюць.

Ветурач вызначае захворванне жывёлы дыктыёкаулёзам або шляхам даследвання калу па асобаму метаду, або ўскрыццем паўшых або прырэзаных жывёл.

Агульныя прафілактычныя мерапрыемствы супроць дыктыякаулёза прадугледжваюць: 1) забарону пасвіння на забалочаных, мачажынных участках пашаў і 2) забарону вадапою з лужын, балот, канаў і іншых забруджаных стаячых адкрытых вадаёмаў.

У неблагапалучных пунктах па дыктыёкаулёзу ветсанітар арганізуе правільнае скарыстанне выпасаў такім чынам, каб на кожным пашавым участку жывёлы пасвіліся не звыш шасці сутак (тэрмін развіцця лічынкі глісты па знешняму асяроддзю). Жывёлы праз кожныя шэсць дзён пераводзяцца на другі ўчастак, а скарыстаны астаецца свабодным да наступнага года. План зменнага скарыстання пашаў павінен быць своечасова прапрацаван ветсанітарам сумесна з загадчыкам

жывёлагадоўлі калгаса (соўгаса). Маладняк павінен карыстацца самастойнымі (асобнымі) пашамі.

Побач з правядзеннем агульных прафілактычных мерапрыемстваў у неблагапалучных гаспадарках ветэрынарным персаналам праводзіцца спецыяльная лячэбная апрацоўка. Планавая дэгельментызацыя праводзіцца двойчы ў год: да выгану на пашу і восенню перад пастаноўкай на стойлавае ўтрыманне.

Ветсанітар павінен выконваць усе ўказанні ветурача па тэхніцы дэгельментызацыі і дапамагаць пры арганізацыі работы.

## Аскарыдоз свіней

Аскарыдоз—захворванне свіней, выклікаемае пападаннем у арганізм круглых чарвей, паразітуючых у тонкім аддзеле кішочніка. Асабліва цяжка адбіваецца заражэнне аскарыдамі на парасятах. У іх назіраюцца ў гэтых выпадках расстройства стрававальнага апарата, рэзкі ўпадак сіл, схуданне, малакроўе і нават нервовыя прыпадкі. Больш за ўсё ад аскарыдоза церпіць маладняк 3—9-месячнага ўзросту; дарослыя свінні церпяць менш.

Развіццё аскарыд праходзіць у арганізме свіней прамым шляхам. Свінні, скарыстоўваючы заражоны корм і ваду, праглынаюць лічынкі глістоў. У кішочніку свінні лічынкі асвабаджаюцца ад яйцавай абалонкі і праз 2—$2^{1}/_{2}$ месяцы ператвараюцца ў полаваспелых чарвей. Яечкі аскарыд вельмі ўстойлівы да рознастайных неспрыяльных умоў.

Ветсанітар, які абслугоўвае свінагадоўчую ферму, сочыць за выкананнем усіх патрабаванняў ветэрынарнага мінімума.

У неблагапалучных па аскарыдозу свінагадоўчых фермах ветурачом праводзяцца спецыяльныя лячэбна-прафілактычныя мерапрыемствы.

Ветсанітар прымае непасрэдны ўдзел у дэгельметызацыі стада. Ён пад кіраўніцтвам ветурача арганізуе змену пашаў праз кожныя дзесяць дзён для свабодных ад аскарыдоза свіней і правільны вадапой на летні час. Лепшым вадапоем лічыцца калодзежная вада. Пры немагчымасці карыстацца калодзежамі пажадана змена месц паення праз кожныя дзесяць дзён.

---

## VII. ЯК ПАСЫЛАЦЬ ПАТАЛАГІЧНЫ МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ ДАСЛЕДВАННЯ НА ЗАРАЗНЫЯ (ІНФЕКЦЫЙНЫЯ-ЗАХВОРВАННІ С.-Г. ЖЫВЁЛ

Паталагічны матэрыял (органы, трупы і іх часткі, выдзяленні) павінны дастаўляцца для даследвання свежымі і не разлажыўшыміся. Пасылаемыя на даследванне кавалачкі органаў або вадкасці (кроў, выдзяленні) памяшчаюцца ў шкляную банку (флакон або прабірку), папярэдне чыста вымытую і вытрыманую ў кіпячай вадзе на працягу 15 мінут.

Пры падазрэнні на сібірскую язву для поўнага бактэрыялагічнага даследвання ў лабараторыю (або ветучастак) дастаўляюць вуха паўшай жывёлы. Для гэтага робяць наступнае: вуха паўшай жывёлы туга перавязваюць шпагатам ля кораня, адразаюць ніжэй перавязанага месца і, не здымаючы шпагата, закручваюць у вошчаную або пергаментную паперу. Затым вуха ўпакоўваюць у шкляную банку і адсылаюць у лабараторыю. Месца адрэзу вуха на трупе абпальваюць.

Для вызначэння павалкі буйнай рагатай жывёлы пасылаецца цалкам паражонае лёгкае.

У выпадку, паяўлення масавага аборта коней, буйнай рагатай жывёлы, свіней, авечак пасылаюць для даследвання на інфекцыйны аборт абартаваныя плады цалкам (жарабяты і цяляты без канцавін) і апрача таго кавалак пладовых абалонак і паследа і каляплодную вадкасць (10 куб. см).

Для даследвання на чуму або рожу свіней пасылаюць цалкам труп паўшай жывёлы або ўсе ўнутраныя органы без пашкоджанняў. Пры захворваннях парасят трупы паўшых пасылаюць цалкам.

Для даследвання на інфекцыйныя захворванні трусоў і птушак трупы паўшых пасылаюць цалкам.

Пры падазрэнні на шаленства ў залежнасці ад блізкасці ветэрынарнай лабараторыі пасылаюць труп сабакі цалкам або галаву па магчымасці без пашкоджання чарапной каробкі.

Пры немагчымасці адправіць на даследванне труп цяляці або жарабяці цалкам пасылаюць унутраныя органы: сэрца, лёгкае, печань, селязёнку, почкі, перавязаны страўнік (у цялят сычуг). Адпраўлены матэрыял павінен брацца чыста, без забруджання і памяшчацца ў чыстую пасуду. Разам з матэрыялам пасылаюць дакладнае і падрабязнае апісанне карціны захворвання:

а) назва, № па вопісу, прыметы і ўзрост паўшай жывёлы,

б) пачатак паяўлення хваробы ў гаспадарцы,

в) час захворвання данай жывёлы,

г) колькі часу хварэла паўшая жывёла,

д) прызнакі захворвання,

е) агульная колькасць жывёл ў гаспадарцы,

ж) агульная колькасць захварэўшых і якая колькасць з іх пала,

з) сярэдняя працягласць хваробы,

і) умовы ўтрымання і догляду да пачатку захворванняў,

к) калі ўзят і адпраўлен матэрыял для даследвання.

Пасылаемы для даследвання матэрыял павінен упакоўвацца такім чынам, каб была зусім выключана магчымасць рассейвання заразы, для чаго пасуду з паталагічным матэрыялам старанна абкладваюць ватай або пакляй і памяшчаюць у шчыльна закрываемую

драўляную скрынку. Калі знадворная паверхня пасуды выпэцкана ў часе ўпакоўкі ў яе матэрыялу, то яна пасля ўпакоўкі прамываецца звычайнымі дэзарастворам. Пасылаемыя цалкам органы павінны быць старанна завернуты ў пергаментную паперу і памешчаны ў шчыльна закрытую скрынку. Такім-жа чынам павінны быць упакованы трупы дробных жывёл.

---

## VIII. ШТО ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ ВЕТСАНІТАР АБ ДЭЗІНФЕКЦЫІ

### ПАНЯЦЦЕ АБ ДЕЗІНФЕКЦЫІ І ЯЕ ЗНАЧЭННЕ

Яўна хворая жывёла (або скрыты бацыланосьбіт) з'яўляюцца асноўнай крыніцай разносу заразы. Выдзяляемыя з заражонага арганізма жывёлы праз кал, мачу, кроў, гной, сліну, выцячэнні з носа, родавых і палавых шляхоў заразныя мікробы пападаюць на пашу, выгулы, падлогу памяшканняў, на інвентар для догляду за жывёлай і птушкай, у корм, ваду і т. д.

У знешнім асяроддзі (па-за арганізмам) мікробы, як вядома, захоўваюць сваю жыццездольнасць розны час у залежнасці ад іх уласцівасці і ўмоў, у якіх яны знаходзяцца. Будучы жывымі, мікробы могуць выклікаць адзінкавыя і масавыя захворванні с.-г. жывёл і птушак. Знішчэнне заразных мікробаў і ёсць асноўная задача дэзінфекцыі. Значыцца дэзінфекцыя, знішчаючы заразу, не дае магчымасці яе далейшаму распаўсюджанню. Апрача гэтага ў пэўных выпадках папярэджваецца далейшае яе распаўсюджанне. Апрача гэтага ў пэўных выпадках праводзіцца дэзінсекцыя, г. зн. знішчэнне насякомых і іх яечак на жывёлах і ў памяшканнях.

Ветсанітар, на якога ўскладаюцца абавязкі дэзінфектара, выконвае гэтую работу па ўказаннях ветурача або ветфельчара. Чым раней і часцей будзе праводзіцца абеззаражванне стойла хворай жывёлы, прадметаў догляду, адзення і абутку абслугоўваючага персанала і так далей, тым лепш. Такая дэзінфекцыя,

называемая б я г у ч а й, праводзіцца ўвесь час хваробы жывёл з мэтай сістэматычнага знішчэння ўзбуджальнікаў, выдзяляемых хворымі. Своечасова і сістэматычна знішчаючы хваробатворных мікробаў, ветсанітар папярэджвае гэтым магчымасць паяўлення новых захворванняў у стадзе. Пасля спынення заразнага захворвання ў данай гаспадарцы ветсанітар праводзіць канчатковую, так называемую з а к л ю ч н у ю, дэзінфекцыю. Пры гэтым праводзіцца дэзінфекцыя не толькі месца размяшчэння хворай жывёлы або суседніх стойлаў, але і старанна ачышчаюцца ўсё памяшканне і ўвесь інвентар неблагапалучнай канюшні, кароўніка, свінарніка і т. д.

Дэзінфекцыя, якая сістэматычна праводзіцца ў благапалучнай па заразных хваробах гаспадарках, называецца п р а ф і л а к т ы ч н а й. Яна ставіць сабе задачу пастаянна ствараць здаровую абстаноўку для с.-г. жывёл і птушак, свабодную ад узбуджальнікаў заразных хвароб. З прафілактычнай мэтай напрыклад праводзяць: а) пабелку з дэзінфекцыяй памяшканняў для жывёл 2 разы ў год; б) абеззаражванне кармовых і вадапойных калод (прыкладна адзін раз у месяц); в) пабелку конавязей і карыт у „дамах калгасніка" хлорнай вапнай (прыкладна адзін раз у дэкаду); г) дэзінфекцыю інкубатараў перад закладкай яец і т. д.

## ДЭЗІНФЕКЦЫЙНАЯ ТЭХНІКА

Пад дэзінфекцыйнай тэхнікай падразумеваюць прыёмы, якія прымяняюцца пры абеззаражванні памяшканняў для с.-г. жывёл, інвентара і т. д. Гэтыя прыёмы патрабуюць з боку ветсанітара ўмення абыходзіцца з пэўным інструментарыем, знаёмства з асаблівасцямі мікробаў, падлягаючых знішчэнню, а таксама з прыгатаўленнем, спосабам прымянення і спецыфічным дзеяннем таго ці іншага „дэзасродка".

Для правядзення дэзінфекцыі прымяняюцца: механічны спосаб (ачыстка і абмыванне), фізічны (высокая

тэмпература) і хімічны (напрыклад хлор, сулема, карболавая кіслата, крэалін і да т. п.).

Асноўная дэзінфекцыя хімічная—вільготная або газавая. Яна павінна суправаджацца папярэдняй (падрыхтоўчай) самай стараннай механічнай ачысткай, без якой яна мала дзейсная.

Беспарадкавае, без усякага разбору распырскванне дэзінфіцыруючых вадкасцей звычайна ні да якіх вынікаў не прыводзіць, а выклікае толькі дарэмную трату часу і сродкаў. Таму ветсанітар пры правядзенні ачысткі і дэзінфекцыі абавязан кіравацца ўказаннямі ветурача або ветфельчара.

Ветэрынарны закон патрабуе, каб у неблагапалучных па эпізаотыях гаспадарках перад прымяненнем дэзінфекцыйных сродкаў праводзілася ачыстка, якая ўключае наступныя мерапрыемствы:

1. Гной, накапіўшуюся падсцілку, астаткі корму саломы і т. д. удаляюць і затым або спальваюць, або зарываюць у магільнікі, або падвяргаюць самаперагаранню на асоба адведзеных, па ўказанню ветэрынарнага нагляду, месцах. Драўляныя часткі—карыты, кармушкі, яслі, а таксама драўляная абшыўка,—дзе гэта патрэбна, старанна выскабліваюць: стружкі і наогул астаткі ад такой ачысткі спальваюцца, або зарываюцца ў магільніках, або на асоба адведзеных для гэтага месцах. Падлогі, а раўна і гнаёвыя канаўкі, жыжкастокі і да т. п. добра ачышчаюць ад гною, мачы, бруду і смецця, выскрабаюць і добра паліваюць тым ці іншым дэзінфіцыруючым растворам (напрыклад вапнавым малаком, растворам хларынавай вапны). Зятую ў такіх выпадках зямлю і смецце зарываюць у магільніках або на асоба адведзеных месцах, а замест яе насыпаюць свежага сухога пяску або зямлі.

Знятыя драўляныя часткі падлог выскабліваюць і ачышчаюць; пасля дэзінфекцыі яны могуць быць устаўлены зноў. Непранікальныя падлогі добра прамываюць гарачай вадой з содай, паташом, попельным

шчолакам або зялёным мылам (1—2-працантны раствор). Тое самае робяць і са сценкамі, слупамі, коназямі, сточнымі канавамі і да т. п., зробленымі з непранікальнага матэрыялу. Пры немагчымасці ачысткі гарачым растворам шчолака або мыла трэба мыць гарачай вадой і чыстым пяском.

Драўляныя прадметы догляду, інвентар (пераносныя кармушкі, вёдры, клеткі і т. д), калі яны папярэдне не былі абеззаражаны абпальваннем або іншымі спосабамі, мыюць проста гарачай вадой або гарачым растворам соды, шчолака. Скураныя прадметы (сёдлы, вупраж, рэмні і т. д.) пасля праціранння іх 5-працантным растворам карболкі або мыльна-карболавым растворам абсушваюць і змазваюць дзёгцем.

Пры механічнай ачыстцы і дэзінфекцыі неабходна звяртаць увагу на знішчэнне хваробатворных мікробаў, якія гнездзяцца ў глыбокіх слаях розных паверхней. У гэтых мэтах драўляныя перагародкі, рашоткі і іншае для лепшай механічнай ачысткі рэкамендуецца пры магчымасці разбіраць і лепш апрацоўваць паглыбленні ў сценах, куткі, шчыліны і да т. п.

Пры ачыстцы памяшканняў ветсанітар абавязан папярэдне ўвільгатніць падлогу, сцены, інвентар і т. д. дэзраствором або вадой, каб унікнуць пылу і з ім распаўсюджання мікробаў. Абціранне стойлаў, станкоў, інвентара і да т. п. павінна праводзіцца мокрымі трапкамі. Пры абмыванні і ачыстцы памяшканняў трэба пачынаць з столі, затым пераходзіць да верхніх частак сцен, ясляў, кармушак і нарэшце да падлогі. Двары або плашчадкі каля заражоных памяшканняў для жывёл таксама старанна ачышчаюць ад усякага смецця, гною і т. д.

## Дэзінфіцыруючыя сродкі

Для правядзення дэзінфекцыі неабходны сродкі або вяшчэствы, якія знішчаюць тых ці іншых узбуджальнікаў заразных хвароб. Дэзінфіцыруючыя сродкі

па сваёй прыродзе падзяляюцца на: 1) фізічныя сродкі (сонечныя праменні, кіпяток, агонь, абпальванне) і 2) хімічныя сродкі (крэалін, сулема і т. д.).

## Фізічныя дэзінфіцыруючыя сродкі

Сонечнае святло ў выглядзе прамых праменняў забівае большасць мікробаў пры натуральных умовах на працягу рознага тэрміну. Для скарыстання дэзінфіцыруючага дзеяння святла выносяць прадметы догляду за жывёламі або вупраж днём на паветра і падвяргаюць дзеянню сонечнага святла, а ў памяшканнях адкрываюць дзверы і вокны.

Хоць абеззаражваючае дзеянне сонечных праменняў лічыцца высокім, усё-ж у ветэрынарнай дэзінфекцыі святло прымяняецца толькі як падсобны сродак (у камбінацыі з хімічным абеззаражваннем).

Ва ўмовах калгасаў і соўгасаў шырокае прымяненне павінна знайсці абеззаражванне кіпячай вадой з дабаўленнем 2 проц. вуглекіслай соды, паташа, попельнага шчолаку або зялёнага мыла. Такой кіпячай вадой можна абеззаражваць інвентар, інструменты, металічныя рэчы, а таксама перакладзіны ў станках, кармушках і да т. п.

Для абеззаражвання сухім або вільготна-сухім жарам заражоных тканін (напрыклад папоны, халсты, ручнікі, халаты, прастыні) можна карыстацца гарачым уцюгом (лепш гладзіць вільготныя прадметы).

Металічныя рэчы таксама, як і многія драўляныя прадметы (лапаты, вілы, аглоблі, граблі, скрабніцы і т. д.), можна абеззаражваць абпальваннем або пракальваннем.

У практыцы свінагадоўчых, птушкагадоўчых і трусагадоўчых гаспадарак для дэзінфекцыі часта прымяняецца агонь паяльнай лямпы, які дае добрыя вынікі. Трэба толькі захоўваць строга меры процівапажарнай аховы.

Вымаражванне і іншыя прыёмы, звязаныя са скарыстаннем холаду, не прымяняюцца ў дэзінфіцыруючай практыцы, бо большасць заразных мікробаў пераносяць вельмі нізкую тэмпературу.

## Хімічныя дэзасродкі

Хімічныя вяшчэствы бываюць у цвёрдым, вадкім і газападобным стане. Яны служаць як для вільготнай, так і для газавай дэзінфекцыі. Вільготная дэзінфекцыя заключаецца ў прымяненні абеззаражваючых вадкасцей для прамыўкі, апырсквання або аблівання заражоных памяшканняў, інвентара і т. д. Пры газавай дэзінфекцыі абеззаражанае памяшканне напаўняецца газамі, забіваючымі мікробы, напрыклад сярністы газ, пары фармальдэгіда.

**Сродкі для вільготнай дэзінфекцыі** ўжываюцца ў водных растворах. Моцнасць раствору абазначаецца ў працантах на сто і на тысячу, г. зн. колькасцю частак раствораната сродку ў 100 або 1000 частках раствору. Калі мы гаворым, што нам патрэбен аднапрацантны раствор сернай кіслаты, г. зн., што ў 100 г раствору змяшчаецца 1 г сернай кіслаты і 99 г (куб. см) вады.

Хімічныя дэзінфіцыруючыя сродкі могуць быць скарыстаны для дэзінфекцыі толькі па вызначэнню і пад назіраннем ветурача або ветфельчара. Часцей за ўсё ўжываюцца наступныя хімічныя дэзасродкі.

Сулема (ядавітае вешчаство) ужываецца ў водных растворах моцнасцю 1 і 2 часткі на 1000 частак вады; растворы прыгатаўляюцца ветэрынарным персаналам і могуць ужывацца толькі па яго ўказанню.

Пры абеззаражванні сулемой праз 12—24 гадзіны неабходна змачваць і абціраць абеззаражаныя прадметы 1-або 2-працантным растворам соды. Не трэба рабіць абеззаражвання сулемовымі растворамі пабеленых вапнай паверхней; не прыгодзен таксама сулемовы

раствор для абеззаражвання гною і прадметаў, пакрытых кроўю, гноем або тлушчам, бо ў гэтых выпадках сулема дзейнічае значна слабей, згортваючыся з бялком (альбумінат ртуці) або разлагаючыся (пры вапне).

Крышталічная карболавая кіслата ўжываецца для дэзінфекцыі ў трох-або пяціпрацантных растворах. Абеззаражванне чыстай карболавай кіслатой каштуе вельмі дорага, таму яе змешваць з іншымі вяшчэствамі—з сулемой або зялёным мылам.

Сулемова-карболавы раствор ужываецца для абеззаражвання незабруджаных гноем памяшканняў пасля папярэдняй ачысткі. Састаў раствора: да раствору сулемы (1—2 на 1000) прыбаўляюць 3 проц. чыстай карболавай кіслаты (360 г на 12 л вады). Гэты раствор лічаць надзейным сродкам для дэзінфекцыі пры стойкіх узбуджальніках інфекцый.

Для прыгатаўлення мыльна-карболавага раствору ў гарачай вадзе растваражоць 2 проц. зялёнага мыла і 5 проц. крышталічнай карболавай кіслаты. Мыльна-карболавыя растворы дзейнічаюць, як і іншыя, тым лепш, чым вышэй іх тэмпература, таму ўжываюцца гарачыя растворы ад 50 да 80° або ад 40—65° па Рэамюру. Спачатку ў гарачай вадзе раствараецца зялёнае мыла, затым туды ўліваюць малымі порцыямі, памешваючы, карболавую кіслату. Таксама прыгатаўляецца мыльна-карболавы раствор з неачышчанай (чорнай) карболавай кіслаты.

Мыльна-карболавы раствор ужываецца для абеззаражвання сільна забруджаных памяшканняў (абмываюцца вокны, дзверы, кармушкі, карыты), металічных прадметаў, скураных і гумавых вырабаў, выдзяленняў хворых жывёл і мыючайся вопраткі. Нельга ўжываць гэты раствор для абеззаражвання лакіраваных або паліраваных рэчаў.

Неачышчаная карболавая кіслата ўжываецца ў выглядзе серна-карболавай сумесі

(галоўным чынам для абеззаражвання земляных, гліняных падлог, гнсевых ям).

Серна карболавая сумесь прыгатаўляецца на халаду наступным чынам: у вядро наліваюць абавязкова спачатку неачышчаную карболавую кіслату (3 вагавыя часткі), затым павольна (малымі порцыямі, са значнымі прамежкамі часу, пастаянна памешваючы) па сценцы пасуды прыліваюць неачышчаную серную кіслату (1 вагавая частка); робіцца гэта асцярожна, каб унікнуць закіпання і апёкаў. Сумесь павінна стаяць тры дні, пасля чаго ўжо з яе робіцца 3-або 5-працантны серна-карболавы раствор, г. зн. бяруць 360 або 600 г сумесі на вядро вады ў 12 л. У халодны час года для папярэджання замярзання сумесі рэкамендуецца прыбаўляць 5—10 проц. спажыўнай солі.

Неачышчаная карболавая кіслата пакідае за сабой у абеззаражаных памяшканнях на доўгі час непрыемны пах, таму ёю не рэкамендуецца карыстацца для дэзінфекцыі памяшкання малочнай жывёлы, а таксама складаў захоўвання мяса і яец.

Сасновы дзёгаць мае больш сільныя абеззаражваючыя ўласцівасці, чым бярозавы. Прыгатаўляецца раствор дзёгцю наступным чынам: пяць частак едкага натра (каустычнай соды) раствараюць у 70 частках вады; у гэты раствор павольна пры памешванні дабаўляюць 20—25 частак сасновага дзёгцю. Атрыманую сумесь добра ўзбаўтваюць і перад ужываннем разбаўляюць чатырохкратнай колькасцю вады (1 :4). Ужываецца гэты раствор пры абеззаражванні памяшканняў для жывёл, усякага роду нечыстот і т. д.

Для абеззаражвання свінарнікаў і птушнікаў, пры адсутнасці іншых дэзасродкаў можна прымяняць 5-працантны раствор жалезнага або меднага купароса.

Крэалін шырока прымяняецца як дэзінфіцыруючы сродак у розных галінах жывёлагадоўлі. Яго ўжываюць галоўным чынам у выглядзе 5-працантнага воднага

раствору для дэзінфекцыі памяшканняў с.-г. жывёл і птушак. Ім-жа абеззаражваюць рознастайны інвентар, збрую і прадметы догляду. У птушкапрамысловасці крэалінам дэзінфіцыруюць інвентар адкормачных прадпрыемстваў і інкубатары.

З негашанай вапны прыгатаўляюць так называемае вапнавае малако. Каб атрымаць яго, свежагашаная вапна (добрай якасці) папярэдне гасіцца роўнай або некалькі большай па вазе колькасцю вады ў драўлянай або глінянай пасудзе. Прыбаўляць ваду трэба не адразу, а паступова, добра перамешваючы вапну (неабходна сачыць за тым, каб пырскі не папалі ў вочы, на рукі, на вопратку і абутак). Кавалак вапны сільна разаграваецца і рассыпаецца ў белы, мяккі, сухі парашок.

20 вагавых частак гашанай вапны з 80 часткамі вады даюць 20-працантнае вапнавае малако, а 10 вагавых частак з 90 часткамі вады даюць 10-працантнае вапнавае малако. Вапнавае малако павінна ўжывацца свежапрыгатоўленым (у дзень прыгатаўлення).

Каб вапнавае малако шчыльней приставала да абеззаражваемых прадметаў, да яго на вядро прыбаўляюць дзве сталовыя лыжкі зялёнага мыла. Перад ужываннем вапнавае малако ўстрахваюць або перамешваюць. Гэтым дэзасродкам абеззаражваюць сцены ў памяшканнях, выдзяленні жывёл, выграбныя і сточныя воды, земляныя і каменныя падлогі; пабелка памяшканняў па магчымасці паўтараецца адразу пасля высыхання папярэдняй пабелкі.

Ужываемая для дэзінфекцыі хлорная вапна павінна быць сухой і мець сільны пах хлора. Хлора павінна быць не менш 25 проц. Ужываецца ён у выглядзе 1—5-працантнага раствора.

Перад ужываннем раствор неабходна добра ўзбаўтваць. Растворам хлорнай вапны абеззаражваюць гнаёвыя кучы, выграбныя ямы, сточныя воды, падлогі, сцены і драўляныя прадметы. Для абеззаражвання

вопраткі і рэчаў з тканак хлорная вапна не прыгодна, бо яна іх раз'ядае. Захоўваецца хлорная вапна ў шчыльна закрытай пасудзе па-за жылымі памяшканнямі.

Для дэзінфекцыі сільна забруджаных частак і абсталявання можна ўжываць г а р а ч ы р а с т в о р з я л ё н а г а м ы л а: на вядро кіпячай вады 400 г зялёнага мыла.

Для дэзінфекцыі шырока прымяняецца попельны шчолак. Для гэтага бяруць попел, прасейваюць праз сіта і дабаўляюць у колькасці 1,5—2 кг на вядро крутога кіпятка пры памешванні палкай.

## Дэзінфекцыйныя прыборы

Для прымянення водных дэзінфіцыруючых раствораў неабходзен спецыяльны інструмент, які называецца **гідрапультам.** Ён прадстаўляе сабой ручны вадзяны насос, вырабляемы з метала або эбаніта, і служыць для распырсквання вадкасцей. Найбольш зручны металічныя гідрапульты, умацаваныя на падстаўцы з выкідваючымся рукавом і распыліцелем. Для таго каб металічныя гідрапульты не псаваліся, неабходна, як правіла, пасля заканчэння работы іх прамываць вадой, а пасля сулемы—5-працантным растворам соды. Перад дэзінфекцыяй правяраецца спраўнасць гідрапульта; пасля дэзінфекцыі з яго ўдаляецца ўся вадкасць, і ён старанна праціраецца. Апрача гідрапультаў у калгасах (соўгасах) ужываюцца рознага роду апырскваці.

Пры вапнаванні выгулаў карыстаюцца т у к а в а й а б о р а д а в о й с е я л к а й. Падлогі ў памяшканнях можна ўвільгатняць растворам з с а д о в а й л е й к і.

## ЯК ПРАВОДЗІЦЦА ВЕТСАНІТАРАМ ДЭЗІНФЕКЦЫЯ ПРЫ УСПЫШКАХ ЗАРАЗНЫХ ХВАРОБ

У выпадку падзяжу або захворвання жывёл сібірскай язвай, шумячым карбункулам і злаякасным ацёкам ветсанітар праводзіць дэзінфекцыю ў наступным парадку:

а) перад механічнай ачысткай усе падазроныя па заражэнню месцы і прадметы абліваюць (апырскваюць) адным з наступных раствораў: хлорнай вадой, 10—20-працантным растворам хлорнай вапны, попельным растворам, 5-працантным растворам серна-карболавай сумесі або сулемова-карболавым растворам;

б) гной ад хворых або паўшых жывёл, падсцілка, а таксама астаткі кармоў падлягаюць спальванню;

в) земляныя і глінабітныя падлогі ў месцах знаходжання хворых або паўшых жывёл здымаюцца на 2—3 см; драўляны насціл падлог здымаецца, а ляжачая пад імі зямля, прапітаўшаяся мачой або гнаёвай жыжкай, выграбаецца і вывозіцца на жывёламагільнік;

г) столь і сцены беляцца з прымессю якога-небудзь хімічнага дэзасродка (крэалін, жалезны купарос);

д) узамен знятай зямлі насцілаюць новы слой, прычым да гэтага аголеную частку залліваюць хлорнай вапнай (4—10 проц.);

е) увесь інвентар заражоных памяшканняў старанна змачваецца дэзараствopам (напр. гарачым попельным шчолакам).

Пры ўсіх астатніх заразных захворваннях жывёл (сап, туберкулёз, мыт, бруцэлёз, злучная хвароба і т. д.) ветсанітар павінен праводзіць вымушаную дэзінфекцыю наступным чынам: перш за ўсё ўдаляюць увесь гной, падсцілку і астаткі корму на адасоблены ўчастак, дзе ўсе гэтыя адкіды абеззаражваюцца па ўказанню ветперсанала. Земляныя і глінабітныя падлогі, заражоны ўчастак глебы, а таксама зямлю з-пад драўляных падлог у месцах знаходжання паўшых або хворых жывёл здымаюць на глыбіню прапітвання выдзяленнямі хворых жывёл; зняты слой зямлі вывозяць на жывёламагільнік і зарываюць на глыбіню не менш 2 м. Усе заражоныя прадметы, якія мелі судакрананне з хворымі або паўшымі жывёламі, старанна ачышчаюцца шляхам абмывання крутым кіпятком або гарачым попельным шчолакам, ці якім-небудзь хімічным дэзасродкам.

Пры каросце і стрыгучым лішаі неабходна старанна ачысціць памяшканні і конавязі ад гною і бруду. Пасля гэтага іх абеззаражваюць 10-процантным растворам вапнавага малака або 3—5-процантным растворам хлорнай вапны. Шчоткі і скрабніцы апускаюць у 5-процантны раствор карасіна ў мыльнай вадзе або 5-процантны раствор крэаліна або лізола. Вупраж змазваюць дзёгцем; войлачныя прадметы апарваюць кіпятком, шчолакам, або змачваюць 5-процантным растворам крэліна або лізола.

Пры яшчуры, а таксама чуме свіней пасля стараннай ачысткі для дэзінфекцыі неабходна ўжываць 1—2-процантны раствор едкага натра на гарачай вадзе. У выпадку яго адсутнасці трэба ўжываць хлорную вапну і вапнавае мыла. Пры плеўра-пнеўмоніі і інфлюэнцы коней, повалцы рагатай жывёлы, воспе авечак, халеры і дыфтэрыце птушак, а таксама злаякасным насмарку трусоў для абеззаражвання памяшканняў можна прымяняць пад кіраўніцтвам ветурача газападобны хлор з папярэдняй апрацоўкай падлогі хлорнай вадой. Для газавай дэзінфекцыі прымяняюцца таксама пары фармальдэгіда (фармалінізацыя).

У памяшканнях для малочнай жывёлы ветсанітар не павінен прымяняць для дэзінфекцыі дэзарастворы са спецыфічным пахам, бо гэта можа адбіцца на якасці малака.

Соўгас (калгас) абавязан снабдзіць ветсанітара спецыяльнай вопраткай для правядзення дэзінфекцыі. Ветсанітар пры правядзенні дэзінфекцыі не мае права есці і курыць у абеззаражваемым памяшканні.

## ЯК ПРАВОДЗІЦЦА АБЕЗЗАРАЖВАННЕ ГНОЮ

Абеззаражванне гною хімічнымі сродкамі не робіцца, бо пасля гэтага ён псуецца як угнаяльны матэрыял. Таму пры наяўнасці сібірскай язвы, злаякаснага ацёку, шумячага карбункула гной павінен спальвацца. Пры

астатніх заразных хваробах, калі гной хочуць скарыстаць для ўгнаення, то яго абеззаражваюць так называемым біялагічным метадам (рыс 25). Узбуджальнікі сапу, чумы і рожы свіней, павалкі рагатай жывёлы, туберкулёза і бруцэлёза ўсіх відаў гінуць у гнаёвай кучы пэўнай глыбіні праз 14 дзён.

Для таго каб стварыць у гнаёвай кучы тэмпературу неабходную для абеззаражвання гною, яе пакрываюць знадворку незаражаным гноем, саломай, паверх якіх




Рыс. 25. Будова куч для абеззаражвання гною.

кладзецца слой пяску, зямлі, лісцеў або торфу. Кучу гною ўкладваць наступным чынам: накладваюць слой саломы або незаражанага гною таўшчынёй у 0,25 м і шырынёй у 1,5—1,75 м. Затым накладваюць заражоны гной вышынёй у 1 м. Заражоны слой кучы пакрываюць на 10—15 см такім-жа слоем незаражанага гною або саломы, якім быў першы слой кучы. Затым накладваюць паверх яшчэ слой пяску або сухой зямлі таўшчынёй у 10—15 см; з прычыны таго, што брадзільныя працэсы ў конскім гнаі ідуць хутчэй, рэкамендуецца пры абеззаражванні гною іншых жывёл змешваць яго з конскім гноем на 25 проц. яго колькасці. Кучы

абеззаражваемага такім чынам гною павінны быць аховаваны ад доступу жывёл. Праз месяц такую гнаёвую кучу можна вывозіць у поле.

## ДЭЗІНСЕКЦЫЙНЫЯ СРОДКІ

Наскурныя паразіты адыгрываюць вялікую ролю ў распаўсюджанні заразных хвароб. Некаторыя хваробы перадаюцца кляшчамі, напрыклад піраплазмоз, або клапамі, напрыклад спірахетоз курэй. Рад хвароб можа перадавацца рознымі спосабамі, у тым ліку мухамі (напрыклад сібірская язва) або наскурнымі паразітамі— блохамі, вошамі (напрыклад халера курэй). Некаторыя паразіты з'яўляюцца самі ўзбуджальнікамі хваробы (кароставыя кляшчы). Многія наскурныя паразіты, не з'яўляючыся нават пераносчыкамі заразных хвароб, наносяць многа непакою жывёлам і птушкам аслабляючы іх арганізм і выклікаючы часам знесіленне. Барацьба з насякомымі, або інакш кажучы дэзінсекцыя, мае важнае прафілактычнае значэнне. З дэзінсекцыйнай мэтай прымяняюць фізічныя, хімічныя і камбінаваныя сродкі.

З фізічных сродкаў у дэзінсекцыі прымяняюцца высокая тэмпература ў форме гарачага пару і сухога жару. Падача гарачага пару робіцца шлангамі з кацельнай або пры дапамозе так называемых ручных кіпяцільнікаў. Для прымянення сухога жару карыстаюцца полымем паяльнай лямпы. Для дэзінсекцыі спецвопраткі ўжываюць гарачы ўцюг.

З хімічных сродкаў для ветэрынарнай дэзінсекцыі прымяняюцца: карасін, шкіпідар, бензін, крэалін, далмацкі парашок, табачны пыл, нафталін, фторысты натр, мыш'яковісты натр і інш.

Пры вільготнай дэзінсекцыі памяшканняў для с.-г. жывёл і птушак ужываецца гарачы 5—10-процантны раствор нафталізола, крэаліна і серна-карболавай сумесі. Карасінам, бензінам і шкіпідарам старанна змаз-

ваюць у памяшканнях усе шчыліны, у якіх гнездзяцца наскурныя паразіты.

Для барацьбы з кароставымі кляшчамі праводзяць згодна ўказання ветурача купанне авечак або абмыванне буйных с.-г. жывёл у розных растворах (гл. раздзел аб каросце). З кляшчамі, пераносчыкамі піраплазмоза, барацьба вядзецца шляхам меліярацыі забалочаных пашаў, змены выпасных участкаў і проціклешчавымі ваннамі з раствору мыш'яковістага натра (гл. раздзел аб піраплазмозе).

У птушкагаспадарках, дзе стада паражана наскурнымі паразітамі, праводзіцца купанне птушак $^{1}/_{2}$ працантным растворы фторыстага натра. У халоднае надвор'е, калі купанне немагчыма, праводзяць прыпудрыванне птушак пад крыллямі фторыстым натрам.

Апрача вадкасцей для дэзінсекцыі прымяняюцца газы: фармальдэгід, сярністы ангідрыд, хлор і хлорпікрын. Паколькі некаторыя газападобныя вяшчэствы належаць да разраду атрутных вяшчэстваў, газавая дэзінсекцыя можа праводзіцца толькі па вызначэнню ветурача і пад яго кіраўніцтвам.

---

# ЗМЕСТ

*Стар.*

Рэдактар *А. Іваноў* Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Літпраўка *Т. Кудрук* Карэктар *Т. Адамовіч*

Здана ў друкарню 10/I—36 г. Падпісана да друку 7/III—36 г. Аб'ём 5¼ друкаван. арк. Папера 72×105 1/32. Знакаў у друкаван. арк. 64.448. Тыраж 5185. Заказ № 54. Уп. Галоўлітбела №Б 1011.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Энгельса, 2.

